Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# ДЗЕСЯЦЬ ГОД
## БЕЛАРУСКАГА ДЗЯРЖАЎНАГА УНІВЭРСЫТЭТУ
## 1921 — 11/VII — 1931



ВЫДАНЬНЕ ЎРАДАВАЕ КАМІСІІ ПА СЬВЯТКАВАНЬНІ ДЗЕСЯЦІГОДЗЬДЗЯ ВЫШЭЙШАЕ ШКОЛЫ Ў БССР

МЕНСК — 1931

# ДЗЕСЯЦЬ ГОД
## БЕЛАРУСКАГА ДЗЯРЖАЎНАГА УНІВЭРСЫТЭТУ
## 1921—$\frac{11}{VII}$—1931

ВЫДАНЬНЕ ЎРАДАВАЕ КАМІСІІ ПА СЬВЯТКАВАНЬНІ
ДЗЕСЯЦІГОДЗЬДЗЯ ВЫШЭЙШАЕ ШКОЛЫ Ў БССР

МЕНСК—1931

А. М. ПЛАТУН.

Народны Комісар Асьветы БССР

# Вышэйшая Асьвета ў БССР за дзесяцігодзьдзе (1921—1931).

11-га ліпеня 1931 году мы сьвяткуем адну з вялізарнейшых перамог рабочае клясы пад кіраўніцтвам Комуністычнай партыі ў галіне соцыялістычнага будаўніцтва—10 год існаваньня Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту, як першай вышэйшай школы ў БССР.

Да гэтага часу, як вядома, на Беларусі ня толькі ня было ніводнай вышэйшай школы, але і нават вельмі слаба была разгорнута наогул народная асьвета.

БССР да рэволюцыі была аднэй з самых адсталых у эканомічных і гаспадарчых адносінах „акраінай„ быўшай царскай імпэрыі. Прайшоў толькі год пасьля вызваленьня БССР ад белапольскай окупацыі, рабочая кляса толькі пачала залечваць раны, аднаўляць разбураную народную гаспадарку пасьля імпэрыялістычнай і грамадзянскай войн, і ўжо адразу відавочна было, што нам патрэбны будуць нашы пролетарскія кадры, без якіх вельмі трудна ці бадай не магчыма з посьпехам аднаўляць гаспадарку.

Будаваць культуру, організоўваць вышэйшую школу ў тагачасных умовах было надзвычайна цяжка, таму, што трэба было залечваць раны, нанесеныя „культурнымі“ окупантамі. Уся напружанасьць працоўных мас Савецкай Беларусі была накіравана на аднаўленьне разбуранай гаспадаркі, на выхад з таго цяжкага матар'яльнага становішча, з голаду, паўнейшай разрухі, у якіх апыніўся ўвесь Савецкі Саюз пасьля грамадзянскай вайны і асабліва Савецкая Беларусь.

Было яшчэ цяжка таму, што мы ня мелі ня толькі адпаведных будынкаў для вышэйшай школы, але і тыя будынкі, і тое нязначнае абсталяваньне сярэдніх навучальных установ, якое было ў гор. Менску, былі разбураны белапольскімі окупантамі. Імпэрыялістычная і грамадзянская вайна расьсеяла нязначную колькасьць адданых рабочай клясе культурных сіл.

Некаторая частка інтэлігенцыі, якая ўвесь час заставалася ў г. Менску, ня толькі не спрыяла організацыі вышэйшай школы, але шкодзіла. Матар'ялы, якія собраны ў гэтай кніжцы, аб гэтым яскрава гаворыць, асабліва арт. Акадэміка Кроля. І вось пры такіх умовах пачалася організацыя БДУ.

Першыя годы работа праходзіла ў надзвычайна цяжкіх умовах: непрыстасаванасьць, раскіданасьць па ўсяму гораду будынкаў, лябораторый, габінэтаў, клінік і г. д.; недахоп навуковых сіл— (адзін профэсар кіраваў 3-4 катэдрамі, ня рэдка зусім розных спэцыяльнасьцяй); недахоп падрыхтаваных пролетарскіх і бядняцка-серадняцкіх контыгэнтаў дзеля прыёму ў вышэйшыя школы; засьмечанасьць ідэолёгічна-клясава варожымі элемэнтамі, як навуковага, гэтак і студэнцкага складу,—усе гэта ня толькі не застанавіла ад упартай работы, але яшчэ з большай заўзятасьцю, з большай упартасьцю ўсе гэтыя труднасьці і перашкоды рабочая кляса перамагала і перамагае надалей.

На сёньняшні дзень мы маем вялізарнейшыя дасягненьні ва ўсім социялістычным будаўніцтве, — мы ўжо адбудавалі разбураную народную гаспадарку, уступілі ў рэконструкцыйны пэрыод нашай промысловасьці, шпаркімі тэмпамі праводзім соцыялістычную рэконструкцыю сельскае гаспадаркі, — на гэтай базе пашыраецца і паглыбляецца работа па культурнаму ўздыму працоўных мас.

К сёньняшняму дню мы ў культурным будаўніцтве маем вялізарнейшыя посьпехі; замест аднаго БДУ у нас ужо налічваецца 12 вышэйшых школ; замест некалькіх соцен студэнтаў у вышэйшай школе 21-22 года — мы зараз налічваем ужо звыш 10.000 студэнтаў.

З 70% няпісьменнага насельніцтва мы ў 32 годзе заканчваем ліквідацыю няпісьменнасьці сярод усяго працоўнага насельніцтва БССР; з посьпехам выконваем задачу па ўсеагульнаму навучаньню, якое ўведзена ў нас, пачынаючы з 1929 году. Ва ўсіх зьвеньнях школ навучаюцца ў БССР каля паўтара мільёна чалавек, гэта значыць каля 30% ўсяго насельніцтва БССР.

Наступныя даныя характарызуюць падрыхтоўку кадраў па БССР, пачынаючы з 1921/22 г.

**а) Вышэйшыя навучальныя ўстановы.**

У 1921/22 г. была адна вышэйшая навучальная ўстанова—БДУ з колькасьцю вучняў . . . . . . 1.535 ч.

У 1926/27 г. 4 навучальныя ўстановы з колькасьцю вучняў . . . . . . . . . . . . . . . . 4.699 ч.

У 1929/30 г. 12 навучальных устаноў з колькасьцю вучняў . . . . . . . . . . . . . . . . 4.980 ч.

У 1930/31 г. 12 навучальных установ з колркасьцю вучняў . . . . . . . . . . . . . . . . 5.995 ч.

**б) Розныя тэхнікумы.**

У 1921/22 г. 4 навучальныя ўстановы з колькасьцю вучняў . . . . . . . . . . . . . . . . 570 ч.
У 1926/27 г. 32 навучальныя ўстановы з колькасьцю вучняў . . . . . . . . . . . . . . . . 5.151 ч.
У 1929/30 г. 36 навучальных установ з колькасьцю вучняў . . . . . . . . . . . . . . . . 7.295 ч.
У 1930/31 г. 65 навучальных установ з колькасьцю вучняў . . . . . . . . . . . . . . . .11.559 ч.

**в) Рабфакі (дзенныя і вячэрнія).**

У 1921/22 г. 2 навучальныя ўстановы з колькасьцю вучняў . . . . . . . . . . . . . . . . 387 ч.
У 1926/27 г. 4 навучальныя ўстановы з колькасьцю вучняў . . . . . . . . . . . . . . . . 845 ч.
У 1929/30 г. 11 навучальных установ з колькасьцю вучняў . . . . . . . . . . . . . . . . 2.223 ч.
У 1930/31 г. 24 навучальных установ з колькасьцю вучняў . . . . . . . . . . . . . . . . 6.595 ч.

І потым для болей поўнай карціны ў пытаньні аб падрыхтоўцы кадраў неабходна прывесьці даныя адносна якаснага складу студэнтаў:

## Соцыяльны склад:

**а) ВНУ**

| | | | |
|---|---|---|---|
| Процант рабочых | у 1926/27 г.. | 14,6 | |
| „ „ | „ 1928/29 г.. | 29,2 | |
| „ „ | „ 1929/30 г.. | 41,8 | |
| „ „ | „ 1930/31 г.. | 37,0 | (васен. прыём) |
| Процант селян | у 1926/27 г.. | 49,9 | |
| „ „ | „ 1928/29 г.. | 46,5 | |
| „ „ | „ 1929/30 г.. | 36,2 | |
| „ „ | „ 1930/31 г.. | 32,4 | |

**б) Тэхнікумы.**

| | | |
|---|---|---|
| Процант рабочых | у 1926/27 г. | 14,8 |
| „ „ | „ 1928/29 г. | 33,1 |
| „ „ | „ 1929/30 г. | 31,2 |
| „ „ | „ 1930/31 г. | 21,9 |

| | | | |
|---|---|---|---|
| Процант сялян | „ 1926/27 г. | . . . | 49,6 |
| „ „ | „ 1928/29 г. | . . . | 42,3 |
| „ „ | „ 1929/30 г. | . . . | 50,2 |
| „ „ | „ 1930/31 г. | . . . | 59,3 |

Увага: Тутака неабходна агаварыцца, што за 1930 і 1931 г. г. як па ВНУ так і тэхнікумам зьвесткі ўзяты толькі па пэдагогічных і экономічных навучальных установах.

**в) Рабфакі.**

| | | | |
|---|---|---|---|
| Процант рабочых | у 1926/27 г. | . . . | 41,7 |
| „ „ | „ 1928/29 г. | . . . | 66,0 |
| „ „ | „ 1929/30 г. | . . . | 82,2 |
| „ „ | „ 1930/31 г. | . . . | 82,6 |
| Процант селян | „ 1926/27 г. | . . . | 58,3 |
| „ „ | „ 1928/29 г. | . . . | 29,2 |
| „ „ | „ 1929/30 г. | . . . | 15,3 |
| „ „ | „ 1930/31 г. | . . . | 11,4 |

З прыведзеных даных відна, што социяльны склад, пачынаючы з 1926 па 1930/31 г., па курыі рабочых увесь час паляпшаецца, і толькі 1931 г. дае па пэдагогічных і экономічных ВНУ—памяншэньне курыі селян, па тэхнікумах жа—павялічэньне курыі селян.

Навукова-дасьледчая работа БССР, так-жа як і ўсё культурнае будаўніцтва, пачало займаць даволі шырокае месца у социялістычным будаўніцтве толькі з 1929/30 г., і 1930/31 г. зьяўляецца пераломным годам у пастаноўцы навукова-дасьледчай работы. Так, напрыклад, калі ў 1929/30 г. на навукова-дасьледчую работу асыгнавана па бюджэту 2.842.250 руб., то на 1931 г. запроэктавана 5.510.100 руб., г. зн. павялічэньне на 93,4%.

Зараз мы налічваем цэлы шэраг навукова-дасьледчых інстытутаў па розных галінах гаспадарчага і культурнага будаўніцтва, як напрыклад: а) Беларуская Акадэмія Навук, першапачатковай організацыяй якой была створаная ў свой час тэрміналёгічная комісія пры Наркомасьвеце БССР. Потым комісія гэта вырасла ў Інстытут беларускай культуры (Інбелькут), які быў вылучан у самастойную адзінку, непасрэдна падпарадкаваную Совнаркому. У 1928 г. Інбелькульт рэорганізован у Беларускую Акадэмію Навук. З прычыны таго, што галоўным цэнтрам, дзе концэнтраваліся беларускія нацыянал-дэмократы, была Беларуская Акадэмія Навук, — гаварыць аб карыснай працы акадэміі прыходзіцца вельмі мала, бо стаячыя на чале тых альбо іншых галін навуковадасьледчай работы акадэміі нацыянал-дэмократы галоўным чынам

скарыстоўвалі гэтую работу на шкоду працоўным, хаця цэлы шэраг работ, праверaных Акадэміяй Навук, мае сваё станоўчае значэньне для разьвіцьця навукова-дасьледчай справы ў Беларусі;—б) Інстытут Сельскай Лясной Гаспадаркі імя Леніна, які ў гэтым годзе рэорганізован у цэлы рад самастойных Інстытутаў: Балотны Інстытут (агульнасаюзнага значэньня), Лясны Інстытут, Сьвінагадоўчы Ін-т, як філіал агульнасаюзнага Інстытуту, Інстытут соцыялістычнага земляробства.

Акрамя гэтага маецца яшчэ цэлы шэраг другіх інстытутаў, як напрыклад, Інстытут Працы, Інстытут Санітарыі і Гігіены, Бактэрыолёгічны Інстытут, Пэдолёго-пэдагогічны Інстытут.

Тэмпы, размахі нячуваныя... тэмпы, размахі, якія магчымы толькі пры ўладзе працоўных, тэмпы, якіх мы дасягнулі толькі дзякуючы Кастрычнікавай Рэволюцыі.

Вялізарнейшае значэньне для разьвіцьця народнае асьветы, для культурнага ўздыму працоўных мас наогул, мае правільнае ажыцьцяўленьне ленінскай нацыянальнай палітыкі Комуністычнай партыі. Трэба сказаць, што да Кастрычнікавай рэвалюцыі не было ні воднай школы на мовах нацыянальнасьцяй, насяляючых БССР. Зараз усе нашы школы працуюць на родных мовах гэтых нацыянальнасьцяй. Зараз усе нашы ўстановы наогул, як культурныя, гэтак савецкія, партыйныя, гаспадарчыя, грамадзкія — таксама прыстасаваны да абслугоўваньня на родных мовах.

Нельга тут не адзначыць і тае дапамогі, якія аказваецца Саюзным урадам, як экономічнаму, так і культурнаму росту БССР. Клясава-варожыя элемэнты імкнуліся скарыстаць навучальныя ўстановы і наогул культполітасьветныя ўстановы ў сваіх клясава-варожых мэтах. Беларускія нацыянал-дэмократы, якія на словах гаварылі аб тым, што яны стаяць за шырокае разгортваньне культурнага будаўніцтва, сапраўды-ж зьявіліся шкоднікамі ня толькі ў якаснай рабоце па абслугоўваньні культасьветн. устаноў, але і тыя пляны і наметкі, якія рабіліся, ня толькі нам не гаворaць аб паступовым прасоўваньні наперад, ня кажучы ўжо аб бальшавіцкіх соцыялістычных тэмпах, але гаворaць нам аб тым, што гэтыя наметкі рабіліся, у прыватнасьці Народным Комісарыятам Асьветы, з пэрспэктывай на стабільнасьць і нават у паасобных выпадках на „патухаючую крывую“.

Рабіўся сьвядомы разрыў паміж запатрабаваньнем і задавольваньнем і гэтым самым імкнуліся, праз незадавольваньне культурным абслугоўваньнем працоўных мас, праз незадавольваньне пролетарскімі кадрамі, сарваць тэмпы гаспадарчага соцыялістычнага будаўніцтва.

Нам усім вядомы тыя ўстаноўкі, якія рабіліся ў програмах, падручніках і нават у статуце школы. Гэтыя програмы і падручнікі ў сваёй значнай частцы ня толькі не адпавядалі ўстаноўкам партыі, а наадварот зьяўляліся варожымі партыі ўстаноўкамі, якія накіраваны былі на выхаваньне працоўных мас супроць Комуністычнае партыі, супроць Савецкае ўлады за рэстаўрацыю капіталізму.

Рабочая кляса, пад кіраўніцтвам Комуністычнае партыі выявіла, разбурыла нацдэмократычную групу, выкрыла іх варожыя ўстаноўкі, і перад намі зараз стаіць вялізарнейшая задача — канчаткова выкарчаваць рэшткі нацдэмократызму.

Рабочай клясе пад кіраўніцтвам Комуністычнай партыі яшчэ патрэбна будзе ў бліжэйшы тэрмін правесьці вялікую работу па правільнаму ажыцьцяўленьню нацыянальнай палітыкі, ва ўсіх галінах нашага будаўніцтва, у прыватнасьці на ўсім ідэолёгічным фронце і на яго вузаўскім вучастку.

У дзень заснаваньня Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту, у дзень дзесяцігодзьдзя вышэйшай школы на Беларусі, горача вітаю навукова-выкладчыцкі склад і пролетарскае студэнцтва вышэйшых навучальных установ БССР.

*Няхай жыве вышэйшая школа БССР — моцны аплот пролетарскай культуры Савецкай Беларусі!*

*Няхай жыве Комуністычная партыя — організатар і кіраўнік нашай барацьбы і перамог на ўсіх вучастках соцыялістычнага будаўніцтва!.*

Я. КАРАНЕЎСКІ.
Рэктар БДУ

# Роля Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту ў падрыхтоўцы кадраў.

*(Да 10-ці годзьдзя БДУ 1921—1931 г.).*

Беларускі Дзяржаўны Унівэрсытэт, адчынены ў г. Менску 11 ліпеня 1921 г., у першую гадавіну вызваленьня БССР ад панскай белапольскай окупацыі, ёсьць дзецішча Вялікае Кастрычнікавае Рэволюцыі. Толькі дзякуючы творчай будаўнічай сіле пролетарскай рэволюцыі, організаванай і кіруемай Ленінскай Комуністычнай партыяй бальшавікоў, пры неаслабнай заўсёднай дапамозе рабочае клясы СССР, працоўныя масы Савецкай Беларусі маюць на сёньняшні дзень 12 вышэйшых школ і ў гэтым ліку Беларускі Дзяржаўны Унівэрсытэт—сапраўдны рассаднік пролетарскай навукі, культуры і ведаў.

Да Кастрычнікавай Рэволюцыі 1917 г. на Беларусі не існавала ніводнае навучальнае ўстановы. Памешчыцка-буржуазнаму ўраду было царскае Расіі, у складзе якой Беларусь была на палажэньні колёніі, для лепшай шырокай эксплёатацыі рабочых і працоўнага сялянства і іх нацыянальнага прыгнечаньня невыгодна было ўтвараць на Беларусі вышэйшую школу. Царскі ўрад на працягу стагодзьдзя накіроўваў на Беларусь надзейных для сябе спэцыялістаў-інжэнераў, аграномаў, дактароў, пэдагогаў і ўсіх рангаў чыноўнікаў не для вывучэньня экономікі краю і падняцьця продукцыйных сіл, не для падняцьця культурнага ўзроўню сярод працоўнага насельніцтва Беларусі, а дзеля таго, каб праз іх як самых верных сатрапаў і адданых сваіх слуг, весьці бязьлітасную эксплёатацыю рабочых і ўсяго працоўнага насельніцтва, цьвёрда і рашуча праводзіць русыфікацыю краю, надзейна трымаць працоўных у нявольніцтве і цямноце.

Да гэтага букету чорнасоценцаў, працаваўшых у якасьці спэцыялістаў пры царызьме, трэба дадаць для поўнае карціны групу мясцовай буржуазнай і дробна-буржуазнай беларускай нацыянал-дэмократычнай і шовіністычнай інтэлігенцыі, актыў-

ных заклятых ворагаў Савецкай ўлады з першых дзён Кастрычнікавай Рэволюцыі тыпу Лёсіка, Смоліча, Цьвікевіча, Ластоўскага, Луцкевіча, Астроўскага і К-о. Вось з якога роду ў сваёй большасьці спэцыялістамі ва ўсіх галінах народнае гаспадаркі і культуры спаткалася Комуністычная партыя і рабочая кляса ў першыя дні ўтварэньня Савецкай ўлады на Беларусі. Пасьля окупацый Беларусі (нямецкай, белапольскай) заставалася ў Савецкай Беларусі невялікая колькасьць спэцыялістаў і інтэлігенцыіі, адданых Савецкай ўладзе, якіх рабочая кляса пад кіраўніцтвам Компартыі магла скарыстаць для соцыялістычнага будаўніцтва.

Усё гэта было ўлічана Компартяй і органамі Сав. Улады з самага пачатку існаваньня БССР. Адсюль побач з важнейшымі мерапрыемствамі па узмацненьні заваёў Кастрычніка, па ўзмацненьні дыктатуры пролетарыяту ў Савецкай Беларусі, КП(б)Б і рабочаю клясаю была пастаўлена ва ўсёй сваёй грандыёзнасьці проблема падрыхтоўкі сваіх пролетарскіх высока-кваліфікаваных кадраў *для ўсіх галін соцыялістычнае гаспадаркі і пролетарскай культуры*, кадраў, выходзячых з рабочых і працоўнага сялянства, асноўнага насельніцтва ўсіх нацыянальнасьцяй Савецкай Беларусі, ведаючых экономіку, гісторыю, быт, мову працоўнага насельніцтва Беларусі, кроўна зацікаўленых соцыялістычным будаўніцтвам БССР.

Вось чаму яшчэ ў 1919 годзе Савецкім урадам Літоўска-Беларускай ССР організавана была пры Наркомасьвеце спэцыяльная комісія па ўтварэньні ў Менску Дзяржаўнага Універсытэту. Аднак толькі пасьля вызваленьня Савецкай Беларусі ад белапалякаў ў 1920 г. зьявілася магчымасьць рабочай клясе БССР паставіць на чаргу дня пытаньне аб адчыненьні ў Менску Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту. На другім Усебеларускім зьезьдзе саветаў, які праходзіў ў сьнежні 1920 г., па дакладу Наркомасьветы было вынесена рашэньне аб утварэны Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту, з рабочым пры ім факультэтам. У тэрміновым парадку пасьля гэтага была організавана ў Маскве Наркомасьветаю РСФСР асобая комісія па організацыі Беларускага Дзяржаўнага У-ту. Другая комісія была організавана ў Менску пры ЦВК БССР ў дапамогу Маскоўскай. У задачу Маскоўскай комісіі ўваходзіла намеціць структуру Унівэрсытэту, выпрацаваць навучальныя пляны, падабраць навуковыя сілы для яго і выявіць рад неабходных умоў ў Менску для адчыненьня Універсытэту.

У красавіку 1921 году Прэзыдыум ЦВК БССР па пытаньні аб адчыненьні ў Менску Бел. Дзяр. Унівэрсытэту прыняў наступную пастанову: „Прызнаючы, што адчыненьне Унівэрсэтыту ў

г. Менску зьяўляецца справаю першараднай дзяржаўнай важнасьці і настойліва патрабуецца культурнымі і экономічнымі і політычнымі інтарэсамі рабоча-сялянскага насельніцтва Беларусі, Прэзыдыум ЦВК у выкананьне даручэньня 3-е Сэсіі ЦВК Саветаў Беларусі за 13-е красавіка пастанаўляе: 1) падцьвердзіць раней выданыя пастановы аб адчыненьні ў г. Менску Бел. Дзярж. Ун-ту. 2) Адчыніць Унівэрсытэт у складзе факультэтаў: Рабочага, Грамадзкіх навук, Мэдыцынскага, Сельска-Гаспадарчага і Фізыка-Матэматычнага. 10. Прызнаць адчыненьне Універсытэту тэрміновым і ўдарным заданьнем і прапанаваць усім наркоматам, Савету Народнае Гаспадаркі і іншым установам рэспублікі задавальняць патрабаваньні ўнівэрсытэцкай комісіі ў першую чаргу і рабіць Наркомасьвеце ўсялякую дапомогу, патрэбную дзеля пасьпяховага выкананьня гэтае задачы".

Увесь пэрыод часу з канца 1920 г. і да канца 1921 г. пад кіраўніцтвам КП(б)Б і пры самай шырокай дапамозе з боку рабочае клясы ўсяго Савецкага Саюзу быў скарыстаны савецкімі органамі БССР для вырашэньня чарговых організацыйных пытаньняў па ўтварэньні Унівэрсытэту. Умовы пры адчыненьні Унівэрсытыту ў Менску былі даволі цяжкія. Ня было на Беларусі навуковых сіл для Унівэрсытэту. Адсутнічалі спэцыяльныя будынкі, патрэбнае навуковае абсталяваньне, бібліотэкі. Буйныя будовы былі спалены белапалякамі пры адступленьні з Менску. Толькі дзякуючы рашучым дзеяньням КП(б) і органаў савецкай ўлады, дзякуючы рэволюцыйнаму энтузіязму рабочае клясы БССР і братняе дапамогі ўсяе рабочае клясы СССР, цяжкасьці, што стаялі на шляху ўтварэньня Бел. Дзярж. Унівэрсытэту былі пераможаны. Наркомасьветы РСФСР вылучыў і прыслаў для работы ў БДУ моцнае ядро высока-кваліфікаваных навуковых работнікаў з розных галін ведаў. Прыцягнуты былі і ўсе мясцовыя сілы для выкладчыцкае работы ва Унівэрсытэце, якія можна было скарыстаць для навуковае работы. Гарадзкі савет перадаў рад будынкаў, праўда раскінутых па ўсяму гораду, і больніцы для клінік Унівэрсытэту. Адпушчаны былі спэцыяльныя сродкі на закупку навуковага абсталяваньня, бібліотэкі.

11 ліпеня 1921 г., ў дзень вызваленьня Савецкай Беларусі ад белапалякаў, адбылося ўрачыстае адчыненьне БДУ, а ў Кастрычніку 1921 г. пачаліся навучальныя заняткі. Унівэрсытэт пачаў функцыянаваць у складзе наступных факультэтаў: Рабочага, Грамадзкіх навук і Мэдычнага. Замест Сельска-гаспадарчага факультэту пры Унівэрсытэце ў 1922 г. былі адчынены самастойныя сельска-гаспадарчыя інстытуты ў Менску і ў Горках. Пазьней гэтыя два інстытуты былі злучаны і з іх ўтварылася Горацкая сельска-гаспадарчая акадэмія.

За 10 год свайго існаваньня БДУ правёў рад структурных рэорганізацый. У 1929/30 акадэм. годзе Унівэрсытэт складаўся з 6 факультэтаў: Рабочага, Мэдыцынскага, Пэдагогічнага, Народнае Гаспадаркі, Хэм.-Тэхнол. і Савецкага Будаўніцтва і Права.

У пачатку 1930/31 навучальнага году Мэдыцынскі факультэт і Хэміка-тэхнолёгічны вылучаны былі са складу Унівэрсытэту. Яны існуюць ў сучасны момант як самастойныя інстытуты.

За 10 год свайго існаваньня Рабфак Бел. Дзярж. Унівэрсытэту выпусьціў 850 рабочых, батракоў і некаторую частку бядняцка-серадняцкага сялянства, якія ў большасьці сваёй перайшлі для далейшае вучобы у вышэйшыя навучальныя ўстановы БССР і СССР. У сучасны момант ёсьць ужо з іх скончыўшыя вышэйшыя школы, якія зьяўляюцца чырвонымі спэцыялістамі і актыўна ўдзельнічаюць ў соцыялістычным будаўніцтве.

Факультэт Народнае гаспадаркі мае сваёю мэтаю падрыхтаваць экономістаў для розных галін народнае гаспадаркі: прамысловасьці, коопэрацыі, аграмаджанага сельска-гаспадарчага сэктару, фінансавых і крэдытных установ і плянава-статыстычных органаў. У адпаведнасьці з гэтым факультэт Народнае гаспадаркі падзяляецца на пяць аддзяленьняў: прамысловае, сельска-гаспадарчае, фінансавае, коопэрацыйнае і плянава-статыстычнае.

Пэдагогічны факультэт мае сваёю мэтаю даць пэдагога з вышэйшаю адукацыяю для 3-га концэнтру працоўнае політэхнічнае школы і тэхнікумаў. Для абслугоўваньня пэдагогамі школ нацыянальных меншасьцяй БССР, пры Пэдфаку існуюць яўрэйскае і польскае аддзяленьні. У мэтах падрыхтоўкі пэдагогаў-спэцыялістаў розных галін пэдагогічнай, мэтодычнай і палітасьветнай работы, Пэдфак падзяляецца на шэсьць аддзяленьняў: фізыка-тэхнічнае, прыродазнаўчае, Літаратурна-лінгвістычнае, Соцыяльна-гістарычнае, пэдолёга-пэдагагічнае і політасьветнае.

Факультэт Савецкага будаўніцтва і права, мае сваёю мэтаю падрыхтаваць работнікаў для ЦВК, Наркомюста, РСІ. Ён складаецца з 3-х аддзяленьняў: савецкага будаўніцтва, судова-адміністрацыйнага і рацыяналізатарскага.

За 10 год свайго існаваньня Беларускі Дзяржаўны Унівэрсытэт ператварыўся ў адзін з апорных пунктаў культурнага соцыялістычнага будаўніцтва БССР, у адну з буйных вышэйшых навучальных установ Савецкага Саюзу.

Аб паступовым росьце БДУ і яго сучасным становішчы красамоўна гавораць наступныя данныя:

а) Бюджэт Унівэрсытэту выражаўся ў 1921/22 г.— 266 т. руб.
1925/26 „—1131 „ „
1929/30 „—2345 „ „
1930/31 „—2.648.372 р.



Галоўны ўваход. Главный вход.



Вэстыбюль. Вестибюль.

б) Колькасьць студэнтаў была ў 1921/22 г.—1126
1925/26 „—2550
1930/31 „—2585 (без Мэдыцынскага і Хэміка-Тэхнолёгічнага факультэтаў).

в) Навуковых работнікаў было ў 1921/22 г.— 60
1929/30 „—302

Апрача гэтага пры БДУ ў 1930 г. было 84 асьпіранты (без Мэд. фак.).

г) Пры Унівэрсытэце ёсьць рад надта добра абсталяваных навуковых установ, як: інстытуты фізыкі, батанікі, зоолёгіі, інстытут пэдолёгіі і пэдагогікі, хэмічныя лябораторыі, габінэт марксызму і ленінізму, экономікі, савецкага будаўніцтва і права, тавазнаўства, статыстыкі і рахункавоозтва.

Агульная колькасьць навуковых установ блізка—50-ці.

д) Унівэрсытэцкая бібліотэка (яна-ж і Дзяржаўная) вырасла літаральна з нічога ў магутную ўстанову. У бібліотэцы БДУ налічваецца ў сучасны момант каля мільёна тамоў кніг па ўсіх галінах ведаў.

е) Унівэрсытэт за час свайго існаваньня выпусьціў у сьвет 25 томаў сваіх друкаваных прац БДУ, устанавіў шчыльную навуковую сувязь з вышэйшымі школамі і навуковымі ўстановамі СССР і загранічным шляхам пасылкі сваіх прадстаўнікоў на зьезды, конгрэсы і абмену навуковымі друкаванымі працамі.

ж) Пры Унівэрсытэце ёсьць Вячэрні Рабочы Унівэрсытэт, Антырэлігійны Унівэрсытэт, Завочны і Вячэрні Пэдфак, Вячэрні і Завочны Рабфак.

з) Да сучаснага моманту БДУ выпусьціў звыш 3-х тысяч чырвоных спэцыялістаў (экономістаў, дактароў, пэдагогаў і праўнікаў). У адным толькі 1930 г. было выпушчана Унівэрсытэтам каля аднае тысячы чалавек.

і) У гэтым годзе скончана пабудова ўнівэрсытэцкага і клінічнага гарадку, на якія патрачана нашаю пролетарскаю дзяржаваю каля сямі мільёнаў рублей.

Будынкі ўнівэрсытэцкага гарадку пабудаваны па апошняму слову навукі і тэхнікі. Апрача свае грандыёзнасьці яны прыметны аграмаднымі выгодамі: вялікія, сьветлыя і пpасторныя салі, аўдыторыі, чытальні, габінэты, корыдоры. Маецца магутнае цэнтральнае ацяпленьне, электрычная вэнтыляцыя, надзвычайна добрыя лябораторыі і г. д. Дзякуючы патрачаным сродкам за 1929/30 г. (звыш мільёна рублей) на навуковае і навучальнае абсталяваньне, а таксама наяўнасьці набытага раней ў межах СССР і заграніцай спэцыяльнага абсталяваньня, ўтвораны надзвычайна спрыяючыя ўмовы для навукова-да-

сьледчай і навучальнай работы ў лябораторыі Інстытутах і габінэтах Унівэрсытэту.

Пад кіраўніцтвам парт. організацыі Унівэрсытэту вядзецца рашучая сыстэматычная барацьба за пролетарызацыю БДУ. З агульнае колькасьці прынятых у апошнім навучальным годзе рабочыя і іх дзеці складаюць 50%, сяляне (колгасьнікі, беднякі і серадьнякі—30%, служачыя—20%).

Партыйна-комсамольскі склад раўняецца 70%.

Вядзецца сыстэматычная ачыстка студэнцтва ад чужых і варожых элемэнтаў. Дзякуючы правільнаму правядзеньню КП(б)Б Ленінскай нацыянальнай політыкі БДУ мае вялікія посьпехі. На 1930 г. нацыянальны склад студэнцтва Унівэрсытэту зьяўляецца наступным:

беларусаў—60%<br>
яўрэяў —30%<br>
рускіх, палякаў, украінцаў—10%

Сярод малодшага складу навуковых работнікаў (асыст. і аспіранты)—беларусаў—61%<br>
яўрэяў—35,5%<br>
іншых— 3,5%

Склад студэнтаў на 1/I 1931 г.

| Па полу | | Усяго | Па партыйн. | | | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Муж. | Жан. | | Сяброў і канд. КП(б) | Сяброў ЛКСМ | Беспарт. | |
| 1142 | 490 | 1631 | 408 | 481 | 742 | 1631 |

| Па соцыяльнаму стану | | | | | | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Рабочых | Колгас. | Сялян аднаас. | Служ. | Саматуж. | Іншых | |
| 583 | 141 | 19 | 758 | 30 | — | 1631 |

| Па нацыянальнасьці | | | | | | Усяго | Увага: |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Белар. | Яўрэяў | Рускіх | Паляк. | Украін. | Іншых | | |
| 1012 | 527 | 38 | 31 | 13 | 10 | 1631 | |

**Па Рабфаку:**

| | Усяго | Мужч. | Жанч. | Рабоч. | Сялян | Служ. | Іншых | Белар. | Яўрэяў | Іншых | КПБ | КСМ | Б/п. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Па дзён. . | 306 | 201 | 105 | 241 | 42 | 7 | 16 | 134 | 128 | 45 | 70 | 119 | 117 |
| „ вяч. . | 336 | 185 | 51 | 217 | 4 | 7 | 4 | 86 | 131 | 19 | 67 | 78 | 93 |

Для падрыхтоўкі высока-кваліфікаваных работнікаў для абслугоўваньня нацыянальных меншасьцяй на Рабфаку і Пэдфаку існуюць яўрэйскае і польскае аддзяленьні.

Парторганізацыя БДУ праводзіла ўвесь час рашучую барацьбу з усялякімі ўхіламі ад Ленінскай нацыянальнай палітыкі—з праявамі вялікадзяржаўнага расійскага шовінізму, беларускага контр-рэволюцыйнага нацдэмократызму, яўрэйскага і польскага шовінізму; якія выяўляліся як сярод часткі навуковых працаўнікоў, так і некаторай праслойкі студэнцтва.

Выкрытыя носьбіты вялікадзяржаўнага расійскага шовінізму (пр. Шчапоцьцяў, Вазьнясенскі) сустрэлі рашучы адпор ад ўсяе ўнівэрстытэцкае грамадзскасьці і былі зьняты з працы ў БДУ.

Група беларускіх контр-революцыйных нацдэмаў (Лёсік, Смоліч, Краскоўскі, Трамповіч), будучы выкладчыкамі ў БДУ, імкнуліся атакаваць БДУ і разгарнуць у ім сваю контр-рэволюцыйную справу па падрыхтоўцы социяльна чуждай і варожай нацыяналістычнай часткі студэнцтва свае нацдэмаўскія кадры, аб чым яскрава сьведчыць зьяўленьне вядомага ліста трох пісьменьнікаў—у той час студэнтаў—(Зарэцкі, Дудар, Аляксандровіч), нац. дэмаўская вылазка Марука, Ільлючонка ў часе партыйнай чysткі, заявы студэнтаў (узвышаўцаў), абараняўшых ліст „трох пісьменьнікаў“ і гэтакі факт, што скончыўшыя БДУ

у 1925-26 г. Апацёнак, Бялькевіч, Чаржынскі, Кіпель, Каравайчык, Забелла, Бурдзейка і інш. апыніліся ў лягеры беларускіх контр-рэволюцыйных нацдэмаў. Але дзякуючы сваечасоваму і рашучаму адпору з боку парторганізацыі БДУ і ўсёй унівэрстытэцкай грамадзкасьці ўсялякім праявам беларускага нацдэмократызму, якія выяўляліся яшчэ з 1928 году у БДУ, ім (праявам) быў нанесен руйнуючы ўдар.

Мелі месца ў БДУ таксама і праявы яўрэйскага шовінізму і нац. дэмократызму (проф. Сосіс).

За апошнія два-тры гады парторганізацыяй і кіраўніцтвам БДУ праароблена была вялікая праца па сыстэматычнай чыстцы студэнцтва БДУ ад кулацкіх, нэпманскіх соцыяльна-чуждых і варожых элемэнтаў, якімі доўгі час засьмечан быў Унівэрсытэт дзякуючы антыпролетарскай політыцы былога НКА Баліцкага і яго спадручных—нацдэма С. Некрашэвіча (загадваў пры Баліцкім Галоўпрафобрам, а пасьля Галоўнавукай і пр. Пічэты (быў рэктарам на працягу 8 год).

У выніку ўпартай барацьбы за чыстату марксысцка-ленінскай мэтодолёгіі у выкладаньні, у выніку чысткі студэнцтва ад соцыяльна-чуждых і варожых элемэнтаў, у выніку рашучага змаганьня за пролетарызацыю БДУ--за апошнія 2—3 гады было выяўлена і зьнята з працы за антымарксысцкую ідэолёгію, вялікадзяржаўны расійскі шовінізм, белорускі нацдэмократызм каля 30 навуковых працаўнікоў і звыш 200 чуждых элемэнтаў сярод студэнцтва.

Пільны клясавы адбор пры прыёмах студэнтаў апошніх год, вышэй памянёная чыстка і прынятыя з боку кіраўніцтва рашучыя адпаведныя мерапрыемствы пры запрашэньні навуковых працаўнікоў на працу забясьпечылі значныя посьпехі ў барацьбе за пролетарызацыю студэнцтва і пролетарскую ідэолёгічную вытрыманасьць сярод значнай часткі навуковых працаўнікоў Унівэрсытэту.

БДУ мае вялікія дасягненьні і ў галіне беларусізацыі.

Рабфак беларусізаваны поўнасьцю, усе дысцыпліны чытаюцца на бел. мове. На іншых факультэтах беларусізавана да 75—80% усіх навучальных заняткаў. Пад кіраўніцтвам Комуністычнае партыі Бел. Дзярж. Унівэрсытэт з мясцовага асноўнага насельніцтва—рабочых, батракоў, колгасьнікаў, бядняцкасерадняцкай часткі сялянства БССР з вялікімі посьпехамі выконвае важнейшую задачу па падрыхтоўцы пролетарскіх кадраў з марксыцка-ленінскім сьветапоглядам для соцыялістычнага будаўніцтва ў розных галінах народнае гаспадаркі, пролетарскай культуры і савецкага будаўніцтва. Падрыхтоўка пролетарскіх кадраў на даным этапе соцыялістычнага будаўніцтва, якое пра-

ходзіць пры абвостранай клясавай барацьбе (шкодніцтва, контр-рэволюцыйныя змовы ўнутры і па-за СССР: „Промпартыя“, „Кандрацьеўшчына“, „СВУ“, контррэвалюцыйная група беларускіх нацыянал-дэмократаў) пры рашучым соцыялістычным наступленьні разгорнутым фронтам на рэшткі капіталістычных элемэнтаў (нэпман, кулак) зьяўляецца важнейшаю палітычнаю задачаю.

„Перад намі ва ўвесь рост стаіць проблема кадраў у рэконструкцыйны пэрыод разьвіцьця народнае гаспадаркі. Гэты пэрыод з усёй вострасьцю і рашучасьцю ставіць пытаньне як аб колькасьці новых спэцыялістаў, так і аб іх якасьці“. (лістападаўскі пленум ЦК ЎсеКП(б).

Беларускі Дзяржаўны Унівэрсытэт гэта ёсьць дзецішча Вялікай Кастрычнікавай Рэволюцыі, якая прынесла працоўным Беларусі соцыяльнае і нацыянальнае вызваленьне ад шматвяковай улады эксплёататараў, пад кіраўніцтвам Комуністычнае партыі вырас у буйную і магутную навукова-навучальную пролетарскую вышэйшую школу ня толькі ў БССР, але і ва ўсім СССР.

Дзякуючы творчаму рэволюцыйнаму энтузіязму рабочая кляса БССР пры неаслабнай братняй дапамозе з боку рабочае клясы СССР, перамогшы пад кіраўніцтвам свае Ленінскае партыі бальшавікоў усе цяжкасьці росту БДУ, мае ў сваіх руках магутны сродак для падрыхтоўкі новых кадраў пролетарскіх спэцыялістаў. Унівэрсытэт мае ў сучасны момант добра падрыхтаваныя ў сваёй большасьці марксысцка-ленінскія навуковыя сілы, багацейшыя грандыёзныя новыя будынкі (Унівэрсытэцкі Гарадок) надзвычайна добра абсталяваныя спэцыяльныя лябораторыі, інстытуты, габінэты, бібліотэку, захопленае энтузыязмам соцыялістычнага будаўніцтва пролетарскае студэнцтва, амаль не пагалоўна ўцягнутае у соц. спаборніцтва і ударніцтва, магутную здаровую партыйную і комсамольскую організацыю.

Парторганізацыя БДУ за 10 год яго існаваньня, яго паступовага магутнага росту і ўсебаковага разьвіцьця, прарабіла вялізарную работу. Пры беспасрэдным штодзённым кіраўніцтве ЦК КП(б)Б і парторганаў Менскай гарадзкой партыйнай організацыі, партколектыў БДУ праводзіў і праводзіць рашучую барацьбу за чыстату марксысцка-ленінскай тэорыі ва ўсёй акадэмічнай рабоце Унівэрсытэту, за пролетарызацыю складу навуковых работнікаў і студэнцтва, за правільнае правядзеньне ленінскае нац. політыкі, ускрываючы і выкрываючы контрэволюцыйную беларускую нацдэмаўшчыну, вялікадзяржаўны расійскі шовінізм, як самы небясьпечны на даным этапе, антысэмітызм, польскі і яўрэйскі шовінізм. Партколектывам-жа праведзена рашучая барацьба з праявамі троцкісцкай опозыцыі, з правым і „левым“ ухіламі ад гэнеральнай лініі партыі. За 10-ці гадовы пэрыод свайго існа-

ваньня партколектыў БДУ, праводзячы неаслабна партыйна-выхаваўчую работу сярод студэнцтва, навуковых і тэхнічных работнікаў, карыстаючыся ў сваёй рабоце мэтодам шырока-разгорнутай бальшавіцкай самакрытыкі, за апошнія гады значна вырас колькасна і якасна. У сучасным 1931 годзе партыйна-комсамольская праслойка сярод студэнцтва БДУ дасягае 70%.

Пад кіраўніцтвам партколектыву БДУ прароблена вялізная работа і профэсыянальных студэнцкіх організацый. У соцспаборніцтва і ударніцтва ўцягнута амаль не пагалоўна ўсё студэнцтва. Студэнцтвам БДУ праведзена аграмадная работа па ліквідацыі няпісьменнасьці сярод рабочых і працоўнага насельніцтва г. Менску. Організавана было некалькі курсаў па падрыхтоўцы рабочых у вышэйшыя школы. Студэнты старэйшых курсаў выкладалі ў Вячэрнім Рабочым Унівэрсытэце, бралі ўдзел у партшколах і гуртком на рабочых прадпрыемствах гораду. Студэнцкія організацыі па-факультэтна праводзяць культшэфства над рабочымі прадпрыемствамі і колгасамі на вёсцы, а таксама сябруюць з часткамі Чырвонай арміі.

Шляхам актыўнага ўдзелу у гаспадарча-палітычных компаніях і шляхам правядзеньня 40% свайго навучальнага часу на вытворчай практыцы на заводах, фабрыках, саўгасах, колгасах і савецкіх установах, студэнты Унівэрсытэту такім чынам заўсёды органічна зьвязаны з усім гаспадарча-палітычным жыцьцём краіны.

БДУ, рэорганізаваўшыся часткова ў пачатку 1930 году паводле дэрэктыў Лістападаўскага Пленуму ЦК ЎсеКП(б) і заканчваючы поўную рэорганізацыю сваю ў сучасны момант, з вылучэньнем з яго складу факультэту Савецкага Будаўніцтва і Права, Народнае гаспадаркі і Пэдагагічнага (частка), перабудаваўшы свае навучальныя пляны і програмы, перайшоўшы на бесьперапынны навучальны год, на актыўны мэтод выкладаньня, ўвязваючы органічна тэорыю з вытворчай практыкай, уладаючы ўсім неабходным дзеля таго, каб ня толькі даваць вузкіх спэцыялістаў для соцыялістычнае стройкі, а разам з гэтай важнейшай задачай і падрыхтоўваць у патрэбнай колькасьці асыстэнтаў, групаводаў, ляборантаў для навукова-дасьледчых інстытутаў, вузаў і втўзаў і высока-кваліфікаваных выкладчыкаў (доцэнтаў) і наогул навукова-дасьледчых кадраў, здольных весьці самастойную работу у вышэйшых школах.

Пад сьцягам Леніна, шчыльней самкнуўшы свае рады навакол Ленінскага ЦК, вядучы бязьлітасную барацьбу з правым, як больш небясьпечным на даным этапе, і „левым“ ухіламі ад гэнэральнай лініі партыі, ўскрываючы і разьбіваючы расійскі вялікадзяржаўны шовініз і беларускі контррэволюцыйны нацыя-

нал-дэмократызм — наперад у наступнае 10-ці годзьдзе бальшавіцкамі тэмпамі да новых перамог у справе выкананьня 5-кі у 4 гады, у справе ажыцьцяўленьня лёзунгу „дагнаць і перагнаць“, у справе аўладаньня навукаю і тэхнікаю, ў справе гіганцкай соцыялістычнай стройкі, ў справе форсірованай падрыхтоўкі высока-кваліфікаваных, узброеных марксысцка-ленінскай тэорыяй пролетарскіх кадраў.

---

С. Я. ВОЛЬФСОН.
Прорэктар БДУ.

# Навучальны процэс за дзесяцігодзьдзе БДУ.

Твар вышэйшай школы ў асноўным азначаецца тым, як арганізаваны ў ёй навучальны процэс. Побач з соцыяльным складам студэнцтва, побач з ідэолёгічным і клясавым абліччам выкладчыцкага складу, асноўным фактарам, характэрызуючым вышэйшую школу, зьяўляецца навучальны процэс. Пабудова навучальных плянаў вуза, зьмест навучальных праграм, мэтавыя ўстаноўкі, мэтоды навучаньня, спосабы падліку і праверкі ведаў, — усе гэтыя элемэнты, з якіх складаецца вузаўскі навучальны процэс, вызначаючы сабою месца вышэйшай школы ў агульнай сыстэме дзяржаўнага кіраўніцтва, адбіваюць інтарэсы клясаў, на службе ў якіх знаходзіцца дзяржаўны апарат.

Навучальны процэс вуза ўсюды і заўсёды будаваўся паводле клясавага крытэрыя. Пануючая кляса тае альбо іншае арганізацыі вузаўскага навучальнага процэсу дабівалася стварэньня патрэбных яму кадраў спэцыялістаў, прыданьня гэтым кадрам таго характару, у якім гэтая кляса была зацікаўлена.

З самага свайго прыходу да ўлады рабочая кляса Савецкага Саюзу паставіла перад сабою задачу прывядзеньня ўсяе сыстэмы асьветы, у тым ліку і яе вузаўскага зьвяна, у адпаведнасьць з інтарэсамі дыктатуры пролетарыяту. Але падайсьці да грунтоўнае рэорганізацыі вышэйшае школы рабочая кляса здужала, зразумела, далёка не адразу пасьля заваёвы ўлады.

Вось чаму наша вышэйшая школа на працягу раду гадоў пасьля Кастрычніку знаходзілася ва ўладзе старых вузаўскіх традыцый з іх чыстым акадэмізмам, адарванасьцю ад практычнага жыцьця, догматызмам, адсутнасьцю конкрэтных мэтавых установак, лекцыйна-пасыўнымі мэтодамі выкладаньня, экзаменацыйна-заліковым спосабам падліку і праверкі і інш.

Гістарычныя рашэньні Ліпнёўскага Пленуму Цэнтральнага Комітэту УсеКП(б) далі першы рашаючы штуршок да грунтоўнай рэорганізацыі савецкай вышэйшай школы, да ператварэньня яе

ў фабрыку кадраў, якія-б „сапраўды стаялі на ўзроўні навейшых дасягненьняў навукі і тэхнікі і забясьпечвалі актыўны ўдзел у правядзеньні социялістычнай рацыяналізацыі". Лістападаўскі пленум ЦК УсеКП(б) 1929 г. даў ужо генэральныя ўстаноўкі перабудовы ўсяе справы вышэйшае асьветы з мэтаю яе максымальнага прыстасаваньня да задач социялістычнага будаўніцтва. Пад непасрэдным кіраўніцтвам партыі, пры актыўным удзеле лепшай, рэволюцыйнай часткі навуковых работнікаў і шырокіх мас пролетарскага студэнцтва нашы вузы на працягу паўтара год, прайшоўшых ад часу Лістападаўскага Пленуму, правялі вялізарную работу па рэконструкцыі ўсяго навучальнага процэсу. У выніку — рад сур'ёзнейшых заваёў.

Сярод апошніх трэба назваць унясеньне выразнасьці ў мэтавыя ўстаноўкі вузаў; выпрацоўка номэклатуры спэцыяльнасьцяй, патрэбных дзяржаве для социялістычнага будаўніцтва; распрацоўку профіляй адпаведных спэцыялістаў, а таксама профіляй вузаў, што займаюцца іх падрыхтоўкаю; зьмяншэньне шматпрадметнасьці навучальных плянаў; унетраньне марксысцка-ленінскай мэтодолёгіі ў програмы вузаў і ва ўсё выкладаньне. Пераход на актыўныя мэтоды выкладаньня; увядзеньне бесперапыннай вытворчай практыкі; перанясеньне часткі тэорэтычных заняткаў на вытворчасьць і г. д.

У трэці рашаючы год пяцігодкі савецкія вузы ўступілі, зрабіўшы глыбокі зрух, у бок рэволюцыянаваньня навучальнага процэсу і пастаноўкі вышэйшай школы на службу социялістычнаму будаўніцтву. Але, зразумела, гэтым зрухам рэорганізацыя савецкай вышэйшай школы яшчэ далёка ня скончана, перад ёю прадаўжаюць стаяць важнейшыя і складанейшыя задачы, патрабуючыя ўвагі і ўдзелу ўсяе пролетарскае грамадзкасьці.

Навучальнае жыцьцё БДУ за яго дзесяцігадовае існаваньне ў асноўным цякло па таму-ж руслу, што і жыцьцё іншых савецкіх вузаў. Пры некаторай, праўда, своеасаблівасьці тутака меліся ў наяўнасьці тыя-ж этапы і тыя-ж зрухі. Паспрабуем коратка ахактэрызаваць іх.

Беларускі Дзяржаўны Унівэрсытэт узьнік у складзе 3-х факультэтаў — Рабочага, Мэдыцынскага і Факультэту Грамадзкіх Навук. Ня гледзячы на тое, што часовае кіраўніцтва Унівэрсытэту ставіла мэтаю ўтварыць вышэйшую школу, якая „павінна служыць перш за ўсё практычным дзяржаўным і мясцовым жыцьцёвым патрэбам, даваць масавую падрыхтоўку і ўтварыць кадры спэцыялістаў, неабходных для розных галін савецкага будаўніцтва", конструкцыя БДУ на першым этапе яго існаваньня характарызавалася рысамі, далёка не спрыяючымі дасягненьню гэтых мэтаў. Факультэт Грамадзкіх Навук, напрыклад, ахапляў-

шы звыш $^2/_3$ усяго студэнцтва Ўнівэрсытэту, ня меў перад сабою ніякіх выразных мэтавых установак, паколькі ён мэханічна яднаў у сваіх організацыйных рамках падрыхтоўку спэцыялістаў рознастайных спэцыяльнасьцяй: пэдагогаў, экономістаў і праўнікаў. Гэтая акалічнасьць, з аднаго боку—абумоўлівала вельмі грамоздзкую структуру факультэту, з другога боку — рабіла спэцыялізацыю студэнта вельмі расплыўчатаю, далёкай ад неабходнай мэтавай выразнасьці. І сапраўды, ФОН разьбіваўся на 4 аддзяленьні: Этнолёга-Лінгвістычнае, Грамадзка-Пэдагогічнае, Экономічнае і Праўнае. Першае павінна было рыхтаваць выкладчыкаў мовы і літаратуры, другое — выкладчыкаў грамадзкіх дысцыплін, трэцяе — экомомістаў і чацьвёртае — праўнікаў. Гэтым характэрызавалася ўся мэтавая ўстаноўка факультэту, абмяжоўваючыся расплыўчата-нявызначанай формулай падрыхтоўкі „кваліфікаванага пэдагога" альбо „кваліфікаванага экономіста". Пры гэтым зусім не ўстанаўлялася, для якога тыпу навучальнае ўстановы рыхтуецца пэдагог, альбо для якое галіны народнае гаспадаркі і выкананьня якіх іменна функцый рыхтуецца даны экономіст. Натуральна, што пры такога роду структуры навучальныя пляны факультэту зварочвалі на сябе ўвагу крайняю шматпрадметнасьцю, якая прымушыла студэнта займацца радам так званых агульных дысцыплін; так, напрыклад, і будучыя пэдагогі, экономісты і праўнікі ў роўнай ступені вывучалі такія дысцыпліны, як лёгіку і агульную мэтодолёгію, як псыхолёгію. Лінгвісты вывучалі і філёзофію, і прыродазнаўства, і гісторыю сьветапогляцаў, побач з гістарычным матэрыялізмам, вучэньне аб паходжаньні і разьвіцьці грамадзкіх форм, першабытную культуру, дагістарычную археолёгію, гісторыю антычных культур. Лінгвісты яўрэйскай сэкцыі займаліся курсамі талмуда, кабаллы, бібліі, экзэгэтыкай, яўрэйскай палеографіяй. Будучыя грамадазнаўцы вывучалі і археолёгію, і антраполёгію, географію і архівазнаўства і шэраг іншых дысцыплін, зусім непатрэбных пэдагогу. Усе гэтыя навукі прымушалі студэнта распыляць сваю ўвагу часамі паміж 15-20 паралельна-выклададаўшыміся навукам, не даючы яму магчымасьці сконцэнтравацца на вывучэньні тых з іх, якія зьяўляліся неабходнымі для яго будучае спэцыяльнасьці. Усё гэта было вынікам адсутнасьці мэтавых установак, курса на падрыхтоўку „пэдагога наогул", „экономіста наогул" — з аднага боку, вынікам імкненьня зрабіць будучых спэцыялістаў „широка-адукаванымі",— з другога боку. Адсутнасьць выразных мэтавых установак абумоўлівала ўнівэрсалізм ва ўсёй сыстэме падрыхтоўкі кадраў у БДУ і расплыўчатую энцыклёпэдычнасьць, пад знакам якой ў большай альбо меншай ступені знаходзіліся ўсе факультэты Унівэрсытэту. Такія-ж заганы былі і ў навучальным пляне Мэды-

цынскага факультэту, малодшыя курсы якога ў асаблівасьці былі загружаны непатрэбнымі мэдыку дысцыплінамі, дзе адсутнічала пры вялікай шматпрадметнасьці цыклічнасьць у праходжаньні прадметаў.

На ўсіх факультэтах Унівэрсытэту панаваў лекцыйны мэтод выкладаньня. Сэмінарскія і практычныя заняткі займалі самую нязначную частку часу (8—15% студэнцкага бюджэту часу). Гэта мела вынікам пераважна славесны характар усяго выкладаньня ва Унівэрсытэце, які часамі зьбіваўся на схолястычнае тэорэтызаваньне. Гэтай акалічнасьці дапамагала і надзвычайна слабая база навучальнае асьветы, якою распалагаў унівэрсытэт у першыя гады існаваньня. Выкладаньне такіх прадметаў, напрыклад, як таваразнаўства, як тэхнолёгія, як машыназнаўства, часамі ажыцьцяўлялася „крэйдаю на дошцы". Неадыймальнымі падарожнікам пасыўна-лекцыйных мэтодаў выкладаньня былі фармальныя мэтоды падліку і праверкі пасьпяховасьці студэнцтва „паводле старынкі"—па залікова-экзаменацыйнаму прынцыпу.

У другім годзе існаваньня Унівэрсытэту ў яго структуру былі ўнесены сур'езныя зьмены. Спачатку 1922-23 акад. году ў складзе Унівэрсытэту пачаў функцыянаваць новы—Пэдагогічны факультэт. Утворан ён быў у складзе двух пэдагогічных аддзяленьняў факультэту грамадзкіх навук: Грамадзка-Пэдагогічнага, рэорганізаванага ў Соцыяльна—Гістарычнае і Этнолёга-Лінгвістычнага, а таксама двух нанова адчыненых — Прырода-знаўчага і Матэматычнага.

Прыметным крокам наперад па шляху спэцыялізацыі студэнтаў было ўвядзеньне на факультэце Грамадзкіх Навук функцыянаваўшым пачынаючы з 1922-23 акад. году у складзе 2-х аддз. Экономічнага і Праўнага, цыклявога падзелу. Так, напрыклад, на Экономічным аддзяленьні былі уведзены цыклі: Адміністрацыйна-Прамысловы, Коопэрацыйны і Фінансавы. Гэтым, зразумела, далёка не дасягалася неабходная галінавая і функцыянальная спэцыялізацыя, але намячаліся хаця-б спэцыяльныя ўхілы для будучых гаспадарнікаў.

У якасьці мерапрыемства, прызванага хаця-б некалькі аслабіць традыцыйны разрыў паміж акадэмічнаю вучобаю і практычнымі патрэбамі, якія адчувала народная гаспадарка, была зроблена спроба ў 1923 г. увесьці ў навучальныя пляны факультэту Грамадзкіх Навук некаторыя прадметы, прысьвечаныя вядучым галінам беларускай прамысловасьці, як, напрыклад, экономіку лясной прамысловасьці. Але такія спробы былі вельмі абмежаванымі і нерашучымі, Яны ня здужылі зьмяніць агульны характар навучальных плянаў з іх адарванасьцю ад жыцьця

і бягучых патрэб Савецкае Дзяржавы. Важным актам па рэорганізацыі структуры БДУ трэба лічыць адбыўшуюся ў 1925 г. ліквідацыю факультэту Грамадзкіх Навук і змену яго факультэтам Права і Гаспадаркі. На новым факультэце навучальны процэс параўнальна з ФОН быў організаваны значна рэволюцыйней. Навучальныя пляны новага факультэту не адрозьніваліся такою шматпраметнасьцю, як на ФОН. Яны разгружаюцца ад баласта непатрэбных дысцыплін, не зьвязаных непасрэдна з данаю спэцыяльнасьцю. На Экономічным аддзяленьні ўводзіцца спэцыялізацыя па галінах—прамысловай, коопэрацыйнай і банкава-фінансавай. Разам з гэтым робяцца і першыя спробы ўнетрыць у навучальныя пляны Праўнага і Экономічнага аддзяленьняў у якасьці іх складанага элемэнту вытворчую практыку студэнтаў. Практыка гэтаа спачатку зьяўляецца спородычнай і прыстасоўваецца да летняга і зімовага перапынкаў у занятках. Паступова яна робіцца больш сыстэматычнай. Разам з гэтым пачынае разгортывацца і актывізацыя мэтодаў выкладаньня. Павялічваецца колькасьць сэмінарскіх і практычных заняткаў за кошт лекцыйных.

Аналёгічны процэс на працягу 1925-28 гадоў адбываецца і на іншых факультэтах Унівэрсытэту. Так, у 1925-26 акад. годзе Пэдфак ужо пачынае досыць шырока ўжываць побач з лекцыйным і лябораторна-групавы мэтод. На некаторых аддзяленьнях на гэты мэтод пераводзіцца да 1/3 усіх навучальных заняткаў. На Мэдыцынскім факультэце таксама актывізуюцца ў гэты пэрыяд заняткі, павялічваецца колькасьць практыкумаў. Студэнты прапушчаюцца праз амбуляторыі, утвораныя пры клініках, узмацняюцца дэмострацыйныя элемэнты. Пераглядаюцца навучальныя пляны, асабліва першых курсаў. 1928 год—год, калі партыя дала рашучыя дырэктывы аб рэорганізацыі вузаў, робіцца эраю ў жыцьці Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту. Іменна з гэтага часу пачынаецца сыстэматычная і ўпартая работа па рэконструкцыі БДУ ў мэтах яго ператварэньня ў сапраўдную кузьню беларускай пролетарскай культуры, у фабрыку кадраў для хутка разгортваючайся соцыялістычнай гаспадаркі Савецкай Беларусі.

На гэтым шляху Унівэрсытэт к моманту свайго 10-ці годзьдзя дабіўся надзвычайна многага.

Орыентацыю на энцыклёпэдычнага ўнівэрсаліста ў галінах экономікі, права, мэдыцыны, пэдагогікі зьмяніла ў структуры унівэрсытэту і адпачкаваўшагася ад яго мэдыцынскага інстытуту выразная і пэўная мэтавая ўстаноўка: даць Рэспубліцы экономіста-інжэнэра, экономіста-плянавіка зусім пэўных галін прамысловасьці, коопэрацыі, фінансавай сыстэмы, патрэбных БССР; даць





Вайсковая катэдра.

Военная кафедра.

адказных палітычных работнікаў, неабходных органам дыктатуры пролетарыяту; даць Беларусі дактароў-спэцыялістаў у галіне санітарна-профіляктычнай і лекава-профіляктычнай, якія задавальнялі-б патрабаваньням соцыялістычнага будаўніцтва БССР у работніках аховы здароўя; даць Рэспубліцы кваліфікаваных пэдагогаў для тэхнікумаў і 3-га концэнтру працоўнай палітэхнічнай школы.

Вось гэтыя выразныя мэтавыя ўстаноўкі і паслужылі стрыжнёвымі прынцыпамі рэконструкцыі ўсяго навучальнага процэсу ў БДУ. Само сабою зразумела, што адпраўным пунктам гэтай рэконструкцыі павінна быць устанаўленьне профілей спэцыялістаў, якіх рыхтуе кожны факультэт, аддзяленьне, цыкль, ухіл Унівэрсытэту. Справа выпрацоўкі такіх профілей, ёсьць саправа ў надзвычайнай ступені складаная, яна павінна праводзіцца ў шчыльнейшым контакце з тымі органамі, для якіх падрхтоўваюцца кадры. Да гэтай задачы Унівэрсытэт прыступіў параўнальна нядаўна. Усе-ж такі ў гэтай галіне можна ўжо констатаваць значны поступ наперад. Рад аддзяленьняў ужо апіраюцца ў сваёй рабоце на распрацаваныя профілі спэцыялістаў.

Распрацоўка профіля спэцыяліста дае магчымасьць кожнай вытворчай адзінцы Унівэрсытэту найлепшым чынам ліквідаваць тую адарванасьць ад практыкі, якая была асноўным грахом нашых навучальных плянаў, програм, усёй, організацыі навучальнага процэсу на працягу першых год дзейнасьці БДУ. Яна дае штуршок да выкарчоўваньня рэштак догматызму, схолястыкі, гіпэртрофі гісторызму, якія яшчэ да гэтай пары захаваліся ў сыстэме ўнівэрсытэцкага выкладаньня.

Рэконструкцыя навучальнага процэсу, ажыцьцёўленая Унівэрсытэтам, азначала зьбліжэньне ўсяе справы навучаньня з вытворчасьцю. Вытворчая практыка стала неадыймальным інгрэдыентам нашых навучальных плянаў, пакрываючы сабою 40% усяго бюджэту часу, вылучанага на выкладаньне.

Той невялікі вопыт, які Унівэрсытэт мае ў галіне організацыі практыкі, дазваляе з упэўненасьцю сказаць, што вытворчая практыка сябе цалкам апраўдала, што яна ў сапраўднасьці становіцца магутным рычагом утварэньня тых „тэхнічных кіраўнікоў і організатараў будуючайся соцыялістычнай гаспадаркі“, утварыць якіх патрабаваў ад вышэйшай школы Лістападаўскі 1929 г. Пленум ЦК Усе КП(б). Утварэньне такога тыпу спэцыяліста патрабуе разам з іншым і глыбокага знаёмства гэтага спэцыяліста з мясцовым краем, абсласнымі, нацыянальнымі асаблівасьцямі. Ва ўмовах нашай нацыянальнай Рэспублікі гэтае патрабаване набывае асабліва важны характар. Вось чаму адным з асноўных прынцыпаў, якім Унівэрсытэт кіраваўся пры рэкон-

струкцыі навучальных плянаў і програм, заключаўся іменна ва ўнетраньні ў іх дастатковых элемэнтаў пазнаньня і вывучэньня экономікі БССР і яе пролетарскай па зьместу, нацыянальнай па форме культуры. Навучальныя пляны і праграмы пераглядаліся, з пункту погляду іх максымальнай, так сказаць, „карэнізацыі" Мы лічым, што Унівэрсытэт ня выканаў-бы сваіх задач, калі-б ня даў БССР спэцыялістаў, дастаткова знаёмых з усімі нацыянальнымі асаблівасьцямі Сав. Беларусі і адлюстраваньнем гэтых асаблівасьцяй у тых галінах, для работы ў якіх гэтыя спэцыялісты рыхтаваліся. Выкідаючы з нашых навучальных плянаў і програм усякія „самабытныя" дысцыпліны, ліквідуючы ў іх архаічная, буржуазна-нацыяналістычныя элемэнты, якія насаджалі нацдэмы, мы ў той самы час лічылі неабходным максымальна прапітаць гэтыя пляны і програмы элемэнтамі сапраўднага вывучэньня нацыянальных асаблівасьцяй БССР.

Рэконструкцыя навучальнага процэсу на працягу апошніх $1^1/_2$ год прывяла да ўшчыльненьня і скарачэньня тэрмінаў прабываньня студэнтаў ва Унівэрсытэце. Гэтае скарачэньня, якое не павінна было ні якім чынам пайсьці за кошт пагаршэньня якасьці падрыхтоўкі кадраў, было ажыцьцёўлена па ўсяму Унівэрсытэту, прывёўшы да экономіі ў тэрмін вучобы, у залежнасьці ад спэцыяльнасьці на 15—20%. Рэорганізацыя мэтодаў выкладаньня, праходзіўшая ў адпаведнасьці з новымі партыйнымі дырэктывамі, пад знакам іх максымальнай актывізацыі, у сучасны момант падпарадкавала сабе прыкладам 80-90% навучапьных плянаў усяго БДУ. Сустракаючы на сваім шляху буйнейшыя перашкоды — як адсутнасьць неабходнага навучальнага пляну і дастатковых выкладніцкіх кадраў, як недаверра, часамі варожасьць, рэакцыйнай часткі навуковых работнікаў,—актывізацыя ў асноўным усё-ж ажыцьцёўлена і пладатворна ажыцьцёўлена па ўсёй лініі работы Унівэрсытэту.

Шчыльнейшым чынам з актывізацыяй навучальнага процэса знаходзіцца ізгнаньне з яго экзаменацыйна-навучальных мэтадаў і пераход на сыстэму ацэнкі ведаў і пасьпяховасьці студэнтаў на аснове сыстэматычнага і працяглага наглядаеньня над ім кіраўніка заняткаў. Важнейшым вынікам актывізацыі мэтодаў выкладаньня зьявілася і колектыўнасьць студэнцкай работы, ажыцьцяўляемая ў навучальных брыгадах. Брыгады, ахапіўшыя ўсё студэнцтва Унівэрсытэту, працуючыя паводле мэтодаў соцыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва, ператварыліся ў асноўнае зьвяно ўсяе навучальнае работы. Падцягваючы адстаючых, організуючы грамадзкі ўзаемны кантроль, утвараючы колектыўны абмен думак, падымаючы ўсю вучобу на новую якасную вышыню,

брыгады аказаліся адным з лепшых вынікаў той рэконструкцыі навучальнага процэсу, якая ажыцьцёўлена у БДУ за апошні час.

Было-б, зразумела, вельмі памылковым абмежаваць характарыстыку рэконструкцыі навучальнага процэсу толькі паказаньнем на зьмены ў організацыйных формах гэтага процэсу і ня спыніцца на яго ідэолёгічным зьмесьце.

Рэконструкцыя навучальнага процэсу ў мэтах пастаноўкі вышэйшай школы на службу будаўніцтву соцыялізма патрабавала падняцьця ўсяе справы тэорэтычнага абучэньня на больш высокі ідэолёгічны ўзровень, яго ўсебаковага падпарадкаваньня маркса-ленінскай мэтодолёгіі.

Асноўнаю задачаю БДУ у сучасны момант зьяўляецца ўтварэньне кваліфікаваных пролетарскіх спэцыялістаў, узброеных маркса-ленінскай тэорыяй. Рашэньне гэтае задачы зрабілася магчымым толькі ў апошні час.

Калі Ўнівэрсытэт складаўся, справа выкладаньня занаходзілася ў падаўляючай большасьці ў руках навуковых работнікаў, чуждых марксысцкаму сьветапогляду, нават часта варожых марксызму. Унівэрсытэцкія катэдры часамі служылі мэтодам пропаведзі буржуазна-ідэалістычных тэорый. Сярод работнікаў Унівэрсытэту было выяўлена на працягу 10-ці год яго існаваньня ня мала праваднікоў клясава-варожай пролетарыяту ідэолёгіі. Клясава-варожая позыцыя некаторых навуковых работнікаў выяўлялася ня толькі ў рэакцыйнасьці іх програм і выкладаньня, але і ў процідзеяньні рэконструкцыі БДУ, пераходу яго на новыя мэтоды выкладаньня і г. д. Партыйным організацыям Унівэрсытэту прышлося патраціць шмат энэргіі, каб разам з пролетарскім студэнцтвам, апіраючыся на лепшую рэволюцыйную частку навуковых работнікаў, паралізаваць гэтае процідзеяньне агэнтуры клясавага ворага. Але толькі ў апошнія 2-3 гады ўтварылася об'ектыўная магчымасьць адхіленьня ад работы ва Ўнівэрсытэце рэакцыйных і клясава-варожых элемэнтаў і замены іх адданымі соцыялістычнаму будаўніцтву работнікамі. Пэрыод вялікага соцыялістычнага наступленьня прымусіў нас з большаю клясаваю дбайнасьцю і ідэолёгічнаю вымагальнасьцю падыйсьці да ўсяе справы унівэрсытэцкага выкладаньня, паставіць яго пад шырокі грамадзкі контроль. Дакладны перагляд програм і зьместу курсаў прывёў да рашучага зруху ўсяго выкладаньня ў бок яго падпарадкаваньня маркса-ленінскай мэтодолёгіі, у бок яго політычнай актуалізацыі. Такія, у асноўным, нашы посьпехі ў рэконструкцыі навучальнага процэсу да моманту 10-ці годзьдзя Унівэрсытэту. Калі-б мы спыніліся толькі на гэтых посьпехах, то мы намалявалі неадпавядаючую сапраўднасьці карціну.

Побач з паказанымі вышэй дасягненьнямі наш навучальны процэс трэба ахарактарызаваць і радам адмоўных бакоў, якімі ён хварэе.

Якасьць нашай навучальнай работы яшчэ не паднята на тую вышыню, якая патрабуецца ад яе ў рэконструкцыйным пэрыодам Профілі спэцыялістаў намечаны толькі ў асноўных, так сказаць, нарысах без неабходнага ўдакладненьня іх. Сувязь паміж тэорэтычнай вучобай і вытворчай практыкай яшчэ не зьяўляецца органічнай, а хутчэй ажыцьцяўляецца мэханічна. Сама практыка часта яшчэ мэтодычна зусім не распрацавана, апрача таго яна нярэдка разьбіваецца аб формальныя і няўважлівыя адносіны з боку гаспадарнікаў. Навучальныя пляны амаль ня ўлічваюць пазавузаўскай работы студэнцтва. Актывізацыя выкладаньня часта скажаецца, праводзіцца без неабходнай дыфэрэнцыяцыі яе мэтодаў у адпаведнасьці з спэцыфічнымі асаблівасьцямі пэўнай спэцыяльнасьці, часамі зводзіцца да прадастаўленьня студэнта сваёй уласнай рабоце без плянамернага кіраўніцтва, інструктажу і контролю з боку кіраўніка. Нарэшце, у самым выкладаньні яшчэ не заўсёды дастаткова выразна праводзіцца клясавая лініі. У програмах і ў самым выкладаньні яшчэ ня зжыты рэшткі грубага эмпірызму, догматызму, формалізму, розных буржуазна-ідэолёгічных плыняў, эклектыкі. Барацьба за маркса-ленінскую чыстату ўсяе справы выкладаньня ў БДУ патрабуе яшчэ вялікага напружаньня...

Вось тыя адмоўныя бакі, тыя прарывы, якія характарызуюць навучальны процэс у БДУ. На іх хуткую ліквідацыю павінна быць накіравана максымальная ўвага партыйнага кіраўніцтва, профэсіянальнай організацыі і адміністрацыі Унівэрсытэту,

Нельга сумнявацца ў тым, што разварачваючы бальшавіцкія тэмпы работы, шырока ажыцьцяўляючы мэтоды социялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва, Унівэрсытэт і тутака даб'ецца рашаючых перамог.

**СТАШЭЎСКІ.**
**Загадчык Рабфаку БДУ**

# Рабфак БДУ—база ў падрыхтоўцы пролетарскіх кадраў.

Рабфакі зьявіліся адным з вынікаў перамогі Кастрычнікавае рэволюцыі; яны былі ўтвораны з мэтай хуткай пролетарызацыі вузаў, для якіх павінны былі даць пролетарскія кадры. Праца па організацыі ў Менску Рабочага Факультэту пачалася з восені 1920 г. пасьля канчатковага астаўленьня белапалякамі гораду і вялася адначасова з організацыйнай працай па адчыненьні БДУ 17-га красавіка 1921 г. адбылося паседжаньне прадстаўнікоў ЦВК, Савнаркому БССР, час. Праўленьня Унівэрсытэту, організацыйнай комісіі і профэсароў, на якім абгаварвалася пытаньне аб адчыненьні Рабочага Факультэту; прычым было аднагалосна пастаноўлена адчыніць Рабфак у першую чаргу. Організацыя Рабфаку адбывалася пад кіраўніцтвам асобнай комісіі, у склад якой уваходзілі: сэкратар ЦБ Компартыі бальшавікоў Беларусі т. Кнорын, прадстаўнік ад НКА т. Каранеўскі—сучасны Рэктар Унівэрсытэту і інш.

У чэрвені 1921 г. Рабфак быў адчынены. 160 рабочых і бяднейшых сялян—студэнтаў пролетарскай краіны—з энтузіязмам узяліся за вучобу, упарта перамагаючы ўсе цяжкасьці. Пасьля белапольскай окупацыі ў Менску засталіся разбураныя школьныя будынкі без усялякага абсталяваньня; мясцовыя партыйныя і грамадзкія організацыі аказалі ўсебаковае падтрыманьне ў справе організацыі вучобы на Рабфаку; элемэнтарнае навучальнае абсталяваньне зьбіралася сіламі настаўнікаў і студэнтаў. У 1923 г. Рабфак даў ужо першы выпуск у ліку 40 асоб. У далейшым, разам з паляпшэньнем экономічнага становішча Рэспублікі паляпшаецца і матар'яльнае становішча Рабфаку—з 1924 году ён атрымаў сталы каштарыс, які штогодна павялічваўся; у выніку гэтага набываецца належнае абсталяваньне фізычнага, прыродазнаўчага і інш. габінэтаў (каштоўнасьць якіх к 1931 г. ацэньвалася ў 25—30 тысяч руб.) і адрамантоў-

ваецца будынак Рабфаку і інтэрнаты; лекцыйная сыстэма выкладаньня замяняецца лябораторнай; агульны лік студэнцтва на дзенным аддз. даводзіцца да 530 асоб у 1930 г. Да сьнежня 1930 г. Рабфак быў адзінай установай—у сьнежані 1930 г. у адпаведнасьці з запатрабаваньнямі рэконструкцыйнага пэрыоду Рабфак быў рэорганізаваны ў 4 самастойных рабфакі з прымацаваньнем кожнага да адпаведнай вышэйшай навучальнай установы—БДУ, і інстытутаў: Хэміка-Тэхнолёгічнага, Будаўнічага і Мэдыцынскага.

Як-жа Рабфак БДУ выконвае за 10 год ускладзеныя на яго партыяй і Савецкай уладай абавязкі па падрыхтоўцы пролетарскіх кадраў?—Неабходна адзначыць, што за 10 год соцыяльны склад студэнтаў Рабфаку зьмяняўся. Першыя наборы давалі рабочых і бяднейшых сялян—у значным процанце непасрэдных удзельнікаў рэволюцыі і грамадзянскай вайны; з боку рабочага стажу, палітычнай вытрыманасьці і ўзросту—склад студэнцтва быў высокай якасьці (80% рабочых). У часы-ж опортуністычнага кіраўніцтва НКА на чале з т. Баліцкім было імкненьне з боку апошняга „асяляніць" Рабфак (гл. артыкул Баліцкага ў часопісе „Полымя" за 1925 г.). Партыйнае кіраўніцтва Рабфаку змагалася з гэтым. Соцыяльны склад студэнцтва на 1930/31 г. сьведчыць аб тым, што дырэктывы партыі аб падрыхтоўцы пролетарскіх кадраў выконваюцца Рабфакам: рабочых—54%, с/гас. рабочых—і батракоў—20%, сялян-колгасьнікаў і батракоў—26%. У чэрвені 1931 г. Рабфак дае 10 выпуск; звыш 850 рабочых, батракоў і беднякоў-сялян за 10 год перайшлі з Рабфаку ў вышэйшыя навучальныя ўстановы. З гэтых 850 звыш 75% узброеныя ведамі, ленінскі выхаваныя, ужо скончылі вузы і выконваюць адказную працу ў розных галінах соцыялістычнага будаўніцтва ў якасьці пэдагогаў, навуковых працаўнікоў (у прыватнасьці ў БДУ, інжэнэраў, дактароў, аграномаў і г. д.

Рабфак зьяўляецца школай выхаваньня сталых ленінцаў. Рэдка хто, прабыўшы 3-4 гады на Рабфаку выходзіць з яго беспартыйным. Процантнае павялічэньне партыйна-комсамольскага складу студэнцтва наступнае:—з 37% агульнага ліку першага набору да 80% перад рэорганізацыяй у 1930 г. Партыйна-комсамольскія організацыі Рабфаку заўсёды стаялі на варце ажыцьцяўленьня генэральнай лініі партыі, давалі своечасовы рашучы адпор праявам троцкізму, правага опортунізму, „левым" загібам, антысэмітызму, вялікадзяржаўнаму і інш. шовінізмам; Рабфак заўсёды рашуча рэагаваў на ўсялякія вылазкі клясава-варожых элемэнтаў, кулацкай агэнтуры, ачышчаючы рады выкладчыкаў і студэнтаў ад усялякіх клясава-варожых

элемэнтаў. Толькі за 1930/31 вуч. год было выкрыта і зволена з рабфаку звыш 20 асоб.

Рабфак рашуча праводзіць ў жыцьцё ленінскую нацполітыку. Яшчэ з 1924 г. пачалася беларусізацыя Рабфаку. Праведзена была адпаведная праца сярод выкладчыкаў і студэнтаў. У 1927 г. выкладаньне амаль ня ўсіх дысцыплін было пераведзена на беларускую мову. Рабфак абслугоўвае пролетарыят і бяднейшае сялянства ўсіх нацыянальнасьцяй БССР; з мэтай падрыхтоўкі кадраў для працы сярод працоўных мас нацменшасьцяй у 1927 г. было адчынена яўрэйскае аддзяленьне, з выкладаньнем на яўрэйскай мове, і ў 1930 г.—польскае аддзяленьне, з выкладаньнем на польскай мове. Яўрэйскае аддзяленьне дало ўжо 2 выпускі—у сьнежні 1930 г. і чэрвені 1931 г. На ўсім Рабфаку ў канцы бягучага навучальнага году працуюць 7 груп, яўр. аддз. і адна польскага. Ажыцьцяўляючы нацполітыку партыі, Рабфак сваечасова даваў адпор усялякім праявам розных плыняў нац.-дэмократызму, яўрэйскага і польскага шовінізмаў, што выяўляліся з боку паасобных выкладчыкаў і студэнтаў.

Пролетарская рэволюцыя адкрыла шлях у вышэйшую школу для жанчыны—работніцы. З году ў год павялічваючы процант жанчын сярод студэнцтва, Рабфак давёў яго зараз да 32%.

Рабфакі былі ўтвораны, як часовыя школы, якія будуць існаваць да тэй пары, пакуль, рабочыя і бяднейшыя сяляне ня пойдуць у вузы праз звычайныя школы. Але практыка высьветліла, што рабфакі сталі сталай ўстановай у сыстэме народнай асьветы: яны яшчэ на доўгі час застануцца аднэй з галоўных крыніц, праз якую рабочыя ад варштату пойдуць у вузы. Мала таго, рабфакі за час свайго існаваньня і па сваёй пэдагогічнай працы сталі лепшай сярэдняй школай. Рабфак БДУ у процэсе сваёй працы, шляхам ачышчэньня ад выпадкова трапіўшых у яго пэдагогаў розных меншавіцкіх, сіоністкіх і нацдэмаўскіх элемэнтаў, паступова ўзмацняючы партыйнае ядро пэдагогаў (ад 0% у 1921 г. да 28% ў 1931 г.), прыцягваючы маладыя сілы з выхаванцаў савецкіх вузаў шляхам самакрытыкі ў сучасны момант увесь час паляпшае склад пэдагогаў. Належны контакт паміж выкладчыкамі і студэнтамі дае мажлівасьць шукаць і ажыцьцяўляць лепшыя мэтоды вучобы, змагацца за ідэолёгічную вытрыманасьць выкладаньня, праводзіць соцыялістычныя мэтоды працы—ударніцтва і соцспаборніцтва, даваць сустрэчныя пляны, чым пры напружанасьці працы скарачаць тэрміны навучаньня без паніжэньня якасьці вучобы (пераход з 4-х год навучаньня на 3 і 3½ гады, і пераход з 3-х год навучаньня на 2½ гады ў паасобных групах). Не адрыва-

ючы рабфакаўцаў ад жыцьця, ад грамадзкай працы—па шэфству ў савгасах і колгасах, выхоўваючы актывістаў і барацьбітоў за выкананьне плянаў социялістычнага будаўніцтва, Рабфак дае належную вучэбную падрыхтоўку, з якой выпускнікі спраўляліся з програмамі любога вуза; дэзэртырства з прычыны цяжкасьцяў у вучобе-зьявішча вельмі рэдкае. Задавальненьне падрыхтоўкай рабфакаўцаў многа разоў адзначалася і студэнтамі, і профэсурай вузаў.

Непасрэдную сувязь з рабочаю масаю, якая працуе на заводах і фабрыках, рабфак ажыцьцяўляе праз вячэрняе аддзяленьне. Вячэрні Рабфак быў адчынены ў пяршыню ў 1921 г.; у 1924 г. ён па загаду НКА быў ліквідаваны, у 1927 г. жыцьцё зноў высунула адчыненьне вячэрняга Рабфаку на чаргу; Рабфак быў адчынены ў сьнежні 1930 г. даў ужо выпуск. Умовы працы на вячэрнім аддзяленьні значна цяжэйшыя за дзённыя, але паколькі ў 4-ты год навучаньня студэнты пераводзяцца на дзённыя заняткі з забясьпячэньнем стыпэндыяй, к канцу навучаньня веды і навыкі вячэрнікаў выраўніваюцца. Вячэрнія рабфакі як школа, якая падрыхтоўвае рабочых да вузаў, не адрываючы іх ад вытворчасьці, цалкам сябе апраўдала і мае ўсе падставы для свайго існаваньня і пашырэньня. Пасьля рэорганізацыі ў студзені 1931 г. дзённае аддзяленьне Рабфаку налічвае 295 асоб, якія разьмяркоўваюцца паміж 12 групамі; на вячэрнім аддзяленьні каля 300 асоб—разьмеркаваны паміж 9 групамі. Апрача таго да рабфаку прымацавана група ў 28 асоб для падрыхтоўкі на коопэрацыйнае аддзяленьне Наргасу БДУ Коопэрацыйная група канчае працу да ліпеня 1931 г. перадае сваю продукцыю цалкам БДУ.

Апрача вызначаных контынгэнтаў у складзе рабфаку зараз (па прыкладу практыкі мінулага году) працуюць 4 групы падрыхтоўчых да рабфаку курсаў у ліку 120 асоб, якія абслугоўваюцца выкладчыкамі Рабфаку ў парадку грамадзкіх абавязкаў. Організацыя курсаў у вядомай частцы забясьпечвае прыем наступнага навучальнага году.

Улічваючы вялізарную значнасьць завочнага навучаньня, якое дае мажлівасьць даць неабходную асьвету шырокім колам рабочых і колгасных мас, якія раскінуты па ўсёй тэрыторыі рэспублікі, не адрываючы іх ад штодзённай працы, Рабфак організаваў завочнае аддзяленьне, на якім зараз лічыцца 2 курсы, у колькасьці 350 асоб. З наступнага навучальнага году колькасьць завочнікаў даводзіцца да некалькіх тысяч асоб.

На працягу сваёй 10-ці гадовай гісторыі, Рабфак БДУ на кожным этапе жыў жыцьцём партыі, няўхільна ажыцьцяўляючы яе дырэктывы і лёзунгі, рашуча змагаючыся з усялякімі

адхіленьнямі. Сваю галоўную задачу—даць вўзам організуючае пролетарскае ядро—ён увесь час пасьпяхова выконвае: рабфакаўцы пераходзячы ў вузы, паставілі ў апошнім усю навучальную і грамадзкую працу па прыкладу рабфакаўскай. Зараз перад Рабфакам стаяць наступныя задачы: рэалізацыя пастановы аб політэхнізацыі, аб сувязі тэорыі з практыкай і ўвязкі з вытворчасьцю, пашырэньне прыёму, высьвятленьне спэцыялізацыі рабфаку з рэорганізацыяй БДУ забясьпячэньне рабфаку ўсімі неабходнымі навучальнымі прыладамі і падручнікамі на беларускай і іншых нацыянальных мовах з удзелам у гэтай працы настаўніцкага складу рабфаку. Уся партыйная і савецкая грамадзкасьць павінна пайсьці на сустрач Рабфаку ў барацьбе яго за поўнае і якаснае ўкомплектаваньне, у барацьбе за падрыхтоўку кадраў для кадраў.

Рабфак БДУ, працягваючы сваю барацьбу за падрыхтоўку пролетарскіх кадраў, пад кіраўніцтвам Компартыі і пры дапамозе ўсяе савецкае грамадзкасьці з ускладзенымі на яго задачамі справіцца.

---

**А. ГУРЛО.**
**Дэкан Фак. Народнае Гаспадаркі**

# Факультэт Народнае Гаспадаркі БДУ.

З моманту стварэньня Бел. Дзярж. Унівэрсытэту рабочая кляса пад кіраўніцтвам Комуністычнае партыі са ўсёй адданасьцю прыступіла да пабудовы вышэйшай школы ў БССР. З далёкіх куткоў Беларусі, фабрык, заводаў, вёсак стала сьцякацца рабоча-сялянская моладзь, каб дапамагчы Ураду БССР падняць пролетарскую культуру на адпаведную вышыню. Дынаміку гэтага разьвіцьця мы прасочым на разьвіцьці факультэту Народнае Гаспадаркі. Сваю гісторыю ён пачынае з факультэту грамадзкіх Навук на яго Экономічным аддзяленьні. На факультэт Грамадзкіх Навук на яго Экономічнае аддзяленьне было прынята ў 1921 годзе 237 асоб; па сваёй адукацыі гэта быў надзвычайна разнастойны склад. Былі студэнты з сярэдняй адукацыяй гімназіі, духоўнай сэмінарыі і нават паасобныя скончыўшыя кадэцкі корпус, што-ж датычыцца социяльнага складу, то % рабочых быў зусім нязначны і нават па паасобных матар'ялах цяжка вылічаемы. Па нацыянальнаму складу дзьве нацыянальнасьці— яўрэі і беларусы зьяўляліся пераважнымі. Каля 70% прадстаўляў сабою гэты склад студэнцтва.

У 22-23-м навучальным годзе ўжо адчыняецца другі курс, на які прымаецца 110 асоб. Аддзяленьне разьбіваецца на цыклы: Адміністрацыйна-Прамысловы, Банкаўска-Фінансавы, а Коопэрацыйнага цыклю кіраўніцтва факультэту не магло адчыніць за адсутнасьцю выкладчыкаў.

Галоўную ўвагу ў навучальным пляне займалі дысцыпліны гісторыі, зачастую зусім адарваныя ад жыцьця і запатрабаваньняў сучаснасьці.

Пры факультэце функцыянаваў габінэт грамадазнаўства, налічваючы 3000 томаў літаратуры па ўсіх дысцыплінах, якія чыталіся на факультэце. Як відаць з матар'ялу, курс усіх дысцыплін быў поўнасьцю забясьпечан выкладчыцкім пэрсоналам.

З справаздач бачна, што навуковымі працаўнікамі вялася і навукова-дасьледчая праца, але, на вялікі жаль, мы тых друкаваных матар'ялаў, якія засталіся нам у спадчыну, скарыстаць ня можам, бо амаль, што ня ўсе яны наскрозь прасякнуты немарксысцкай, чуждай нам ідэолёгіяй. Гэтыя працы, зачастую адарваныя ад жыцьця, зьяўляюцца цікавым матар'ялам архіўнага парадку. Характэрна, што яшчэ ў 22/23 годзе друкаваліся такія працы, як тастамэнты Нікалая I-га, лісты Пабеданосцава да Александра III-га, наказ старостам і дзяржаўцам і валочная устава, праверка правоў на зямлю ў маентках каралевы Боны і г. д.

Усё гэта сьведчыць аб тым, што гэты факультэт зьяўляўся адарваным ад жыцьця і патрэбна была грунтоўная рэарганізацыя яго як па лініі перабудовы навучальных плянаў, так і па ачыстцы гэтага факультэту ад соцыяльна-чуждых элемэнтаў. Аднак, быў зроблены выпуск 3-га курсу і, як мы бачым, скончыла гэты факультэт 4 чалавекі партыйцаў і комсамольцаў. З 60 чал. 11% рабочых, 32% дзяцей сялян і землеўласьнікаў; што разумець пад катэгорыяй „сялян-землеўласьнікаў“ мабыць ня цяжка.

Ўжо з першых гадоў існаваньня факультэту, яго кіраўніцтва пачало шукаць новыя формы падрыхтоўкі чырвоных спэцыялістаў, а ў сувязі з гэтым і перабудовы вышэйшай соцыяльна-экономічнай асьветы. Яно імкнулась некалькі тэхнізаваць, прыдаць экономічным вузам больш-менш адпавядаючы запатрабаваньням характар, але, на жаль, яму гэта не ўдавалася. Панаваў у падрыхтоўцы унівэрсалізм, прасягнуты гістарычным зьместам выкладаемых дысцыплін, а самі спажыўцы, да якіх ішлі працаваць экономісты ня ведалі, хто ім патрэбен. Некаторыя лічылі, што экономістам павінен быць высока-кваліфікаваны адміністратар, другія лічылі, што гэта будзе бухгальтар, статыстык, але-ж адбудавальны пэрыод нашай народнай гаспадаркі патрабаваў ўжо такога спэцыяліста, які-б ведаў гаспадарку, тэхніку, быў знаёмы з багацьцем краю, марксысцка-ленінскі падрыхтаваны. ФОН гэтых спэцыялістаў даць ня мог і ён быў зачынены.

Патрабаваўся новы від школы, з новымі больш выразна акрэсьленымі задачамі і профілем спэцыяліста, і ў 25/26 навучальным годзе Ўрад БССР выдаў новы закон аб організацыі факультэту Права і Гаспадаркі.

Ён організаваўся ў складзе 2-х аддзяленьняў Праўнага і Экономічнае. На чале яго стаяў профэсар Сямен Якаўлевіч Вольфсон. Тав. Вольфсон з энтузіязмам і энэргіяй прыступіў да пабудовы гэтага новага віду вышэйшай спэцыяльнай школы. Эконо-

мічнае аддзяленьне было падзелена на цыклы: 1) Адміністрацыйна-Прамысловы, 2) Коопэрацыйны, 3) Фінансавы і 4) Плянава-Статыстычны. Як відаць, сама структура гаворыць за тое, што ўжо больш-менш пачынаецца паглыбленая спэцыялізацыя. Такая структура факультэту спрыяюча адбілася на комплектаваньні яго, % рабочых даходзіць да 20, партыйна-комсамольская праслойка—да 28%, астатнія наборы з кожным разам паляпшаюцца. Ўжо ў 28/29 годзе процант партыйцаў даходзіць да 35% і комсамольцаў да 38%. Рабочая праслойка Экономічнага аддзяленьня складае 30%. Дэканатам праароблена вялізарнейшая работа па стварэньні габінэту тавараразнаўства, які зьяўляецца найлепшым на факультэце, а пасьля яго габінэт марксызму і ленінізму стаў лепшым габінэтам ва ўсім Унівэрсытэце. Габінэт статыстыкі і вучоту, а таксама вайсковая катэдра аказалі факультэту ў выкананьні навучальных плянаў значную дапамогу.

Навучальныя пляны Экономічнага аддзяленьня былі прапрацаваны больш-менш здавальняючы хаця, на жаль, профілю экономіста і гэтыя навучальныя пляны ўпаўне акрэсьленага даць не маглі. Але тое, што пры 4-х гадовым курсе навучаньня, куды ўваходзіць і час на дыплёмную працу, пры значнай колькасьці сэмінарскіх заняткаў і максымальным зьмяншэньні гістарычных дысцыплін, давядзеньні % экономічных дысцыплін да 40%, % 10 тэхнічных, даў больш-менш здавальняючую падрыхтоўку, а калі дадаць тое, што на апошнім курсе ўжо былі праведзены дзьве вытворчыя практыкі—гэта дае нам магчымасьць сказаць, што пералом ўжо быў зроблен. Калі-б ня было нездаровых настрояў з боку паасобных кіраўнікоў гаспадарчых устаноў, і нават у некаторай частцы паасобных кіраўнікоў былога опортуністычнага кіраўніцтва НКА БССР, што наогул экономісты для Беларусі не патрэбны, то профіль экономіста быў-бы больш яскравым ўжо значна раней, і тая шматпрадметнасьць і зачастую вялізарнейшая энцыклёпэдычнасьць на экономічным аддзяленьні была-б даўно ізжыта.

Трэба адзначыць, што ўсё студэнцтва і значная частка навуковых працаўнікоў на сваіх прадметных комісіях вялі жорсткую барацьбу за спэцыялізацыю, за больш выразны профіль спэцыяліста, за якасьць выкладаемых дысцыплін, за марксысцка-ленінскі зьмест іх. Вынікам чаго зьяўляецца тое, што такія навуковыя працаўнікі, як профэсар Парменаў, доцэнт Пэўзнэр, доцэнт Якунін былі зьняты з навуковае працы, хаця яшчэ доўгі час працягваў працаваць па катэдры політэкономіі меншавік Гэрцык...





Карыдоры.
Коридоры.

Ня гледзячы на больш-менш здавальняючае абсталяваньне габінэтаў, зачастую не хапала самых элемэнтарных падручнікаў па экономічных дысцыплінах, што перашкаджала пераводу занятак на лябораторна-сэмінарскі мэтод, які, дарэчы кажучы, на экономічным аддзяленьні быў не ў вялікай пашане. За тое габінэт шчотных навук, дзякуючы асаблівай увазе і непасрэднага удзелу ў працы па організацыі гэтага габінэту з боку проф. Манава, быў пастаўлен на адпаведную вышыню. Трэба адзначыць і работу профэсара Каплана і доцэнта Лясноўскага, якія шмат энэргіі затрацілі на стварэньне і організацыю габінэту таваразнаўства, які на сёньняшні дзень зьяўляецца вялікай каштоўнасьцю факультэту.

У 1929 годзе факультэт зрабіў свой першы выпуск даўшы народнай гаспадары 57 экономістаў прамысловасьці, коопэрацыі, фінансавым установам і Дзяржпляну. Гэты выпуск, хоць быў малы па сваёй колькасьці, але значная частка з гэтых т.т. прайшла шлях грамадзянскай вайны, мае за сабою вялікі багаж профэсіянальнай і гаспадарчай працы каля 25% з іх зьяўляюцца не маладымі сябрамі партыі і гэтая група т.т. пачэсна выконвае свой абавязак, змагаецца з ўсякімі цяжкасьцямі за будаўніцтва соцыялізму ў нашай краіне. Каля 10—15 т.т. з іх пашлі на навуковую працу, некаторыя з іх зьяўляюцца выкладчыкамі нашых втузаў і вузаў.

Аднак, шпаркі тэмп і разгортваньне соцыялістычнага будаўніцтва на ўсіх франтох патрабаваў удасканаленьня падрыхтоўкі экономістаў па ўсіх галінах народнай гаспадаркі, і Ліпнёўскі Пленум УсеКП(б) у 28-м годзе, і Лістападаўскі Пленум 29-га г. ў сваёй пастанове даў выразную і яскравую ўстаноўку аб падрыхтоўцы экономістаў. Ён сказаў: максымальна патрэбна марксысцка-ленінскі ўзброіць, тэхнічна і экономічна падрыхтаваць, максымальная ўвага вытворчай практыцы і на раду з гэтым непасрэдны ўдзел ведамстваў, ВСНГ, коопэрацыйных, фінансавых, плянавых і інш. органаў у падрыхтоўцы кадраў, і на падставе гэтага ў 1930 г. у сакавіку м-цы экономічнае аддзяленьне Праўгасу было рэорганізавана ў факультэт Народнае Гаспадаркі, які павінен рыхтаваць экономістаў-інжэнэраў на прамысловым аддзяленьні, экономістаў-плянавікоў на коопэрацыйным, сельскагаспадарчым, фінансавым і плянава-статыстычным.

У адпаведнасьці з гэтым перабудоўваюцца ўсе навучальныя пляны і програмы. Прамысловае аддзяленьне з першага-ж курсу падзяляецца на цыклы: дрэваапрацоўчай прамысловасьці, мэталёвай, тэкстыльнай і скураной. Процант тэхнічных дысцыплін даходзіць да 40%, а ў новых навучальных плянах 31/32 навучальнага году да 52%. Вытворчая практыка студэнтаў да-

ходзіць да 40—45%. Мэтавае прызначэньне ўнутры кожнай галіны прамысловасьці зводзіцца да таго, што студэнты падрыхтоўваюцца для выкананьня аднаго з наступных відаў працы: плянаваньня ў прамысловасьці, тэхнічнага нормаваньня, забесьпячэньня і фінансаваньня прамысловасьці, тэхнічнага вучоту і калькуляцыя і гэтак далей. Таксама разьбіты на цыклы: Сельска-гасцададарчае аддзяленьне на цыклы—саўгаснага і колгаснага будаўніцтва. Фінансавае аддзяленьне на цыклы: фінансавы і крэдытны; Плянавае на цыклы—плянавы і статыстычны і Коопэрацыйнае—на цыклы саматужна-прамысловай коопэрацыі. Цыкл спажывецкай коопэрацыі вылучыў з сябе галіну таваразнаўства. Гэтыя аддзяленьні ў сваіх навучальных плянах прадугледжваюць таксама на працягу 3-х год 60% тэорэтычных дысцыплін і 40% практыкі. Процант спэцыяльных дысцыплін на кожным аддзяленьні розны, але-ж у рамках ад 38 да 40% спэцыяльных дысцыплін. Пры максымальным зьмяншэньні шматпрадметнасьці ў параўнаньні з Экономічным аддзяленьнем Праўгасу зьменшана на 40% дысцыплін. Агульная колькасьць дысцыплін на аддзяленьні даходзіць да 32—34-х. Увесь 30/31 год ішоў пад шляхам перабудовы факультэту: уся партыйная організацыя факультэту, усё студэнцтва разам з дэканатам вялі барацьбу за перабудову навучальных плянаў, адпавядаючых сучаснасьці. У перабудове ўсёй працы факультэту вялізарнейшую дапамогу аказалі мэтоды соцспаборніцтва і ўдарніцтва, якімі ахоплена каля 95% студэнцтва.

Факультэт організаваў яшчэ адзін габінэт машыназнаўства і значна дапоўніў навуковым замежным абсталяваньнем габінэт таваразнаўства. Значна папоўнен габінэт экономікі і вучоту, разьбітыя па аддзелах; вялікая увага аддана комплектаваньню габінэтаў тэхнічнай літаратурай.

Факультэт налічвае з 86 выкладчыкаў, 10 чалавек профэсароў, 37 доцэнтаў з іх 27 інжэнэраў, астатнія асыстэнты і выкладчыкі, але на вялікі жаль, пераважная большасьць з іх працуюць па сумяшчальнасьці ва ўстановах, што значна перашкаджае ў выкананьні акадэмпляну і робіць значныя прарывы ў ім.

Зроблен значны перелом і ў вытворчым навучаньні. Аднак, да гэтага часу многія з гаспадарчых устаноў усялякім чынам змагаліся, як яны казалі, „з накладнымі выдаткамі на прадпрыдмствах". Гэтае супраціўленьне зломлена і многія з іх ўжо ўсьвядомілі ролю вытворчага навучаньня і рэальную дапамогу вытворчасьці з боку нашага студэнцтва.

Выконваючы дырэктывы Лістападаўскага Пленуму ЦК УсеКП(б) у скарэйшы тэрмін даць значную колькасьць новых спэцыялістаў як па соцыяльнаму складу, так і па падрыхтаванасьці іх, фа-

культэт з 1-га чэрвеня 30 году па 1-е ліпеня 31 году выпусьціў 246 чырвоных спэцыялістаў-экономістаў для прамысловасьці, сельскай гаспадаркі, коопэрацыі і плянавых органаў. 38% з іх партыйцы і комсамольцы, 39% рабочыя.

Сучасны склад факультэту 60% рабочых; 60% партыйна-комсамольская праслойка.

Па нацыянальнасьці: 57%—беларусоў; 38%—яўрэяў— і 5% іншых.

Забесьпячэньна студэнцтва на 70% стыпэндыямі і інтэрнатам. Забясьпечана яно падручнікамі і абсталяваньнем.

Тое, што факультэт з падзямельля былога камэрцыйнага вучылішча перайшоў у галоўны корпус Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту, гэтае дасягненьне зьяўляецца дасягненьнем нашай слаўнай Комуністычнай партыі і ўсёй рабочай клясы; дзякуючы ўмеламу і правільнаму кіраўніцтву нашай партыі мы дасягнулі такіх вялізарных посьпехаў.

У цяперашні гістарычны пэрыод, ажыцьцяўляючы рэволюцыйна-бальшавіцкі наступ на капіталістычныя элемэнты, мы павінны ўсямерна мобілізаваць клясавую чуласьць і рэволюцыйную актыўнасьць шырокіх мас студэнцтва супроць усіх тых, хто на справе дапамагае клясаваму ворагу ў яго шалёным супраціўленьні, пераможна ідучы наперад до соцыялізму. Трэба дабіцца таго, каб наш экономіст, выконваючы задачы, пастаўленыя перад намі партыяй і таварышом Сталіным у яго прамове аб максымальнай увазе да вывучэньня тэхнікі, выразнага і ўмелага складаньня промфінплянаў, на падставе дадзеных дырэктыў партыі мог весьці пераможную барацьбу за выкананьне і перавыкананьне гэтых плянаў, а з другога боку, на заводзе, на фабрыцы самім вучыцца і вучыць другіх, выконваючы завет Леніна „Что диктатура пролетариата есть обучение одним классом, пролетариатом, всех трудящихся, idem есть руководство".

Факультэт Народнае Гаспадаркі, прайшоўшы свой слаўны шлях барацьбы ў падрыхтоўцы кадраў чырвоных спэцыялістаў, на сёньняшні дзень ёсьць у складзе 5 аддзяленьняў. Мы ўпэўнены, што пад умелым кіраўніцтвам нашай Комуністычнай партыі ў блізкі час гэтыя аддзяленьні ператорацца ў магутныя самастойныя інстытуты—сапраўдныя ачагі-кузьні падрыхтоўкі чырвоных спэцыялістаў.

Пад сьцягам Леніна да новых перамог!

**М. Б. КРОЛЬ**
**Дырэктар Беларускага Дзярж. Мэдыцынскага Інстытуту**

# 10 год вышэйшае мэдыцынскае асьветы ў БССР.

I.

Пытаньне аб організацыі ў складзе БДУ Мэдыцынскага Факультэту было прадрашона яшчэ ў 1920 г., калі комісія НКА РСФСР па залажэньні новых вузаў назначыла комісію па організацыі вышэйшай школы на Беларусі. 26-га сьнежня 1920 г. была наладжана першая „экспэдыцыя маскоўскіх профэсароў" у Менск, у якой бралі ўдзел і мэдыкі, члены камісіі, Л. С. Мінор і я. У Менску яшчэ былі сьляды польскай і нямецкай окупацыі ў выглядзе масы зруйнаваных дамоў. Яшчэ дыміліся падпаленыя белапалякамі пры іх адыходзе будынкі, а Партыя і Савецкая ўлада ўжо энэргічна вялі сваю організацыйную работу па аднаўленьні разбуранага, па наладжваньні ўсіх бакоў работы пролетарскай дыктатуры. Важнейшае месца ў гэтай рабоце з першых-жа дзён стала займаць і організацыя вышэйшай школы, у склад якой быў уключаны і Мэдыцынскі факультэт. Першыя навучальныя пляны былі выпрацаваны і праведзены мэдыцынскаю тройкаю (М. Б. Кроль, Л. С. Мінор і П. І. Карузін) ужо 22-га і 29-га сакавіка 1921 г. праз часовае праўленьне БДУ, працаваўшае тады ў Маскве. У красавіку 1921 г. ў Менск выехала другая комісія „маскоўскіх прафэсароў". 17-га красавіка на „аб'яднаным пасяджэньні прадстаўнікоў прэзыдыуму ЦВК і СНК БССР, часовага праўленьня Ўнівэрсытэту, маскоўскай камісіі профэсароў і Менскай пяцеркі па організацыі Унівэрсытэту" з удзелам прадстаўнікоў партыйных, савецкіх і профэсыянальных організацый у агульных рысах сталі вырысоўвацца конкрэтныя формы будучага Унівэрсытэту.

Першыя шагі па організацыі Мэдыцынскага факультэту ў той аднаўляльны пэрыод былі шчыльнейшым чынам зьвязаны з організацыяй аховы здароўя на Беларусі наогул, а ў Менску ў паасобку. Хаця на першых 2-х курсах выкладаліся толькі тэорэтычныя прадметы, але з першых-жа дзён сталі рыхтавацца

да прыстасаваньня будынкаў і больніц для клінік. Пры актыўнейшым удзеле ўсяе савецкае і партыйнае грамадзкасьці адводзіліся памяшканьні для Мэдыцынскага факультэту. Пад анатомічны Інстытут былі адведзены руіны фабрыкі „Вікторыя“ на былой Магазыннай, цяперака Унівэрсытэцкай вул. Іншыя тэорэтычныя катэдры (фізыка, патолегічная анатомія, гістолёгія) прытуліліся ў вялікім дому на рагу Ленінскай і Ўнівэрсытэцкай, дзе зараз зьмяшчаецца Акадэмія Навук. Габінэты заолегіі, батанікі і хэмічныя лябораторыі зьмяшчаліся на Шырокай вул. ў доме былога епархіяльнага вучылішча. Аб організацыі ўласных клінік нельга было і думаць. Да к таму часу найбольш мэтазгодным было весьці выкладаньне ў больніцах органаў аховы здароў‘я. Паводле дагавору з апошнімі аддзяленьні 1, 2 і 3-й савецкіх больніц былі прадастаўлены пад клінікі ўнутраных, хірургічных, вочных хвароб, пад акушорска-гінеколёгічную клініку.

Структура мэдыцынскага факультэту шмат у чым адрозьнівалася ад структуры іншых мэдыцынскіх факультэтаў Саюзу. Так, замест 3-х асноўных клінік па тэрапіі і стольніх-жа па хірургіі, ён заключаў у сябе іх толькі па дзьве. Значная частка катэдраў была злучана разам. Адзін профэсар займаў па некалькі катэдраў. Зразумела, што такое сумяшчэньне не магло не адбіцца на якасьці работы. Цяжкасьць запрашэньня адпаведных выкладчыкаў, а таксама затруднэньні з абсталяваньнем новых катэдраў прымусілі ў першыя часы ісьці па такому шляху і толькі паступова рухацца наперад, замацаваўшы спачатку ўжо адкрытыя ўстановы. У першы год нельга было атрымаць сталых выкладчыкаў для важнейшых дысцыплін і прышлося задавольвацца „гастролёрамі“.

Тэхнічна-організацыйныя пытаньні займалі ў першыя годы галоўную ўвагу работнікаў факультэту. Абсталяваньне катэдраў, падшуканьне памяшканьняў для іх, матар‘яльнае забясьпечаньне выкладчыкаў і студэнтаў, запрашэньне выкладчыкаў адбівалася на навучальнай частцы.

На будаўніцтве Мэдыцынскага факультэту ў значнай ступені адбіваліся настроі і суадносіны сіл у мэдыцынскіх колах Менску ў першыя гады аднаўляльнага пэрыоду і НЭП‘у. У той час, як рабочая грамадзкасьць, партыя і савецкі настроеныя слоі насельніцтва сустракалі будаўніцтва Мэдыцынскага Факультэту з вялічэзным энтузіазмам, акружаючы яго ў тыя цяжкія першыя годы надзвычайнаю ўважлівасьцю і цікавасьцю, частка мясцовых „дзеячоў“, злучаных шчыльнымі кроўнымі і дзелавымі узамі з толькі што прагнанаю буржуазіяй, яшчэ не адмовіліся ад ільлюзіі няпэўнасьці Савецкае ўлады, ад мараў аднаўленьня капіталізму. Цяжкасьць будаўніцтва, увядзеньне НЭП‘у яны

разглядалі як органічныя этапы, якія вядуць да рэўстаўрацыі капіталізму. Растаўлялі свае сілы пачынаўшыя распраўляць скрыдлы беларускія нацыянал-дэмократы і яўрэйскія нацыяналісты і, асабліва, вялікадзяржаўныя шовіністы, падняўшыя галавы з пераездам на работу ў Менск профэсароў, з якіх ня малая колькасьць з яўным грэбаваньнем адносілася да „беларусізацыі". К таму часу і на Мэдыцынскі факультэт пранiклi некаторыя з беларускіх нацдэмократаў. А душок вялікадзяржаўнага шовінізму ў той час вельмі моцна аддаваў на факультэце.

Ідэя організацыі Мэдыцынскага факультэту таксама сустракала з боку вярхушкі дактароў, якія ў той час толькі адзінкамі ўступалі ў профорганізацыі, далёка няспрыяючыя адносіны. Тыя, хто ня верыў у сталасьць Савецкае ўлады, глядзелі на організацыю Мэдыцынскага факультэту, як на авантуру: „Хто прыедзе сюды на катэдру? Дзе разгорнуцца лябораторыі і клінікі? Адкуль дастануць абсталяваньне? Нарэшце, БССР і зусім не патрабуе такое вялікае колькасьці дактароў. 2-3 выпускі дактароў задаволяць усе патрэбы". На такой вышыні знаходзіліся скэптычныя разважаньні аб пэрспэктывах вышэйшай мэдыцынскай школы ў БССР. Не апошнюю ролю адыгрывала і боязьнь за сваю практыку. Усе гэтыя варожыя настрої клясавога ворагу знаходзілі свае адбіткі і ў жыцьці першых год Мэдыцынскага факультэту.

Мэдыцынскі факультэт хварэў такімі хваробамі больш чымся іншыя факультэты таму, што большая частка яго работнікаў— клінічныя асыстэнты і ордынаторы, як вышэй было сказана, запрашаліся з мясцовых дактароў, не парваўшых ні моральных ні матэрыяльных сувязяй з былымі пануючымі клясамі. Шырокую паверхню датыканьня да чужых і варожых элемэнтаў, да нэпманаў, прадстаўляла таксама і прыватная практыка, зблiжаўшая і частку профэсароў з мясцовымі дактарамі, якія яшчэ доўгі час прадаўжалі глядзець на Мэдыцынскі факультэт як на сваю ўласнасьць.

Аднэю з найбольш важных проблем, якія стаялі перад Мэдыцынскім факультэтам, была проблема аздараўленьня складу студэнтаў і выкладчыкаў шляхам выключэньня чуждых і варожых элемэнтаў і павялічэньня прыёму студэнтаў і запрашэньне выкладчыкаў з ліку пролетарскіх слаёў, сялян-беднякоў і сераднякоў і ідэолёгічна блізкіх партыі навуковых работнікаў.

У гэтай барацьбе за пролетарскія кадры вялікую дапамогу рабіла грамадзкасьць Мэдыцынскага факультэту. Шляхам перагляду студэнцкага складу, заўсёднага яго вывучэньня, рэагаваньня на варожыя выступленьні на сходах, рабілася некаторае палепшаньне складу студэнтаў і выкладчыкаў. Яшчэ большае



**А**натомічны корпус.
Анатомический корпус.



Анатомічная саля.
Анатомический зал.

значэньне мела выхаваўчая работа, якую пераважна бралі на сябе партыйныя і студэнцкія професіянальныя організацыі. Калі коратка даць профіль Мэдыцынскага факультэту таго пэрыоду, то, як ўжо сказана, з яго організацыяй шчыльна зьвязаны першыя шагі і па організацыі савецкае мэдыцыны на Беларусі. Пераезд на работу на Мэдыцынскі факультэт кваліфікаваных сіл бясспрэчна ў значнай ступені дапамагаў будаўніцтву аховы здароў'я. Першы выпуск Мэдыцынскага факультэту у 1926 г. даў органам аховы здароў'я першых 160 дактароў свае продукцыі, а за год да таго скончылі Мэдыцынскі Факультэт 6 дактароў, якія былі прыняты на старэйшыя курсы.— Якую падрыхтоўку атрымалі першыя выхаванцы Мэдыцынскага факультэту?

Галоўнаю базаю Мэдыцынскага факультэту былі ўстановы НКАЗ, дзе к таму часу элемэнты дыспансэрызацыі ня былі яшчэ зусім разгорнуты. Профіляктычныя элемэнты адыгрывалі вельмі нязначную ролю. Відавочна, што галоўная работа па *падрыхтоўцы нашых першых выхаванцаў да практычнае работы* была яшчэ наперадзі, у катле жыцьця, у катле савецкага будаўніцтва. Некаторыя з іх да гэтай пары працуюць і ў Мэдыцынскім Інстытуце ў якасьці карысных навуковых работнікаў.

Трэба дзівіцца, як перагружаныя ў той час організацыйнай работай на паасобных катэдрах яшчэ знаходзілі час для навуковых работ. У тую пору факультэт жыў посьпехамі і няўдачамі паасобнай катэдры. Зоолегічныя колекцыі Федзюшына, якія апошні складаў з фаўны БССР, навейшыя хэмічныя апараты па катэдры хэміі, удалыя опэрацыі профэсароў Сакалоўскага і Рубашова, дэмонстрацыі і абходы, спрэчкі і разнагалосьсі паміж унутранымі клінікамі профэсароў Гаўсмана і Мелкіх, новыя мэтоды дасьледваньня—усё гэта ажыўляла мэдыцынскае асяродзьдзе гор. Менску.

Значная частка продукцыі Мэдыцынскага факультэту друкавалася і ў загранічных журналах, частка—ў савецкіх; нязначная частка, у зьвязку з цяжкасьцямі ў галіне друкаваньня і паперы—друкавалася ў працах БДУ і ў выдаваным пры бліжэйшым удзеле медыцынскага факультэту журнале НКАЗ „Беларуская Мэдыцынская думка". Частка работнікаў Мэдыцынскага факультэту брала ўдзел і ў работах Інбелькульту, пазьней Беларускай Акадэміі Навук. Калі да гэтага яшчэ дадаць удзел работнікаў мэдыцынскага факультэту ў розных комісіях НКАЗ, у кіраўніцтве адказьнейшымі інстытутамі НКАЗ: Мікробіолегічным і Санітарна-Гігіенічным, і ў Вучоным Мэдыцынскім Савеце НКАЗ, у сэкцыі аховы здароўя Гарсавету, у санасьветнай рабоце, у популярных лекцыях у клюбах, анты-рэлігійнай про-

пагандзе, то атрымаецца некаторае ўяўленьне аб значным удзеле, які браў Мэдфак у будаўніцтве савецкае аховы здароўя.

II.

Набліжэньне канца аднаўляльнага пэрыоду і высунутыя XV-м парт. зьездам 1927 г. упаўне конкрэтныя проблемы пяцігодкі і культурнай рэволюцыі разгарнулі перад Мэдыцынскім факультэтам з значна большаю вострасьцю пытаньне аб падрыхтоўцы пролетарскіх кадраў.

Па новаму і, бадай упершыню больш конкрэтна, паўстала перад Мэдыцынскім факультэтам БДУ, як і перад іншымі мэдыцынскімі факультэтамі СССР, пытаньне аб профіле доктара, якога павінен рыхтаваць мэдвуз. Ня проста дактароў, тым больш дактароў старога тыпу, пераважна для прыватнай практыкі, павінен рыхтаваць савецкі мэдвуз, а дактароў для сельскіх вучасткаў, якія маглі-б абслугоўваць працоўнае насельніцтва, як лекава-профіляктычнай так і санітарнай дапамогай. Дактары павінны ў сьценах вуза атрымаць матэрыялістычна-дыялектычную падрыхтоўку. Яны павінны ўсвоіць новы профіляктычны напрамак у мэдыцыне. Яны павінны быць падрыхтаванымі да самастойнае адказнае работы ва ўмовах вучастку, дзеля чаго патрабуецца больш солідная тэорэтычная падрыхтоўка, і, нарэшце, яны павінны ауладаць мэдыцынскай тэхнікай. Відавочна, што для адказнай работы на сельскім вучастку доктар павінен быць ня толькі спэцыялістам але і грамадзкім работнікам, актыўным удзельнікам культурнай рэволюцыі. Усё гэта яшчэ больш завастрыла пытаньне аб социяльным складзе будучых дактароў і аб ідэолёгіі і мэтодах выкладаньня. Пытаньне навучальнага пляну, програм паасобных дысцыплін, падрыхтоўкі выкладчыцкіх кадраў з пролетарскіх і ідэолёгічна-блізкіх партыі слаёў, паўстала ў парадку дня Мэдыцынскага факультэту.

Перш за ўсё паўстала пытаньне аб далейшым разгортваньні Мэдыцынскага факультэту. Былі заснаваны асобныя катэдры патолёгічнай фізыолёгіі, судовай мэдыцыны, экспэрымэнтальнай гігіены, опэратыўнай хірургіі з топографічнай анатоміяй, тубэркулёзу, інфэкцыйных хвароб, стоматолёгіі, ортопэдыі і фізіо-тэрапіі.

Выкладаньне грамадзкіх прадметаў пачало ўсё паляпшацца і ў сэнсе адвядзеньня дастатковага ліку гадзін, і паляпшэньня мэтодаў выкладаньня. На абсталяваньне катэдраў была зьвернута асаблівая ўвага. Асабліва на катэдру патолёгічнай фізыолёгіі, як на цэнтральную катэдру Мэдыцынскага факультэту была кінута вялікая сума і валюта. Амаль не пры ўсіх катэдрах аргазаваны былі добра абсталяваныя навуковыя ляфораторыі для

дасьледчых работ. Асабліва тэорэтычныя катэдры ў значнай ступені забясьпечаны сучасным абсталяваньнем часткаю загранічнага паходжаньня. За гэты пэрыод значна вырасла ўдзельная вага Мэдыцынскага факультэту як цэнтру навуковай работы. Работы яго супрацоўнікаў з ахотаю друкаваліся ў межах СССР і за яго межамі. Некаторыя зьявіўшыяся ў гэты час кнігі перакладаліся на нямецкую, ангельскую і гішпанскую мовы, прэміраваліся на ўсесаюзных конкурсах.

Рад прадстаўнікоў Мэдыцынскага факультэту браў чынны ўдзел ва ўсесаюзных зьездах: тэрапэўтычных, хірургічных, псыхо-нэўролёгічных, пэдыятрычных, вочных, вушных, па мікробіолёгіі, гістолёгічных, фізыолегічных і інш. Некаторыя ўдзельнічалі актыўна ў радзе зьездаў заграніцай. (Гаусман, Кроль і інш.) Організаваны былі сіламі Мэдыцынскага факультэту і ўсебеларускія зьезды хірургаў і тэрапэўтаў, санітарных дактароў, спэцыялістаў па хваробах уха, горла і носу. Досыць шырока ўжываліся навуковыя камандыроўкі для ўдасканаленьня і для дасьледчых работ у навуковыя цэнтры СССР і заграніцу.

Вялікае значэньне прыдавалася прасоўваньню сваіх асыстэнтаў на самастойныя пасады доцэнтаў і профэсароў. Так доцэнтуры за гэты час атрымалі 18 былых асыстэнтаў Мэдыцынскага факультэту.

Такое прасоўваньне маладых работнікаў сябе ўвогуле ўпаўне апраўдала. Таксама прасунута было наперад у асыстэнты з нашых ордынатараў пасьпеўшых закончыць свой стаж альбо асьпірантаў 20 чалавек.

Адначасова з процэсам высоўваньня сваіх маладых кадраў праходзіў процэс ачышчэньня Мэдыцынскага факультэту ад чуждых і дэзорганізуючых работу элемэнтаў, аб чым часткова гаварылася вышэй.

І тое і другое супадае з 1927-28 акад. годам.

Ня меншае значэньне мела проблема пролетарызацы студэнцкага складу Мэдыцынскага факультэту. Процэс самаачышчэньня ішоў надзвычайна марудна. Замест студэнтаў, скончыўшыўшых Мэдыцынскі факультэт прымалі на першы курс новых студэнтаў усё яшчэ з недастатковым соцыяльным адборам. Толькі к 1928 году адносіцца больш значны зрух, калі паводле дырэктыў прыём упяршыню адбываўся па курыяльнай сыстэме.

Вялікае значэньне ў рабоце Мэдыцынскага факультэту пачалі адыгрываць пытаньні мэтодыкі выкладаньня. Побач з лекцыямі значная доля часу ўдзелялася практычным заняткам. Групы па тэорэтычных прадметах складаліся ад 10 да 25 чал. Клінічныя заняткі вяліся групамі ў 10 чалавек. Да недастачаў навучальнага пляну таго часу трэба аднесьці, шматпрадметнасьць, нагрузка

студэнтаў прадметамі, якія яны павінны былі ўсвоіць у сярэдняй школе і на падрыхтоўчых курсах.

Праверка студэнтаў праходзіла па заліковай сыстэме, дзякуючы якой, як правіла, студэнты па цэламу раду прадметаў браліся за кніжку толькі перад канцом навучальнага году. Значна перашкаджала нормальнай рацыяналізацыі навучальнага пляну раскіданасьць навучальна-дапаможных устаноў. Лекцыі наведваліся недастаткова ў значнай ступені ў зьвязку з перагрузкаю пастароньняю службаю. У выніку пасьпяховасьць студэнтаў у першыя годы існаваньня Мэдыцынскага факультэту, якая ўлічвалася вынікам залікаў, у значнай ступені адставала. Барацьба за акадэмічную пасьпяховасьць вялася шляхам унетраньня дысцыпліны, павялічэньня ліку стыпэндыі, павялічэньня іх разьмераў і актывізацыі мэтодаў навучаньня, якая галоўным чынам зводзілася да павялічэньня дэмонстрацыйнасьці лекцый і практычных заняткаў. Важнейшым элемэнтам у барацьбе за пролетарскія кадры трэба прызнаць узмацненьне наступленьня на варожыя савецкаму будаўніцтву ідэолёгіі.

Аграмадная большасьць навуковых работнікаў Мэдыцынскага факультэту з вялікім энтузіазмам і з веданьнем справы працавала і працуе над узмацненьнем Мэдыцынскага факультэту для падрыхтоўкі савецкіх дактароў, злучаючы навучальную работу з работаю навуковаю. Апошняя колькасна дасягнула вялізных памераў і вылічаецца па ўсіх катэдрах некалькімі сотнямі работ. З гэтых работ некаторыя павінны быць прызнаны ўпаўне каштоўнымі навуковымі дасьледваньнямі. Другая частка прадстаўляе сабою вялікі матар'ял накопленых фактаў, вопыту без дастатковага крытычнага аналізу і часта без дастатковай праверкі іх вывадаў. Падобна да большасьці мэдыцынскай продукцыі тутака пануе пераважна грубая эмпірыка і эклектызм.

Сярод нашай профэсуры, асабліва ў той час, яшчэ далёка ня былі зжыты буржуазныя і нават рэстаўратарскія настроі, якія прарываліся часткаю ў выглядзе „навуковых“ работ і яшчэ часьцей на лекцыях і выказваньнях на сходах і паседжаньнях.

Мэдыцынскаму факультэту разам з адміністрацыяй прышлося весьці барацьбу з такімі напрамкамі. Мы пералічаем тутака толькі некаторыя характэрныя факты. Адзін профэсар прапаведваў на сваіх лекцыях хрысьціянскую мораль і этыку, ён мысьліў, што Маркса можна замяніць Ленекам, што займацца навукай можа толькі чалавек не захоплены грамадзкаю работаю. Гігіеніст даводзіў, што лішэнцаў не бяруць на вайсковую службу таму, што яны менш выносьлівы, што ў талмудзе маюцца каштоўныя ўказаньні гігіенічнага характару, напрыклад абрэзаньне. Пад відам дыялектычнага матэрыялізму выкладаліся віталістычныя





Опэрацыйная.

Оперативная.

тэорыі пабудовы і функцыі каморак. Як апошняя прамудрасьць навукі прыпадносілася концэпцыя зьвядзеньня ўсёй псыхолёгіі да ўмоўных рэфлексаў большае альбо меншае складанасьці.

Ленінская нацыянальная палітыка таксама выклікала супраціўленьне сярод раду навуковых работнікаў. Ня было недастачы і ў нацыянал-дэмократычных выступленьнях, нярэдка пад выглядам „чыстае навукі". Скарыстоўваліся пытаньні крывяных груп і расава-біолёгічных індэксаў, констытуцыйныя асаблівасьці для абгрунтаваньня і адшуканьня самабытных рысаў чыстага беларуса, яўрэя. Не драмалі і яўрэйскія шовіністы (абгрунтаваньне спэцыфічнасьці хваробы Тай-Сакса ва ўльтранацыяналістычным духу, нацыяналістычны аналіз дэклясаваных яўрэяў, над якімі праведзена соц. гігіенічная абсьледваньне.) Мэдыцынскі факультэт усёй сваёй масаю і навуковых работнікаў і студэнтаў, усьвядоміўшы значэньне марксызму-ленінізму для навуковай і выкладніцкай работы, у асноўнай сваёй масе імкнецца да перамажэньня ідэолёгічна чуждых і варожых установак у тэорыі і ў практыцы. Уключэньне ў соцыялістычнае будаўніцтва, узмацненьне пролетарскіх кадраў як студэнтаў, так і навуковых работнікаў, зьяўляецца лепшаю гарантыяй, што і гэты этап будзе правільна вырашаны навук. работнікамі і ўсёй грамадзкасьцю мэд. вузу. Брыгады мэдыцынскіх работнікаў прымалі чынны ўдзел ва ўскрыцьці варожых „навуковых" работ па некаторых катэдрах Беларускай Акадэміі Навук. Дыспуты, організаваныя з мэтаю раскрыцьця рэакцыйнай сутнасьці і лжэнавуковасьці раду тэорый, выклікалі надзвычайна гарачую цікавасьць усяго колектыву.

Усё вырастаючыя патрэбы Мэдыцынскага факультэту ў пашырэньні лябораторый, аўдыторый і навукова-дасьледчых габінэтаў, а таксама ўсё больш выяўляючаяся немагчымасьць весьці нормальныя заняткі ў клініках, што знаходзяцца ў гарадзкіх больніцах і для выкладаньня зусім непрыстасаваны, дыктавалі неабходнасьць уключэньня ў лік об'ектаў унівэрсытэцкага будаўніцтва таксама і корпусаў для тэорэтычных катэдраў Мэдыцынскага факультэту, а таксама спэцыяльных будынкаў для клінік. Такім чінам, у Менску вырасьлі сярод унівэрсытэцкага гарадку два вялікіх корпусы для катэдраў нормальнай і патолегічнай анатоміі, судовай мэдыцыны і опэрацыйнай хірургіі, зьмяшчаючыхся ў анатомічным корпусе. У другім мэдыцынскім корпусе знаходзяцца катэдры і інстытуты нормальнай і патолёгічнай фізыолёгіі, гістолёгіі, фармаколёгіі, гігіены і мікробіолегіі. Тутака-ж у вячэрнія гадзіны займаюцца групы рабочага факультэту. У клінічным гарадку, на Барысаўскім тракце, у сучасны момант ужо эксплёатуюцца 4 корпусы, спэцыяльна пабудаваных для клінік, у якіх зьмяшчаюцца: у адным — першая

хірургічная і першая тэрапэўтычная клінікі, у 3-м акушорска-гінеколёгічная клініка і ў 4-м скурана-вэнэрычная клініка. Увесь клінічны гарадок у сваім сучасным выглядзе разлічан на 410 ложак. Апрача таго Мэдыцынскі факультэт карыстаецца памяшканьнем у хэмічным корпусе ўнівэрсытэцкага гарадку, дзе разьмеркавана катэдра біолёгічнай хэміі, органічнай і фізычнай хэміі, а таксама лябараторыі неорганічнай хэміі. У анатомічным корпусе Мэдыцынскага Інстытуту функцыянуе чытальня, як аддзяленьне Беларускай Дзяржаўнай Бібліотэкі. У ёй знаходзяцца ўсе рускія і беларускія пэрыодычныя выданьні па мэдыцыне і вельмі поўны асортымэнт мэдыцынскіх журналаў на нямецкай, францускай і ангельскай мовах.

Адкрыцьцё 2-х корпусаў і клінічнага гарадку, дзе прадугледжаны ўсе навейшыя прыстасаваньні, лябараторыі і дасьледчыя габінэты, утварыла вельмі істотныя рэальныя прадпасылкі для далейшага разьвіцьця мэдыцынскай вышэйшай школы БССР, разьвіцьця, якое дыктавалася вялізнымі посьпехамі ўсяго соцыялістычнага будаўніцтва.

III.

XVI-тым Партыйным Зьездам, а да яго—Лістападаўскім Пленумам ЦК УсеКП(б), рашуча пастаўлена пытаньне аб падрыхтоўцы кадраў, аб тэмпах і аб іх адпаведнасьці тэмпам соцыялістычнага будаўніцтва. У разрэзе мэдыцынскіх кадраў зусім па новаму паўстала пытаньне аб профілі спэцыяліста.

Ранейшая ўстаноўка на абслугованьне доктарам распыленых сялянскіх двароў аказалася ўстарэўшай. Ранейшы ўрачэбны вучастак зьмяняецца колгаснаю больніцаю, адзіным колгасным дыспансэрам з дактарамі-спэцыялістамі. Апрача вялізарнага росту новага спажыўца мэдыцынскіх кадраў колгасаў і саўгасаў зусім новыя патрабаваньні да мэдыцыны і да аховы здароўя ставяць на сучасным этапе і вялізарныя посьпехі індустрыялізацыі.

Усё працоўнае насельніцтва гораду і колгасаў будзе ахоплена грамадзкім харчаваньнем, грамадзкім выхаваньнем дзяцей, комунальнымі ўслугамі. Больш таго, ахова здароўя робіцца *цэхам прадпрыемства*, удзельнічаючым у павялічэньні вытворчасьці працы і паляпшэньні якасных паказчыкаў продукцыі. Відавочна, што той профіль спэцыяліста, які быў выпрацаваны ў аднаўляльны пэрыяд, у сучасны момант зусім недастатковы. І колькасна і якасна ў структуру Мэдыцынскага факультэту павінны былі быць унесены радыкальныя зьмены дзеля таго, каб мэдыцына не адставала ад тэмпаў і запытаньняў соцыялістычнага

будаўніцтва. Такім чынам, на пярэдадні свайго 10-ці годзьдзя вышэйшая мэдыцынская школа БССР уступае ў новы найбольш адказны пэрыод. Паводле дырэктыў Лістападаўскага Пленуму і XVI-га Партыйнага Зьезду ў жніўні 1930 г. яна вылучаецца са складу БДУ і організуецца ў выглядзе самастойнага Мэдыцынскага Інстытуту з перадачай яго Народнаму Комісарыяту Аховы Здароўя.

Асноўныя моманты рэорганізацыі зводзяцца к таму, каб у сьценах інстытуту рыхтаваць не дактароў унівэрсалаў, а дактароў спэцыялістаў, атрымаўшых больш сур'ёзную і паглыбленую спэцыалізацыю па той галіне мэдыцыны, у якой ім прыдзецца працаваць. Такім чынам, організавана ў Беларускім Дзяржаўным Мэдыцынскім Інстытуце 2 Факультэты. 1-шы з іх Санітарна-Профіляктычны, 2-гі Лекава-Профіляктычны, які распадаецца на аддзяленьні:

Стоматолёгічнае, Аховы мацяры і дзіцяці, Аховы здароў'я дзяцей і падлеткаў, Тэрапэўтычнае і Хірургічнае.

Зусім перапрацаваны навучальныя пляны з такім разьлікам, каб усе дысцыпліны ўлажыць замест 5-ці год у 4 гады. Для гэтага працяжнасьць навучальнага году даведзена да 32 дэкад, зьнішчана заліковая сэсія. Для максымальнай актывызацыі выкладаньня, якая зьяўляецца важнейшым элемэнтам высокай якасьці продукцыі, скасаваны ўсе лекцыі, як сыстэма выкладаньня ўсёй дысцыпліны для ўсяго курсу. Пакінуты выключна ўводныя і абагульняючыя лекцыі для паасобных груп. Аднačасова праходзілі ня больш 2-3-х прадметаў па конвэернай сыстэме. Праверка адбывалася штодзённа ў часе самых заняткаў. Колькасьць прынятых на першы курс студэнтаў рэзка павялічваецца і даводзіцца да 400-х у год пры 2-х прыёмах штогодна. Такім чынам, у 1933-34 годзе ў Мэдыцынскім Інстытуце будзе навучацца ня менш 1600 студэнтаў. Зусім новую ролю атрымала ў новых навучальных плянах і бесперапынная вытворчая практыка, якая даведзена да 50% замест ранейшых 25%. Об'ектамі для яе служаць установы аховы здароўя як у Менску так і ва ўсіх іншых пунктах БССР. Для 1-га курсу бесьперапынная вытворчая практыка, напрыклад па фізыцы, выносіцца на прадпрыемствы, НКАЗ, у рэнтгенаўскія габінэты, фізыо-тэрапэўтычныя інстытуты, спэцыяльныя лябораторыі клінік і больніцы.

Значнае месца ў бесперапыннай вытворчай практыцы адводзіцца рабоце ў санітарнай організацыі і ў профіляктычных установах аховы здароўя.

Увесь гэты новы вялізарны размах, які атрымала вышэйшая мэдыцынская асьвета ў БССР, натуральна высунуў на першы плян пытаньне радыкальнага перагляду програм катэдраў з мэтаю

іх прыстасаваньня да запатрабаваньняў соцыялістычнага будаўніцтва. Пытаньні мэтодолёгіі, філёзофіі навукі, пытаньні соцыяльна-экономічныя павінны наскрозь прасякаць кожную програму. Гэтая задача выконваецца мэтодычнымі комісіямі і габінэтам пры дырэктары ў шчыльным контакце з катэдрамі дыялектычнага матэрыялізму, соцыяльнай гігіены.

Зусім па новаму таксама стала ставіцца пытаньне і аб падрыхтоўцы выкладчыцкіх кадраў. Для абслугоўваньня плянаванае раней колькасьці студэнтаў пытаньне забясьпечаньня іх дастатковым лікам выкладчыкаў зусім не паўставала. Тады выключна пытаньне зводзілася да забясьпечаньня факультэту добра падрыхтаванымі і мэтодолёгічна-вытрыманымі навуковымі работнікамі. У сучасны-ж момант, калі праз 2-3 гады мяркуецца павялічэньне студэнтаў больш чымся на адну тысячу чалавек, г. е. на 50 груп, патрабуючых больш як сто новых выкладчыкаў, проблема іх падрыхтоўкі робіцца актуальнай задачай дня. Але новы выкладчык павінен быць падрыхтаваны значна лепей і грунтоўней з прычыны вялізарнага росту патрабаваньняў, якія да яго прад'яўляе зусім зьмененая структура Мэдыцынскага Інстытуту. Ён ужо павінен рыхтаваць больш глыбока адукаванага спэцыяліста, да якога соцыялістычная стройка будзе прад'яўляць усе узрастаючыя патрабаваньні і спэцыяльныя і мэтодолёгічныя.

Што вышэйшая мэдыцынская школа БССР мае ў гэтых адносінах? Да першага верасьня г. г. лік асьпірантаў Мэдыцынскага Інстытуту, будзе даведзены да 50. Апрача таго, частка нашых ордынатараў зможа без папярэдняга асьпіранцкага стажу ўліцца ў рады выкладчыкаў нашага Мэдыцынскага Інстытуту. Нарэшце, частку выкладчыкаў прыдзецца ўзяць беспасрэдна з вытворчасьці.

Сярод асьпірантаў і навуковых работнікаў мала яшчэ таварышоў пролетарскага паходжаньня. Лік партыйнага ядра ўсё-ж павялічваецца з кожным годам. Так, у першы год заснаваньня партыйцаў былі адзінкі, у 1927-28 г. г. іх ужо 13,6% а ў 1931 г. 29% усяго складу. Больш значны зрух адбудзецца толькі тады, калі будуць канчаць пролетарскія і колгасныя студэнцкія слоі, якія з кожным годам усё больш напоўняюць Мэдыцынскі Інстытут. Тэмпы, якімі пролетарызуецца наш мэдвуз, яшчэ недастатковыя. Але апошнія прыёмы даюць значны рух наперад. Прыём восеньню 1930 г. даў 45% па 1-й курыі і 17% па другой, пры партыйна-комсамольскім складзе 44,45%, а прыём вясною 1931 г. даў 44,11% па першай курыі і 20% па другой. Частку студэнтаў гэтых 2-х курый далі падрыхтоўчыя курсы, організаваныя пры Мэдыцынскім Інстытуце. У далейшым пэрспэктывы яшчэ больш паляпшаюцца. Пры Мэдыцынскім Інсты-

туце організаваны рабочы вячэрні факультэт, які дасьць ужо восеньню 1931 г. сваю першую продукцыю Інстытуту. Таксама прымацаваны да Мэдыцынскага Інстытуту і Барысаўскі дзённы рабочы факультэт.

Праведзеная рэконструкцыя Мэдыцынскага факультэту БДУ у самастойны Мэдыцынскі Інстытут дала магутны штуршок да падняцьця ўсяе яго работы на новую вялікую вышыню. 1930-31 г. быў пераломным годам у жыцьці вышэйшай мэдыцынскай школы БССР. Усе сілы Мэдыцынскага Інстытуту былі мобілізаваны на выкананьне акадэмічнага пляну. Стрыжнем усяе работы стала пытаньне аб падрыхтоўцы кадраў. На шматлікіх сходах і на вытворчых комісіях абмяркоўваліся пытаньні програм, навучальных плянаў, актыўных мэтодаў выкладаньня, якія даводзіліся да студэнтаў. Лютая крытыка і самакрытыка, насьценныя газэты, ускрывалі адмоўныя бакі работы дапамагаючы іх зьнішчэньню. Унятраецца адзінаначальле. Грамадзкія організацыі Інстытуту паводле пастановы Лістападаўскага Пленуму 1929 году і XVI-га Партыйнага Зьезду павярнуліся тварам да вытворчасьці. Пад іх кіраўніцтвам пачынаюць унятрацца ў работу Інстытуту мэтоды соцыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва, якія ўжо хутка далі свае станоўчыя вынікі. Ліквідаваны амаль ня поўнасьцю хвасты. Зроблены датэрміновыя выпускі 5 і 4 курсаў для экстранага забясьпячэньня вострае патрэбы НКАЗ у дактарох для раёнаў.

Аднак той вялізарны рост і соцыяльны заказ, які да мэдыцыны і да аховы здароўя будзе прад'яўляць яшчэ больш магутны рост соцыялізму, ставіць ужо сёньня з усёй сур'ёзнасьцю перад намі пытаньне аб утварэньні досыць магутнай тэорэтычнай базы, дзе павінны вырашацца ўсе мэдыцынскія проблемы соцыялістычнага будаўніцтва, дзе павінна ўтварацца тая мэдыцынская тэорыя, якая „можа ўзброіць практыкаў у іх барацьбе за соцыялізм, даўшы ім сілу орыентыроўкі, яснасьць пэрспэктывы і ўпэўненасьць у рабоце“. Найбольш небясьпечным фронтам у мэдыцыне сёньня зьяўляецца фронт тэорэтычны і тутака найбольш грозная небясьпека заключаецца ў грубым, паўзучым эмпірызме. Таму з усёю рашучасьцю павінна быць безадкладна пастаўлена пытаньне аб далейшым будаваньні Мэдыцынскага Інстытуту, у сучасным выглядзе разлічанага на 600—700 студэнтаў і недастатковa падрыхтаванага для стаячых перад ім задач. Той зусім выключны па сваім магутным разьвіцьці шлях, які пад цьвердым кіраўніцтвам Комуністычнай Партыі прарабіла вышэйшая мэдыцынская школа БССР за 10 год, не пакідае ні малейшага сумненьня ў тым, што ў далейшым БДМІ, ускрываючы і выпраўляючы свае памылкі ў ранейшым і ў сучасным,

зробіцца магутным фактарам у справе канчатковае пабудовы соцыялізму ў нашай краіне.

IV.

Некалькі статыстычных лічбаў.
Выпускі Мэдыцынскага Факультэту і Мэдыцынскага Інстытуту:

| | | |
|---|---|---|
| 1925 г. | 21 | чал. |
| 1926 г. | 176 | „ |
| 1927 г. | 162 | „ |
| 1928 г. | 180 | „ |
| 1929 г. | 156 | „ |
| 1930 2/VI | 124 | „ |
| „ 15/XII | 86 | „ |
| 1931 г. | 103 | „ |
| Усяго | 1008 | чал. |





Клінічны гарадок.

Клинический городок.

**Аўг. УСЬПЕНСКІ**

# Пэдагогічны факультэт БДУ.

Пэдагогічны факультэт БДУ быў організаваны ў 1922 г. з 2-х аддзяленьняў факультэту Грамадзкіх Навук. У тым-жа годзе на Пэдагогічным факультэце былі адчынены яшчэ два аддзяленьні: фізыка-матэматычнае і прыродазнаўчае. Але організацыя факультэту на гэтым ня скончылася. У 1929 г. было адчынена новае аддзяленьне пэдолёга-пэдагогічнае, а ў 1930 г., політыка-асьветнае аддзяленьне. Буйны экономічны і культурны ўзрост на Савецкай Беларусі, зьяўляючыся вынікам Ленінскай нацыянальнай політыкі, правадзімай пад кіраўніцтвам Комуністычнай партыі і пасьпяховага выкананьня пяцігадовага пляну, патрабуе далейшага разгортваньня вышэйшых школ на Беларусі, рэконструкцыі, і рэорганізацыі ўжо існуючых втузаў, вузаў, іх факультэтаў і аддзяленьняў. Вялікае запатрабаваньне кваліфікаваных працоўнікаў-асьветнікаў на фронте культурнай рэволюцыі, будаўніцтва працоўна-політэхнічнай школы, паставілі перад Пэдагогічным факультэтам к 10-й гадавіне існаваньня вышэйшай школы на Беларусі задачу далейшай рэорганізацыі.

За час свайго існаваньня Пэдогогічны факультэт прарабіў вялікую работу. Гэтая работа ішла па многіх напрамках. Галоўныя з іх:

а) Распрацоўка навучальных плянаў, програм, мэтодаў выкладаньня, адпавядаючых падрыхтоўцы работнікаў працоўна-політэхнічнай школы ў пэрыод рэконструкцыі і пабудовы соцыялізму.

б) Організацыя самаго факультэту і яго лябораторый і катэдр.

в) Беларусізацыя факультэту, організацыя і паляпшэньне работы яўрэйскай і польскай сэкцый Пэдагогічнага факультэту. Барацьба з усякімі праявамі, як вялікадзяржаўнага расійскага шовінізму, так і з усякімі шовінізмамі іншых колераў. Барацьба з нацыянал-дэмократызмам, які ў свой час імкнуўся заўладаць факультэтам.

г) Пролетарызацыя факультэту з мэтай падрыхтоўкі кадраў з рабочых, батракоў і бяднейшага сялянства.

д) Разгортваньне навукова-дасьледчай работы.

1. Пытаньне аб навучальным пляне Пэдфаку, яго мэтавай установоўцы і ўнутранай структуры было надзвычайна цяжкім і складаным пытаньнем. Вось чаму пляны Пэдфаку разглядаліся і перарабляліся кожны год на працягу ўсяго часу яго існаваньня. Сучасная форма пэдагогічнай асьветы (пэдагогічныя тэхнікумы, мэдінстытуты і пэдфакі) утвораны пасьля Кастрычнікавай рэволюцыі. Да Кастрычнікавай рэвалюцыі існавалі фактычна дзьве сыстэмы асьветы: асьвета для шырокіх працоўных мас (прымітыўная народная школа, царкоўна-прыходзкія вучылішчы і г. д.), і асьвета для пануючых клясаў, розныя прывілейныя вучылішчы, гімназіі і г. д., куды ня было доступу, так званым „кухаркіным дзецям“. Двум сыстэмам асьветы адпавядалі і дзьве сыстэмы пэдагогічнай падрыхтоўкі. Настаўніцкія сэмінарыі і настаўніцкія інстытуты рыхтавалі асьветнікаў для масавай народнай школы, ахапляўшай толькі нязначны процант насельніцтва. Дарэволюцыйныя ўнівэрсытэты займаліся навукай выключна для навукі, яны ня ставілі сабе мэтай падрыхтоўку пэдагогаў. Ня гледзячы на гэта скончыўшыя ўнівэрсытэт звычайна былі выкладчыкамі адпаведных дысцыплін па спэцыяльнасьці ў гімназіях, рэальных вучылішчах і г. д. Да падрыхтоўкі кваліфікаваных буржуазных пэдагогаў для нямасавай, не народнай школы, будаваліся асобныя пэдагогічныя акадэміі і інстытуты (Пэдагогічная акадэмія, Шэлапуцінскі інстытут і г. д.), куды прымаліся скончыўшыя унівэрсытэт пасьля практычнага пэдагогічнага стажу. Калі настаўніцкія сэмінарыі і інстытуты былі яшчэ больш менш зьвязаны паміж сабою, то паміж унівэрсытэтамі і пабудаванымі над імі пэдагогічнымі інстытутамі ніякай сувязі ня было. Пэдагогічная асьвета была разарвана на дзьве часткі: падрыхтоўка пэдагогічных кадраў для прывілегійных школ і пэдагогічных кадраў для масавай народнай школы. Рэволюцыя ўстанавіла адзіную працоўную школу і адзіную пэдагогічную асьвету для падрыхтоўкі работнікаў адзінай працоўнай школы. Адзіная сыстэма пэдагогічнай асьветы мае дзьве ступені: першая ступень—пэдтэхнікум і другая ступень—пэдфак. Гэтыя новыя формы адзінай пэдагогічнай асьветы не існавалі да рэволюцыі. Пры ўтварэньні і організацыі адзінай сыстэмы пэдагогічнай асьветы, ў прыватнасьці пры організацыі пэдагогічнага факультэту, быў спатканы цэлы шэраг цяжкасьцяй. Пануючыя доўгі час сярод навуковых працаўнікоў, работнікаў старых унівэрсытэтаў традыцыі і тэндэнцыі, „навукі для навук“ перашкаджалі ўстанаўленьню беспасрэднай сувязі паміж пэдтэхнікумамі і пэдфакам. Часта бывалі выпадкі ў мінулыя гады існаваньня Пэдфаку, калі пад уплывам рэакцыйнай часткі про-

фэсуры ў навучальны плян уводзiлiсь дысцыплiны i курсы, ня меўшыя нiякага дачыненьня да асноўнай мэты Пэдфаку. Першыя навучальныя пляны Пэдагогiчнага факультэту характэрызавалiсь вялiкай шматпрадметнасьцю, якая надзвычайна перагружала студэнцтва. Перад Пэдагогiчным факультэтам з цягам часу паўстала задача зьнiшчэньня шматпрадметнасьцi, ачысткi навучальных плянаў ад курсаў i дысцыплiн, не зьвязаных беспасрэдна з профiлем савецкага пэдагога-марксыста-ленiнца i мэтавай ўстаноўкай таго, альбо iншага аддзяленьня. Гэтую задачу Пэдагогiчны факультэт у значнай ступенi вырашыў. Будаўнiцтва працоўна-полiтэхнiчнай школы перад пэдфакам паставiла задачу ўвязкi тэорыi з вытворчай практыкай на фабрыках, заводах i ў колгасах. У 1930/31 навучальным годзе пры актыўным удзеле ўсяго студэнцтва, навуковых працаўнiкоў, пад кiраўнiцтвам Комунiстычнай партыi, i гэта задача ў асноўным была вырашана. Новыя навучальныя пляны сьцiсла ўвязваюць тэорэтычныя курсы з вытворчым навучаньнем i практыкай на заводзе, колгасе i ў школе. У вынiку адбыўшыхся на працягу iснаваньня Пэдфаку вялiкiх зьмен у навуковым складзе, шляхам аслабаненьня факультэту ад навуковых працаўнiкоў—носбiтаў буржуазных анты-марксысцкiх плянаў, шляхам запрашэньня да работы на Пэдагогiчным факультэце значнай колькасьцi навуковых працаўнiкоў - марксыстаў, Пэдагогiчнаму факультэту ўдалося дабiцца значнага палепшаньня праграм дысцыплiн навучальнага пляну i павысiць iх мэтодолёгiчную вытрыманасьць. Мэтоды выкладаньня ў першыя гады iснаваньня Пэдфаку былi выключна лекцыйнымi. Разгортваньне лябораторый i габiнэтаў, організацыя бiблiотэк, пераход у новыя будынкi далi магчымасьць перайсьцi на актыўныя мэтоды выкладаньня па большай колькасьцi дысцыплiн (75°/₀ навучальнага пляну). За час свайго iснаваньня Пэдагогiчны факультэт выпусьцiў 1520 настаўнiкаў розных спэцыяльнасьцяй, з iх каля 200 рыхтуюцца да навукова-дасьледчай працы, альбо ўжо працуюць у розных навукова-дасьледчых ўстановах (БАН, Iнстытут Прамысловасьцi i г. д.).

2. Упартая работа факультэту па ўтварэньнi i організацыi катэдр, габiнэтаў i лябораторый, па iх належным абсталяваньнi, як навучальнымi так i навуковымi прыладамi, колекцыямi, лiтаратурай, пры актыўнай дапамозе Народнага Комiсарыяту Асьветы i савецкай грамадзкасьцi, паставiла навукова-навучальныя ўстановы факультэту на належную вышыню.

Пэдагогiчны факультэт у сучасны момант мае наступныя багата абсталяваныя катэдры: фiзыкi, бiолёгii, зоолёгii, ботанiкi, няжывой прыроды, пэдолёгii, пэдагогiкi, хэмii, дзьве бiблiотэкi— лiтаратурна-мовазнаўчую i соцыяльна-гiстарычную з агульнай

колькасьцю каля 40.000 тамоў. Катэдра фізыкі мае багацейшы фізычны практыкум, які складаецца больш як са ста работ па розных пытаньнях усіх галін фізыкі. Пры катэдры фізыкі знаходзяцца яшчэ наступныя габінэты: а) габінэт нізкіх тэмпэратур з машынай „Ліндэ“ для атрыманьня вадкага паветру; б) рэнтгэна-тэхнічны габінэт, в) радыо-тэхнічная лябораторыя; г) габінэт гальванапластыкі; д) оптычны габінэт з багатым наборам спэктографаў, спэктрофотомэтраў, фотомэтраў і г. д. е) сілавую ўстаноўку; ж) майстэрню для рамонту і пабудовы фізычных прылад; з) бібліотэку з агульнай колькасьцю каля 10000 тамоў рускіх і замежных выданьняў па фізыцы, матэматыцы, мэханіцы, астрономіі; і) музэй фізычных прылад, які дае магчымасьць багата дэмонстраваць усе чытаемыя ў Фізычным Інстытуце курсы па фізыцы. У 1930/31 навучальным годзе фізычны практыкум абслужыў больш чымся 1500 студэнтаў. У катэдры фізыкі Пэдфаку, займаюцца і асьпіранты Беларускай Акад. Навук.

Катэдра біолёгіі мае добра абсталяваны музэй біолёгіі і золёгіі бязхрабтовых. Каштоўную частку музэю складаюць колекцыі жукоў энтомолёга Плюшчыка-Плюшчэўскага, якія налічваюць больш 120.000 экзэмпляраў жукоў. Пры катэдры біолёгіі маецца жывы куток з акварыумамі і тэррарыумамі. У жывым кутку работнікамі катэдры вядуцца цікавыя досьледы над аксалотамі. Для навучальных заняткаў са студэнтамі катэдра мае каля 25 мікроскопаў з усімі прыладамі навейшай конструкцыі. Катэдра зоолёгіі організавала вялікі музэй храбтовых і габінэт параўнаўчай анатоміі з колекцыяй паходжаньня і эволюцыі жывых організмаў. У зоолёгічным музэі Пэдфаку знаходзяцца багацэйшыя колекцыі па орнітолёгіі Беларусі. Гэтыя колекцыі налічваюць больш 5000 птушак Беларусі. Катэдра ботанікі за час свайго існаваньня накапіла вялізарныя, добра апрацаваныя гербарыумы беларускай флёры, багатыя колекцыі тэхнічных расьлін, па фіта-патолёгіі і г. д. Габінэт фізыолёгіі расьлін мае добрае абсталяваньне, якое дае магчымасьць ня толькі добра паставіць практычныя заняткі студэнтаў, але і вясьці складаныя навуковыя досьледы. Пры катэдры ботанікі існуе мікрофотографія і габінэт мікро-біолёгіі. Катэдра Пэдолёгіі організаваная ў 1929 г. за кароткі час свайго існаваньня стала аднэй з найбольш абсталяваных устаноў пэдагогічнага факультэту. Габінэты антропамэтрыі, колектыўнага экспэрымэнту, умоўных спалучальных рэфлексаў, габінэт вывучэньня эмоцый, аналізы крыві і псыхотэхнічны габінэт, абсталяваныя рознастойнымі навуковымі прыладамі і апаратурай навейшай конструкцыі, даюць магчымасьць вывучаць і дасьледваць адказьнейшыя проблемы пэдолёгіі дзіцячага ўзросту.



Хэмічная лябараторыя.
Химическая лаборатория.



Зоолёгічны музэй.
Зоологический музей.

Габінэт няжывой прыроды мае вялікія колекцыі па крышталёграфіі, мінэралёгіі, гэолёгіі і палеантолёгіі. Частка гэтых колекцый была атрымана з-замежы, большая частка іх была атрымана з Усесаюзнай Акадэміі Навук, частка была сабрана студэнтамі, камандыраванымі факультэтам у часе летніх вакацый на Урал і Каўказ. Вялікай каштоўнасьцю катэдры няжывой прыроды зьяўляюцца 12 полярызацыйных мікроскопаў. Габінэт абслугоўвае горныя курсы на працягу некалькіх год. Катэдра пэдагогікі мае спэцыяльнае кіно для вывучэньня шэрагу проблем пэдагогікі, політэхнічны габінэт і г. д. катэдры біолёгіі, зоолёгіі, батанікі, няжывой прыроды і пэдалёгіі выклікалі вялікую зацікаўленнасьць з боку рабочых, чырвонаармейцаў і вучнёўскай моладзі г. Менску і часта наведваюцца экскурсіямі. Ім карыстаецца і антырэлігійны Унівэрсытэт, у іх займаюцца і асьпіранты Бел. Ак. Навук.

Катэдры Органічнай і Неорганічнай Хэміі перайшлі ў асобны будынак, спэцыяльна пабудаваны для заняткаў па хэміі. Ляборатория неорг. хэміі, аналітычнай хэміі, колькаснага аналізу, фізычнай хэміі і г. д. маюць усё неабходнае і для сур'ёзнай навуковай работы і для поўнага абслугоўваньня студэнтаў. Таксама габінэты фізыкі, хэмічныя ляборатории Пэдфаку абслугоўваюць Хэміка-Тэхналёгічны, Будаўнічы, Электро-тэхнічны, Мэдыцынскі Інстытуты, Вячэрні рабочы Унівэрсытэт, Інстытут асьпірантуры БАН і цэлы шэраг іншых установ.

3. Пэдагогічны факультэт мае, такім чынам, усё неабходнае для разгортваньня навукова-дасьледчай работы, для падняцьця на належную вышыню акадэмічнай работы студэнцтва і выкананьня пастаўленых перад ім задач. За час свайго існаваньня Пэдагогічны факультэт выдаў 6 зборнікаў „Прац Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту", дзе былі надрукаваны далёка ня ўсе работы навуковых працаўнікоў Пэдагогічнага факультэту. Былі скліканы 5 навукова-мэтодычных конфэрэнцый настаўніцтва Савецкай Беларусі (па грамадазнаўчых навуках, літаратурна-мовазнаўчая, прыродазнаўчая, фізыка-матэматычная).

На гэтых конфэрэнцыях прысутнічала больш 1000 настаўнікаў 2-га концэнтру, тэхнікумаў, рабфакаў і г. д. Пры Фізыка-Тэхнічным аддз. Пэдфаку ў 1923 г. была організавана Фізыка-Матэматычнае Навуковае Таварыства, зараз асоцыяцыя, меўшая за час свайго існаваньня да 10-й гадавіны вышэйшай школы каля 100 пасяджэньняў, на якіх было заслухана і абгаворана больш 150 дакладаў, як орыгінальных, так і абзорна-рэфэратыўных, ахапляўшых сучасныя проблемы фізыкі і матэматыкі. На гэтых пасяджэньнях фізыка-матэматычнай асоцыяцыі пры-

маюць ўдзел апрача навуковых працаўнікоў асьпірантура, студэнцтва, настаўніцтва.

4. Значную работу Пэдагогічны факультэт прарабіў па беларусізацыі. 90% навучальнага пляну праводзіцца на беларускай мове. Для пераводу выкладаньня на беларускую мову катэдрам Пэдфаку прышлося многа папрацаваць над апрацоўкай навуковай беларускай тэрміналёгіі, якой зусім ня было у першыя гады існаваньня Пэдфаку. Пераход на беларускую мову даў магчымасьць распрацаваць цэлы шэраг курсаў і дысцыпліны на беларускай мове і напісаць падручнікі і дапаможнікі для вузаў, якія толькі часткова перададзены зараз для надрукаваньня. Фактычна ўжо ў сучасны момант маецца поўная магчымасьць выдаць на беларускай мове ўсё неабходнае для выкладаньня і работы па ўсіх дысцыплінах Пэдфаку. Вывучэньне і дасьледваньне беларускай гісторыі, эканомікі, літаратуры, мовы, прыроды заняла значнае месца ў навучальных плянах і праграмах Пэдфаку. Група выкладчыкаў, беларускіх нацдэмаў (Краскоўскі, Азбукін, Лёсік, Смоліч, Доўнар-Запольскі і інш.) імкнуліся ў выкладаемых імі курсах праводзіць шкодныя нацдэмаўскія ўстаноўкі, але звычайна яны сустракалі адпор з боку студэнцкай масы. 1926—30 г. г. на Пэдфаку — гэта годы абвостранай барацьбы з вялікадзяржаўнымі расійскімі і ўсякімі іншымі шовіністамі, з беларускімі нацдэмамі за навучальны плян, за марксызацыю факультэту, за вытрыманую марксысцка-ленінскую мэтодолёгію па ўсіх дысцыплінах. У выніку гэтай барацьбы з Пэдфаку быў зьнят цэлы шэраг навуковых працаўнікоў (Азбукін, Краскоўскі, Доўнар-Запольскі, Жарынаў, Ляскоўскі, Дурнаво, Шчапоцьяў, Вазьнясенскі, Раў-Рэбэ, Гольдбэрг, Сосіс і цэлы шэраг інш.)

5. Яўрэйская і польская сэкцыі Пэдфаку павінны рыхтаваць пролетарскія кадры падрыхтаваных марксысцка-ленінскай мэтодолёгіяй для працы ў сярэдніх навучальных установах, якія працуюць на яўрэйскай, альбо на польскай мове, а таксама высоўваць больш здольных і вытрыманых студэнтаў на навуковую працу. Выходзячы з гэтае мэтавае ўстаноўкі студэнты яўрэйскай і польскай сэкцыі павінны атрымаць апрача агульнай падрыхтоўкі, якая патрэбна для кожнага студэнта, спэцыяльную навуковую марксысцка-ленінскую падрыхтоўку—

а) для правядзеньня ленінскае нацыянальнае політыкі сярод працоўных яўрэяў і палякаў,

б) для барацьбы з яўрэйскім і польскім шовінізмам з рознымі буржуазнымі плынямі, з контррэволюцыйнай ідэолёгіяй,

в) для актыўнага ўдзелу ў будаўніцтве яўрэйскай і польскай пролетарскай культуры, для барацьбы з рэлігіяй і г. д.



Анатомічны габінэт.
Анатомический кабинэт.



Оранжарэя.
Оранжерея.

На сёньняшні дзень яўрэйская і польская сэкыя Пэдфаку разгарнулі працу на наступных аддзяленьнях: *соцыяльна-гістарычнае, літаратурна-лінгвістычнае, пэдолёга-пэдагогічнае, прыродазнаўчае і фізыка-тэхнічнае,* што зьяўляецца вялізарнейшым дасягненьнем ленінскае, нацыянальнае політыкі.

На яўрэйскай сэкцыі, а таксама і польскай, маюцца групы па ўсіх гэтых аддзяленьнях, дзе выкладаньне вядзецца на нацянальнай мове. На яўсэкцыі лічыцца на сёньняшні дзень — 104 студэнты, на польсэкцыі — 48.

За кароткі час свайго існаваньня польсэкцыя дала чырвоных спэцыялістаў, якія працуюць у розных сярэдніх навучальных польскіх установах, а таксама вылучаны і ў асьпірантуру; яўсэкцыя таксама дала шмат чырвоных спэцыялістаў. Бліжэйшы набор папаўняецца новымі кадрамі.

6. З году ў год на Пэдфаку паляпшаецца соцыяльны склад студэнцтва, асабліва за апошнія 3 гады. Праслойка рабочых, сялян, колгасьнікаў, сялянскай беднаты і сераднякоў на Пэдфаку значна павялічылася. Соцыяльны склад студэнцтва ў сучасны момант характарызуецца наступнымі лічбамі, 30% рабочых, 32% сялян-колгаснікаў, беднякоў, сераднякоў 38% служачых. Таксама значна павялічылася партыйнае ядро Пэдфаку. У 1930-31 годзе партыйная організацыя Пэдфаку налічвала 121 сяброў, комсамольская організацыя 218 сяброў, з агульнага ліку студэнцтва 732 чал.

Палепшаньне соцыяльнага складу, узмацненьне партыйнага ядра Пэдфаку, забясьпечвае далейшую пасьпяховаю работу па рэконструкцыі Пэдогогічнага факультэту і далейшую барацьбу пад кіраўніцтвам Комуністычнай партыі за выкананьне Пэдфакам асноўнай задачы: даць Савецкай Беларусі з пролетарскага асяродзьдзя высока-кваліфікаваных рабтнікаў марксыстаў-ленінцаў на фронце культурнай рэволюцыі і будаўніцтва сапраўднай працоўна-політэхнічнай школы, даць кадры для кадраў будаўнікоў соцыялізму.

**Э. ГЭРШЭЛЬМАН.**
**Нам. дэкана факультэту Савецкага Будаўніцтва і Права.**

# Вышэйшая праўная асьвета ў БССР

Мінулыя 10 год існаваньня БДУ былі для вышэйшае праўнае асьветы ў яе сыстэме працяглым пэрыодам паступовага росту, узмацненьня і ўдакладненьня сваіх задач. Проблема падрыхтоўкі работнікаў у дзяржаўны апарат, у паасобку ў судовыя і адміністрацыйныя органы, была пастаўлена перад БДУ з моманту яго заснаваньня. Аднак цяперашняя выразная пастаноўка — рыхтаваць адказных палітычных работнікаў у органы дыктатуры пролетарыяту, работнікаў, узброеных ведамі, выхаваных у духу ваяўнічага маркса-ленінізму, выкоўваць бальшавіцкіх барацьбітоў за гэнэральную лінію партыі на фронце савецкага будаўніцтва і права, — гэта пастаноўка была дасягнута не адразу: шлях да яе ляжаў праз рад ступеняй паступовага выясьненьня і нашчупываньня ўмоў установкі і форм яе ажыцьцяўленьня. —

Тое становішча праўнае асьветы, з якім мы прышлі да 10-ці годзьдзя вышэйшае школы у БССР, зьяўляецца вынікам усяго свайго папярэдняга разьвіцьця, праз рад цяжкасьцяй, недастач і непаладак. Паступовае зьнішчэньне і выпраўленьне недастач, няўхільнае перамажэньне цяжкасьцяй, якое характарызуе ў асноўным мінулы пэрыод, не было-б дасягнута Унівэрсытэтам і яго студэнцтвам, калі-б не штодзённая ўвага, крытыка, дапамога і беспасрэднае кіраўніцтва з боку КП(б)Б, вышэйшых савецкіх органаў і ўсяе савецкае грамадзкасьці. Толькі супастаўляючы першыя шагі вышэйшае праўнае асьветы ў БССР з яе цяперашнім становішчам, мы выразьліва ўбачым дасягнутыя ў гэтым напрамку посьпехі.

## Організацыйныя формы.

Пры організацыі БДУ задача падрыхтоўкі работнікаў у дзяржаўны апарат была ўкладзена на факультэт Грамадзкіх Навук (ФОН), дзеля чаго ў яго складзе з першых-жа дзён існаваньня было ўтворана асобае „праўнае аддзяленьне“. Мэтавая ўстаноўка

аддзяленьня прадстаўлялася тагды даволі расплыўчата — „рыхтаваць кваліфікаваных работнікаў у галіне права“. Адсутнічала выразная пастаноўка аб задачах аддзяленьня ў савецкіх умовах; у шмат якіх адносінах яно прадстаўляла сабою своеасаблівы „сколак“ ранейшых юрыдычных факультэтаў. Гэта перш за ўсё выяўлялася ў адрыве ад практыкі і яркім адбітку „агульнаадукацыйнасьці“, якія насілі навучальныя пляны, програмы і ўся пастаноўка выкладаньня. Такому становішчу спрыялі агульныя ўмовы неакрэсьленасьці структуры ФОН БДУ, яднаўшага чатыры вельмі рознахарактарных аддзяленьняў (праўнае, экономічнае, пэдагогічнае і этнолёго-лінгвіністычнае).

Па усім — прыкладам да 1925 году — Савецкім Саюзе факультэты грамадзкіх навук былі зачынены, альбо рэорганізаваны. Гэты-ж лёс выпаў і на долю ФОН'у БДУ. На яго месцы з восені 1925 г. у сыстэме БДУ зарадзілася другая навучальная ўстанова — факультэт „Права і Гаспадаркі“. Новы факультэт пры больш яснай устаноўцы ў параўнаньні з ФОНам, усё-ж ня здужаў вызваліцца ад раду заганаў, атрыманых ім у спадчыну ад свайго папярэдніка.

Факультэт заставаўся грамоздкаю машынаю, з рознымі задачамі паасобных складаных частак, як і раней быў далекі ад практыкі і яе запатрабаваньняў, як і раней у кіраўніцтве яго работай не адчуваўся гаспадар, беспасрэдна зацікаўлены продукцыяй факультэту. Само кіраўніцтва факультэту не было дыфэрынцыявана і складалася з аднаго агульнага дэканату. Такое становішча асабліва хваравіта адзывалася на Праўным аддзяленьні.

Выдзеленыя ў гэтую пору на аддзяленьні два цыклы (Судовы і Адміністрацыйны) ня мелі яснага профілю падрыхтоўваемага імі спэцыяліста. Аддзяленьне працавала ў стане нявызначанасьці і беспэрспэктыўнасьці. Раздаваліся нават галасы за яго ліквідацыю. Упадачныя настроі перадаліся частцы студэнцтва. Аддзяленьне мела вялікі адсеў. Асабліва ўзмацніліся гэтыя настроі ў зьвязку з „левацкімі“ тэорыямі аб ліквідацыі сельсаветаў, адміраньні права і інш., якія пракаціліся па ўсім Саюзе з прычыны посьпехаў суцэльнае колектывізацыі і разгорнутага соцыялістычнага наступленьня па ўсім фронце. Гэтыя левыя „заскокі“, якія стыкаліся часта з праваю недаацэнкаю ролі органаў дыктатуры пролетарыяту ў пераходны пэрыод, знайшлі пэўны водгук сярод часткі студэнцтва і нават паасобных кіруючых работнікаў. Зіма 1929-30 году была самым цяжкім іспытам для праўнае асьветы, але крызіс, які яна перажыла, аказаўся пераломным. Пры беспасрэднай дапамозе вышэйшых партыйных і савецкіх органаў наабходнасьць далейшага існаваньня праўнага аддзяленьня была рашуча падцьверджана, была прызнана мэтазгод-

насьць выдзяленьня яго ў асобны факультэт Савецкага Будаўніцтва і Права, узмацненьня яго кіраўніцтва і матэрыяльнай базы, забесьпячэньня яму цьвёрдых перспэктыў разьвіцьця.

Ня гледзячы на ўсе цяжкасьці факультэт уступіў у новы навучальны год выросшым і ўзмоцненым. Паўтары гады яго самастойнага існаваньня поўнасьсьцю яго апраўдалі.

Ідучы насустрэч растучай патрэбе ў кадрах факультэт паводле рашэньня ЦВК адкрыў асобае вячэрняе аддзяленьне, якое ставіць сабе задачу перападрыхтоўкі і павышэньня кваліфікацыі практычных работнікаў. Ня гледзячы на цяжкія ўмовы вучобы студэнтаў, якія сумяшчаюць яе з працаю ва ўстановах, спроба першага году існаваньня вячэрняга факультэту дала каштоўныя вынікі.

## Пастаноўка выкладаньня.

### а) Навучальныя пляны.

Першыя навучальныя пляны Праўнага аддзяленьня ярка адбілі недастачы і хваробы „росту“, характарызаваўшыя становішча аддзяленьня ў сыстэме ФОН. На першых парах яны прадстаўлялі сваеасаблівае злучэньне мэханістычна перанесеных у нашыя ўмовы мэтодаў і вопыту старое вышэйшае юрыдычнае асьветы з тымі нявызначанымі ўстаноўкамі на шырокую „гуманітарную асьвету“, што было значнаю заганаю ФОН'а. З гэтых крыніц выцякалі асноўныя недастачы тагочасных навучальных плянаў: 1) шматпрадметнасьць, 2) „псэўда-гістарычнасьць“, 3) адрыў ад практыкі і рэволюцыйнай сапраўднасьці, 4) перевага догматыкі і амаль ня поўная адсутнасьць дысцыплін марксысцкай тэорыі і мэтодолёгіі. Па меры росту і ўзмацненьня факультэту паступова паляпшаліся і ўдакладняліся навучальныя пляны. Барацьба ў асноўным ішла па напрамках узмацненьня маркса-ленінізму ў выкладаньні, набліжэньня да патрабаваньняў практыкі соцыялістычнага будаўніцтва і зьнішчэньня шматпрадметнасьці.

У сучасны момант навучальныя пляны факультэту зьведзены да 21-23 прадметаў за ўсе 3 гады навучаньня (у залежнасьці ад аддзяленьня). Выкладаемыя дысцыпліны можна падзяліць на 3 групы: 1) марксысцкай мэтодолёгіі і тэорыі (каля 40% удзельнае вагі гадзін у навучальных плянах), 2) спэцыяльныя дысцыпліны (каля 44%) і 3) дапаможныя (каля 16%).

### б) Мэтоды выкладаньня.

Да 1928 году амаль ня ўсе дысцыпліны выкладаліся лекцыйным мэтодам, вядомаю папраўкаю да яго служылі толькі некалькі



Габінэт Судовай Мэдыцыны.
Кабинет Судебной Медицины.



Фізкультурны габінэт.
Физкультурный кабинет.

просэмінараў і сэмінараў (займаўшых меньш $^1/_3$ навучальных плянаў). Аднак гэтыя сэмінары, ў большасьці дапаўняўшыя паралельныя лекцыйныя курсы, далёка не ўцягвалі ўсёй студэнцкай масы ў актыўную і сыстэматычную вучобу на працягу ўсяго навучальнага году.

Компанія за перабудову работы нашых вышэйшых школ, у паасобку за пераход да актыўных мэтодаў вучобы, паднятая пад кіраўніцтвам партыі, савецкай грамадзкасьці, выклікала пералом у гэтых адносінах. Першыя сур'ёзныя посьпехі даў 1929-1930 навучальны год. Зараз лябораторны мэтод ахапіў 95% выкладаемых дысцыплін. Далейшая работа ляжыць у напрамку якаснага вывучэньня і палепшаньня актыўных мэтодаў.

### в) Вытворчая практыка.

Гэты-ж лёзунг перабудовы работы нашых вышэйшых школ у адпаведнасьці з задачымі рэконструкцыйнага пэрыоду, высунуты ЦК УсеКП(б), паставіў перад факультэтам ва ўсю шырыню проблему ўвязкі тэорыі з практыкай, з адпаведнай перабудовай выкладаньня, з увядзеньнем бесперапыннай вытворчай практыкі як органічнай часткі навучальных плянаў і програм і г. д. З гэтага навучальнага году практыка займае 40% навучальнага пляну. Яна распадаецца на $1^1/_2$ альбо 2-х месячную практыку па-за сьценамі вышэйшае школы (пераважна ў раёнах і на пэрыфэрыі), якая праводзіцца пасьля кожнага навучальнага паўгодзьдзя, і бесперапынную практыку (у сярэднім адзін дзень у дэкаду) на працягу ўсяго году. Практыка будуецца па прынцыпу праходжаньня студэнтам на працягу вучобы ўсіх зьвеньняў адпаведнай сыстэмы зьнізу ўверх (напрыклад па Судоваму Аддзяленьню — органы дазнаньня і вышуку, нарследчы, нарсуд, прокуратура, Вышэйшы Суд і цэнтральны апарат НКЮ).

### г) Соцыялістычнае спаборніцтва і ўдарніцтва.

Карціна пастаноўкі выкладаньня будзе няпоўнаю, калі не спыніцца, хаця-б коратка, на соцыялістычным спаборніцтве і ўдарніцтве, стаўшымі ў сучасны момант асноўнымі мэтодамі работы факультэту і органічнай часткаю яго навучальнага жыцьця. Закончыўшыйся ў маі 1931 году месячнік праверкі становішча соцыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва выразна ўскрыў, якое рашаючае значэньне ў выкананьні навучальных плянаў і ва ўсёй пастаноўцы выкладаньня адыгрываюць зараз гэтыя новыя мэтоды работы, перанесеныя ў сьцены вышэйшых школ з перадавых соцыялістычных фабрык і заводаў. Амаль не

$100^0/_0$ студэнтаў (за выключэньнем 2-3) уваходзяць у ўдарныя брыгады, якія вядуць спаборніцтва паміж сабой за лепшыя паказьнікі ў вучобе і грамадзкай рабоце.

## Склад выкладчыкаў.

Нязначны лік марксысцкіх і комуністычных кадраў сярод навуковых работнікаў, які характарызаваў у першыя гады пасьля Кастрычніка становішча ўсіх вышэйшых савецкіх школ, ня мог зразумела, не адбіцца і на першых кадрах выкладчыкаў Праўнага Аддзяленьня БДУ. Вытрыманыя марксысцкія і комуністычныя сілы сярод выкладчыкаў доўга налічваліся адзінкамі. Побач з гэтым наглядалася вялікая цякучасьць складу выкладчыкаў, наяўнасьць так званага „гастралёрства", калі многія навуковыя работнікі прыяжджалі ў Менск для работы на аддзяленьні толькі „наездам".

Сапраўднага і рашучага пералому ўдалося дабіцца толькі ў апошнія два-тры гады, у першую чаргу дзякуючы росту новых навуковых кадраў як з ліку практычных работнікаў, так і за кошт продукцыі ІКП, Раніон і Комакадэміі. Трэба асабліва адзначыць тую ролю, якую адыграла ў гэтай справе узмацненьня марксысцкіх сіл, заваёвы імі важнейшых катэдраў і утварэньня сталага кадру асноўных навуковых работнікаў, ідэолёгічная барацьба, энэргічна-разгорнутай самім студэнцтвам і яго грамадзкімі організацыямі. У бягучым годзе факультэт налічваў 29 навуковых работнікаў, сярод іх 15 членаў КП(б)Б. Значная частка навуковых работнікаў (15 з 29-ці) зьяўляецца сталымі кадрамі

## Студэнцтва.

У першы год існаваньня БДУ на Праўнае Аддзяленьне ФОН было прынята 195 слухачоў. Якасны склад гэтае масы лепш за ўсё можа быць аценены словамі аднаго з старэйшых работнікаў Факультэту тав. С. Я. Вольфсона, сказанымі ім з прычыны першага выпуску БДУ. Характарызуючы цяжкія ўмовы першых гадоў жыцьця Унівэрсытэту, т. Вольфсон сказаў, што „гэтыя-ж умовы зрабілі немагчымым у момант нараджэньня Унівэрсытэту думаць ня толькі аб клясавым адборы, але наогул аб якім то ні было сур'ёзным адборы студэнцтва. Прыходзілася браць той матар'ял, які быў у наяўнасьці. Матар'ял часта яўна няпрыгодны для тых мэтаў, якія сабе ставіў Унівэрсытэт..." [1]). Ня гледзячы на суровы і жорсткі „натуральны"

---

[1]) Первый выпуск БГУ 20-го февраля 1925 г. стр. 13.

адбор, адсеяўшы на працягу 4-х год вучобы ўсё найбольш чужое і няпрыгоднае для савецкае вышэйшае школы, тыя 14% студэнтаў з ліку першага прыёму, якія ў 1925 годзе скончылі ФОН, не маглі быць прызнаны ў сваей масе задавальняючымі патрабаваньням, што прад'яўляюцца нашым вышэйшым школам. З 60-ці выпусьнікоў ФОН (26 з іх скончылі Праўнае Аддзяленьне) толькі 7 (11%) былі рабочымі альбо выхадцамі з рабочага асяродзьдзя, членаў КП(б)Б было ўсяго 3, а комсамольцаў нават 1.

У нацыянальных адносінах беларусы складалі менш 1/3 выпуску. Статыстычная справаздава БДУ за гэты год[1]) паведамляе, што нараўне з служачымі (30%), саматужнікамі (14%), факультэт скончыла 32% „дзяцей селян і земляўласьнікаў“ і апрача таго яшчэ 8% „іншых“. Толькі ў супастаўленьні цяперашняга складу студэнцтва факультэту з гэтымі данымі могуць быць выясьнены ва ўсім іх значэньні посьпехі, дасягнутыя ў справе заваеваньня рабоча-сялянскімі масамі сьцен нашых вышэйшых школ. Для гэтага прывядзем лічбы, характарызуючыя апошні набор на факультэт вясною 1931 году. У складзе новага прыему 73% рабочых і 6% селян-беднякоў і колгасьнікаў. Да паступленьня ў вышэйшую школу усе прынятыя прайшлі пэўную жыцьцёвую школу на вытворчасьці, у Чырвонай Арміі, на адказнай грамадзкай рабоце, сярод іх няма ніводнага, хто-б ня меў свайго ўласнага пэўнага соцыяльнага твару. Партыйна-комсамольская праслойка складае 68%. З ліку прынятых беспартыйных толькі 2 не зьяўляюцца рабочымі з вытворчасьці. У нацыянальных адносінах — 55% прыёму — беларусы. Адпаведныя даныя па ўсяму наяўнаму складу студэнцтва бачны з наступнай табліцы.

**Склад студэнцтва факультэту „Савецкага Будаўніцтва і Права“ на 15-га чэрвеня 1931 г.** (без вячэрняга Ф-ту).

| Усяго | Па полу | | Соц. склад. | | | Парт. склад | | | Нац. склад | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | мужч. | жанч. | раб. | сел. | служ. | КПБ | КСМ | б/п. | бел. | яўр. | інш. |
| 142 | 114 | 28 | 87 | 14 | 41 | 52 | 43 | 47 | 89 | 47 | 6 |
| 100% | 80,2 | 19,8 | 61,2 | 9,8 | 29 | 36,6 | 30,3 | 33,1 | 62,7 | 33,1 | 4,2 |

---

[1]) Там сама, стар. 15.

## Беларусізацыя.

Ва ўмовах нацыянальнага будаўніцтва БССР аднэй з важнейшых задач факультэту з моманту яго заснаваньня, ящчэ ў форме аддзяленьня, было ўтварэньне новых савецкіх будаўнікоў з асноўнае нацыянальнасьці і нацыянальных меньшасьцяй БССР, выхаваньне ўсёй студэнцкай масы ў духу правільнай ленінскай нацыянальнай політыкі, выкоўваньне такіх кадраў, якія-б маглі зьявіцца праваднікамі нацыянальнай політыкі партыі, арганізатарамі ў БССР соцыялістычнага будаўніцтва нацыянальнага па форме і пролетарскага па зьместу.

І на гэтым вучастку, як і на іншых галінах факультэт прышоў да свайго 10-ці годзьдзя з пэўнымі посьпехамі. Як паказана вышэй, у складзе студэнтаў беларусы налічваюць 62,7%. У бягучым годзе звыш 90% дысцыплін выкладаліся па беларуску (толькі 2, выкладчыкі, менш году як прыехаўшыя з РСФСР, не змаглі яшчэ перайсьці на беларускую мову). Уся адміністрацыйная, навучальная і грамадзкая работа таксама працякаюць на беларускай мове. У выкладаньні паасобных дысцыплін (Ленінізм, вучэньне аб Савецкай Дзяржаве і г. д.) выдзялены спэцыяльныя тэмы па нацыянальнай політыцы. Грамадзкімі організацыямі праароблена вялікая выхаваўчая работа па барацьбе з ухіламі ад лініі партыі ў нацыянальным пытаньні і ў першую чаргу па барацьбе з вялікадзяржаўным шовінізмам, як галоўнай небясьпекай на даным этапе. Колектыў студэнтаў і навуковых работнікаў жыва рэагаваў на вылазкі клясавых ворагаў на нацыянальным фронце, меўшых месца на паасобных слабых вучастках, як у нашых вышэйшых школах так і па за іх сьценамі.

Далейшыя задачы ў гэтым напрамку павінны ісьці па лініі ўтварэньня большае колькасьці навучальнае літаратуры (шмат якіх падручнікаў на беларускай мове яшчэ няма), большай сувязі пры выкладаньні паасобных дысцыплін з практыкаю нацыянальнага будаўніцтва ў БССР, набліжэньня да вывучэньня мясцовых матарыялаў і г. д.

Дасягнутыя посьпехі зьяўляюцца парукаю, што і з гэтымі задачамі факультэт пад кіраўніцтвам партыі справіцца.

А. Я. ПРОКОПЧУК.
Адказны Сакратар Сэкцыі
Навук. Працаўнікоў БССР.

## Навуковыя кадры к Х-ці годзьдзю вышэйшай школы ў БССР.

Навуковыя кадры БССР фактычна падрыхтоўваюцца са дня ізгнаньня бела-палякаў і адчыненьня Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту.

11-га ліпеня 1921 г. адчыніўся Беларускі Дзяржаўны Унівэрсытэт з трымя факультэтамі: Рабочым, Мэдыцынскім і 4-мя аддзяленьнямі факультэту грамадзкіх навук, Беларускі Дзяржаўны Унівэрсытэт налічваў у 1921 г. 1535 студэнтаў і 78 навуковых працаўнікаў з іх:

| | |
|---|---|
| Профэсароў | 14 |
| Выкладчыкаў | 40 |
| Асыстэнтаў | 10 |
| Вык. зам. моў | 9 |
| Заг. ляб. і габ. | 5 |

Ужо праз год адчыніўся 4-ты факультэт — Пэдагогічны, і колькасьць навуковых працаўнікоў павялічылася да 183 чал., гэта значыць, што навуковыя сілы БДУ вырасьлі амаль не ў два разы з іх:

| | |
|---|---|
| Профэсароў | 31 |
| Выкладчыкаў | 50 |
| Асыстэнтаў | 41 |
| Выклад. зам. моў | 11 |
| Ордынатараў | 15 |
| Прозэктароў | 2 |
| Навук. супрацоўнікаў | 3 |

У 1922-23 г. ў БССР адчыніўся Інстытут Беларускай Культуры і вышэйшая с/гасп. школа—С/гасп. Інстытут. З пачатку 1923 г. ужо мелася ў БССР 248 навуковых працаўнікоў з іх:

| | |
|---|---|
| Профэсароў | 46 |
| Выкладчыкаў | 56 |
| Астыстэнтаў | 70 |
| Навук. прац. 2 разр. | 76 |

З адчыненьнем Віцебскага Ветэрынарнага Інстытуту, Горацкай С/гасп. Акадэміі, Мікро-біолёгічнага Інстытуту НКАЗдар. склад навуковых працаўнікоў павялічыўся:

| | |
|---|---|
| у 1924 г. | 384 |
| „ 1925 „ | 401 |
| „ 1926 „ | 424 |
| „ 1927 „ | 461 |

Соцыяльны склад гэтых навуковых працаўнікоў быў вельмі нездавальняючы, і опортуністы Наркомасьветы мала клапаціліся аб паляпшэньні соцыяльнага складу. Партыйная праслойка была невялічкая: у 1925 годзе—7% яна, трошкі вырасла к пачатку 1927 г. да 10%.

Навакол Інбелькульту пачынаюць зьбірацца нацыяналдэмократы, ствараючы ў Горках і Менску спэцыяльныя салоны, у якіх яны выхоўвалі ў належным напрамку патрэбныя ім кадры. У гэтыя гады таксама адчыняюцца цэлы шэраг навуковых і навукова-дасьледчых устаноў. Сельска-Гаспадарчы НДІ ім. Леніна, Інстытут Соц. Гігіены, Інстытут Фізыотрыі і Ортопэдыі, Санітарна-Гігіенічны, Тубэркулёзны, Одонтолёгічны і Пэдагогічны інстытуты, якія яшчэ больш павялічылі склад навуковых працаўнікоў.

У 1928 годзе налічвалася ва ўсіх ВНУ і НДІ ужо 512 навуковых працаўнікоў. Партыйцаў сярод гэтых 512 чал. было 65 ч. гэта значыць 13%. Так, што і ў 1928 годзе быў невялічкі прыліў комуністаў. Соцыяльны склад быў вельмі дрэнны, бо адных чуждых элемэнтаў было каля 26%. Нацыянальны склад гэтых 512 ч. быў таксама нездавальняючы, было ўсяго:

| | |
|---|---|
| Беларусаў | 194 |
| Яўрэяў | 94 |
| Палякаў | 12 |
| Рускіх | 212 |

Па спэцыяльнасьці яны разьбіваліся:

| | |
|---|---|
| Точныя навукі | 43 |
| Прыкладныя | 122 |
| Мэдэцынскія | 137 |
| Іншыя | 112 |

У 1929-1930 г. г. першыя гады пяцігодкі, азнаменаваліся яшчэ большым ростам соцыялістычнай прамысловасьці БССР (у 1929 г. 74% прыросту гаспадаркі), яшчэ большым ростам соцыялістычнага сэктару сельскай гаспадаркі і разам з гэтым пашырэньнем сеткі як вышэйшых навучальных устаноў, так і навукова-дасьледчых інстытутаў.

Адчыняецца Хэміка-Тэхнолёгічны Інстытут, Н. Д. І. Прамысловасьці і Будаўнічы Інстытут у Менску. Пэдагогічныя: у Гомелі і Магілеве. Мэханічны і Машына-Будаўнічы ў Гомелі. Разам з тым рэорганізуецца Н. Д. І. імя Леніна, з якога вылучаецца цэлы шэраг самастойных інстытутаў, як Соц. Рэконструкцыі сельскай гаспадаркі і самастойных навукова-дасьледчых станцый. У Менску ад Б. Дз. У. аддзяліўся Мэдыцынскі Інстытут. Рост навуковых устаноў, запатрабаваньне соцыялістычнага жыцьця павялічылі значна навуковыя кадры, і мы маем на першае мая 1931 г. па БССР павялічэньне вышэйшых навукова-дасьледчых устаноў да 37-мі, з іх у Менску: Беларускі дзяржаўны Унівэрсытэт, Беларуская Акадэмія Навук, Мэдыцынскі Інстытут, Хэміка-Тэхнолёгічны Інстытут, Мікра-Біолёгічны Інстытут, Санітарна-Гігіенічны Інстытут, Комвуз, Балотны Інстытут, Агра-Хэмічная лябараторыя, Бульбяная станцыя, Гідра-Мэтэоролёгічны Інстытут, Інстытут Соц. Рэконструкцыі сельскай гаспадаркі, Станцыя зернавых культур, Будаўнічы Інстытут, Інстытут Прамысловасьці, Пэдолёга-Пэдагогічны Інстытут, Інстытут Соцыяльнай Гігіены, Інстытут Стоматолёгіі, Тубэркулёзны Інстытут, Белдзярж. бібліотэка, Музэй; у Горках—4: Горацкая сельска-гаспадарчая Акадэмія, Зоотэхнічны Інстытут, Навукова-дасьледчая малочная станцыя і Навукова-Дасьледчая зональная станцыя льну; у Гомелі—3: Гомельскі Леса-Тэхнічны Інстытут, Агра-пэдагогічны Інстытут і Машына-Будаўнічны Інстытут; у Віцебску—4: Віцебскі Вэтэрынарны Інстытут, Комвуз, Гістарычны музэй, Пэдагогічны Інстытут.

У Магілеве—3: Магілеўскі Пэд. Інстытут, Навукова-Дасьледчая станцыя лекавых расьлін, Дзяржаўны музэй.

Гэтыя 37 навуковых пунктаў аб'ядналі к 1/V-1931 г. 1101 чал. навуковых працаўнікоў, з іх было:

| | |
|---|---|
| У Менску | 793 |
| „ Горках | 138 |
| „ Гомелі | 43 |
| „ Віцебску | 98 |
| „ Магілеве | 29 |

Такім чынам галоўная маса навуковых працаўнікоў знаходзіцца ў Менску. Па навуковай кваліфікацыі яны разьмяркоўваюцца наступным чынам;

| | |
|---|---|
| Акадэмікаў | 23 |
| Профэсароў | 85 |
| Доцэнтаў | 173 |
| Вучоных спэцыялістаў | [illegible] |

| | |
|---|---|
| Асыстэнтаў | 216 |
| Навуков. супрацоўн. | 259 |
| Асьпірантаў | 243 |

Па гарадох яны разьмяркоўваюцца так:

| | |
|---|---|
| Акадэмікаў у Менску | 22 |
| " " Горках | 1 |
| Профэсароў у Менску | 51 |
| " " Горках | 16 |
| " " Гомелі | 8 |
| " " Віцебску | 8 |
| " " Магілеве | 2 |
| Доцэнтаў у Менску | 117 |
| " " Горках | 25 |
| " " Гомелі | 10 |
| " " Віцебску | 20 |
| " " Магілеве | 11 |

Вучоных спэцыялістаў і навук. прац. 1-га разраду:

| | |
|---|---|
| У Менску | 75 |
| " Горках | 3 |
| " Віцебску | 13 |
| " Магілеве | 11 |

Асыстэнтаў:

| | |
|---|---|
| У Менску | 123 |
| " Горках | 56 |
| " Гомелі | 19 |
| " Віцебску | 18 |

Навуковых супрацоўнікаў:

| | |
|---|---|
| У Менску | 214 |
| " Горках | 3 |
| " Віцебску | 24 |
| " Магілеве | 15 |

Асьпірантаў:

| | |
|---|---|
| У Менску | 187 |
| " Горках | 27 |
| " Гомлі | 6 |
| " Віцебску | 23 |

Трэба адзначыць, што гэтая лічба 1101 навуковых працаўнікоў не пасьпявае запросам на навуковую сілу хутка будуючайся прамысловасьці, і зараз нам патрэбна для запаўненьня

катэдр і Інстытутаў БССР каля 350 навуковых працаўнікоў: з іх:

| | |
|---|---|
| Профэсароў | 50 |
| Вучоных спэцыяліст. | 50 |
| Доцэнтаў | 50 |
| Асыстэнтаў каля | 150 |

Найбольш вузкім месцам зьяўляецца Сельска-Гасп. Акадэмія, Б. А. Н. і пэд. ўстановы. Калі мы возьмем партыйны склад гэтых навуковых працаўнікоў разам з асьпірантамі, то мы маем сяброў КП(б)Б і кандыдатаў—300 чал., гэта дае 27% з іх:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Па Менску | 223 чал. | —28% | (793) |
| „ Горках | 32 „ | —23% | (138) |
| „ Гомелі | 14 „ | —32% | (43) |
| „ Віцебску | 21 „ | —21% | (98) |
| „ Магілеву | 10 „ | —43% | (29) |

Сяброў ЛКСМБ маецца—29 чал.

Партыйная праслойка сярод навуковых працаўнікоў СССР па дадзеных 1929 г. складае—6,3%. Трэба сказаць, што ў БССР у 1929-1930 г. партыйная праслойка сярод навуковых працаўнікоў складала 13%.

Павялічэньне партыйнага ядра сярод навуков. працаўнікоў па БССР да 27% ў 1931 г. атрымалася дзякуючы адпаведным мерам ЦК КП(б)Б і пайшло галоўным чынам па лініі асьпірантуры.

У 1929-30 г. асьпірантаў лічылася 124 чал., а ў 1930-31 г. 243 чал., гэта значыць рост каля 100% за год. Сярод 243 асьпірантаў мы маем на 1/V-г. г. 146 сяброў і кандыдатаў КП(б)Б гэта значыць 60% і 29 сяброў ЛКСМБ 12% і беспартыйных 68 чал.—28%. Калі адкінуць асьпірантуру, то процант комуністаў значна зьменшыцца, з 858 навуковых працаўнікоў па БССР партыйцаў налічваецца 154 чал., альбо 18%.

Соцыяльны склад навуковых працаўнікоў далёка стаіць ад таго каб мы маглі быць ім здаволенымі. Мы маем рабочых 7,1%, сялян—34,6%, служачых—48,5%, чужых элемэнтаў—19,2%.

Соцыяльны склад вышэйшых катэгорый профэсароў і доцэнтаў яшчэ больш кепскі:

Сярод профэсароў мы маем:

| | |
|---|---|
| З рабочых | 2,9% |
| „ сялян | 17,2% |
| „ служачых | 61,5% |
| „ чужых праслояк | 18,4% |

Склад доцэнтаў мала палепшыўся:

| | |
|---|---|
| Рабочых . . . . . . . . . . . | 8% |
| Сялян. . . . . . . . . . . . | 23% |
| Служачых. . . . . . . . . . . | 55% |
| Чужых . . . . . . . . . . . | 14% |

У 1925 годзе з чуждых праслоек было каля 26%. Патрэбна прыняць мерапрыемствы, каб паменшыць склад гэтых катэгорый навуковых працаўнікоў, зьвярнуць увагу на вылучэньне на больш адказнае месца маладых навуковых працаўнікоў, выходзячы з рабочага, альбо бядняцка-сялянскага асяродзьдзя. Што датычыцца соцыяльнага складу асьпірантуры, то мы маем з 243 асьпірантаў:

| | |
|---|---|
| Рабочых . . . . . . . . . . . | 20% |
| Сялян. , . . . , . . . . . | 44% |
| Служачых . , . . . . . . . | 23% |
| Саматужнікаў . . . . . . . . | 3% |

У параўнаньні з 1929-30 годам праслойка рабочых сярод асьпірантаў, дзякуючы кіраўніцтву ЦК КП(б)Б і пастанове Студзенскага Пленуму ЦК КП(б)Б у 1930 г. павялічылася з 14% да 20%, але процант рабочых усё-ж малы. Якаснаму паляпшэньню соцыяльнага складу асьпірантуры таксама дапамог лепшы ў гэтым годзе адбор асьпірантаў. Організацыя Ін-ту асьпірантуры таксама ўзмацніла ідэолёгічнае і мэтодолёгічнае кіраўніцтва асьпірантурай, але на жаль практычная праца асьпірантаў, праца іх у лабараторыі і кіраўніцтва з боку профэсуры па некаторых спэцыяльнасьцях недастатковая. Бліжэйшыя гады патрабуюць яшчэ большага вылучэньня асьпірантаў. Гэтых 243 чал. так мала, калі мы ўспомнім, што к канцу пяцігодкі нам патрэбна будзе новых 2000 навук. працаўнікоў. Зараз таксама маецца тое зьявішча, што па цэламу шэрагу дысцыплін мы ня маем асьпірантаў: яны не падрыхтоўваюцца па індустрыяльна-тэхнічных дысцыплінах і інш. Мы маем спробу НДІ Прамысловасьці падрыхтаваць сябе асьпірантаў па замежамі БССР. Другі недахоп гэта—бясплянавасьць набору асьпірантуры: па шэрагу дысцыплін вылучана асьпірантаў мала, а па іншых, як напрыклад: права і сав. будаўніцтва, літаратура, падрыхтоўваюцца у 3 разы больш людзей, чым яны нам патрэбны. Варочаючыся назад да соцыяльнага складу нашых навуковых працаўнікоў, мы можам сказаць, што маецца вялікі процант выходзячых з чужых нам слаёў, гэта трэба помніць добра, каб зразумець меўшыя месца за апошнія гады прыклады працягваньня па катэдрах варожых нам

ідэй, політычна шкодныя настроі некаторых навуков. працаўнікоў. Вялізарны рост социялістычнага будаўніцтва, значныя посьпехі на фронце індустрыялізацыі і социялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі, прахоздзілі разам з абвострываньнем клясавай барацьбы, з яўным і скрытым шкодніцтвам у цэлым шэрагу гаспадарчых оргэнізацый (ВСНГ, Дзяржплян), організацыі контр-рэволюцыйных партый, як ТКП, Промпартыя, нацдэмы і інш. Гэта абвастрэньне клясавай барацьбы, вядома не магло не адбіцца на тэорэтычным фронце, на фронце культуры і навукі. У нас, у БССР, гэта абвастрэньне клясавай барацьбы ўскладнялася яшчэ больш цэлым шэрагам момантаў нацыяльнага характару. Нацыянальным складам навуковых працаўнікоў цікавіліся ЦК КП(б)Б і ЦВК БССР (Нацыяльная Комісія).

На сёньняшні дзень маем

| | |
|---|---|
| Берарусаў | 40% |
| Яўрэяў | 32% |
| Рускіх | 22% |
| Палякаў | 3% |
| Іншых | 3% |

Лічбы гэтыя гаворыць, што наогул нацыянальны склад навуковых працаўнікоў здавальняючы. Па некаторых інстытутах гэтая справа абстаіць кепска і ня можа нас здаволіць. Справа абстаіць нездавальняюча ў Інстытуце Аховы Працы, у Інстытутах НК Ах. Здар. Сухотным, Одонтолёгічным, Мікро-Біолёгічным, Інстытуце Ортопэдыі, а таксама у Ін-це Прамысловасьці.

Нацыянальны склад профэсароў:

| | |
|---|---|
| Беларусаў | 16% |
| Рускіх | 37% |
| Яўрэяў | 25% |
| Іншых | 22% |

Сярод доцэнтаў:

| | |
|---|---|
| Беларусаў | 21% |
| Рускіх | 26% |
| Яўрэяў | 33% |
| Іншых | 19% |

Па ўзросту навук. працаўнікі разьбіваецца на наступныя групы:

| | |
|---|---|
| Да 25-ці год | 3,5% |
| да 25—30 год | 43,8% |
| „ 35—45 „ | 30% |

| | |
|---|---|
| „ 45—55 „ | 16,1% |
| „ 55—65 „ | 6,6% |

Па адукацыі навуков. працаўнікі разьбіваюцца:

| | |
|---|---|
| Скончыўшых ВНУ | 96,2% |
| Інстытут Чыр. Праф. | 0,6% |
| Раніон | 0,5% |
| Сярэднія школы | 2,7% |

Па спэц. навук. кадры разьбіваюцца:

| | |
|---|---|
| Агрономаў | 27,4% |
| Дактароў | 21,1% |
| Педагогаў | 14,2% |
| Экономістаў | 3,5% |
| Біолёгаў | 6,3% |
| Гуманітарыстаў | 12,4% |
| Працаўнікоў тэхнікі | 4,9% |
| Фізыкі і матэматыкі | 3,8% |
| Права | 3,9% |
| Мастацтва | 1% |
| Розныя | 1,5% |

Што датычыцца да продукцыі навук. працаўнікоў, то з 1101 чал. маюць кнігі 13%, журнальныя артыкулы 39%, не маюць нічога 48%.

Гэтыя лічбы гавораць аб недастатковым якасным складзе нашых навук. працаўнікоў. Калі зьвярнуць увагу на кваліфікаваныя нав. кадры, то яны мала пішуць, асабліва ў апошнія гады. Чаму гэта так? Ня толькі кваліфікацыя тут грае ролю, мы маем перагружанасьць, шмат сумяшчальнасьцяй сярод некаторых асобных высока-кваліфікаваных кадраў, пагоня з вялікім заробкам. Маюцца прыклады, калі навук. працаўнікі заняты па 1200, па 1400 гадзін у год. Такое становішча зусім ненармальнае, калі навук. працаўнік увесь свой час і сілы аддае на павялічэньне свайго заробку і не астаўляе часу для спэцыялізацыі, для нанавукова-дасьледчай працы. Калі мы параўняем комуністаў навук. працаўнікоў, якія нагружаны і грамадзкай і партыйнай працай, з навук. працаўнікамі беспартыйнымі, то выходзіць, што продукцыя комуністаў вышэй, чымся беспартыйных. Так што нізкая навук. продукцыя ня можа быць тлумачана толькі перагрузкай. Маецца другая прычына, яна заключаецца ў тым, што некаторая частка кваліфікаваных навуковых сіл не ўладае марксысцка-ленінскай мэтодолёгіяй,—ня можа яе скарыстаць у сваёй спэцыяльнасьці што выклікае ў іх баязьлівасьць нарабіць шмат мэтодолёгічных памылак. Такія настроі часта п[illegible]цца і на нежаданьне навуковых працаўнікоў выказва[illegible] [illegible] [illegible]ра-

мадзка-палітычных сходах. Гэтыя настроі дзе-ні-дзе харчуюцца левымі заскокамі і загібамі паасобных „ультра-радыкальных“ таварышоў, якія кожную дыскусію, альбо кожную надрукаваную кніжку спатыкаюць жаданьнем ня выправіць па бальшавіцкі памылкі, таварыскі падыйсьці дзе, гэта трэба, але „гараць“ жаданьнем абавязкова разграміць, разьбіць, раздавіць.

Гэта ня значыць, што мы можам аслабіць бальшавіцкую крытыку і самакрытыку ў барацьбе за марксысцка-ленінскую мэтодолёгію. Мы павінны разгортваць усё больш і больш барацьбу за прасачываньнем і працягваньнем варожых нам буржуазных ідэй. Мы павінны гэтую крытыку паставіць так, каб яна цалкам дапамагла будаўніцтву вышэйшай у сьвеце культуры і навукі,—культуры пролетарыяту. Асабліва варожай і нізкай якасьцю была навуковая продукцыя ў нац.-дэмаў БАН і Н. Д. І., якія замест дапамогі соц. будаўніцтву, увязкі навукі з практыкай, тэорыі з жыцьцём, займаліся ідэалізацыяй непатрэбнага архаічнага мінулага, замест сапраўднай хэміі-вывучалі, як і чым фарбаваць яйкі, замест вывучэньня гісторыі клясавай барацьбы ў БССР—вывучалі жыцьцё сьвятых на Беларусі і вывучалі тыпы прычосак шляхцянак Беларусі XVII-га і XVIII-га стагодзьдзяў.

Таксама меў уплыў на вартасьць навуковай продукцыі і на яе ідэолёгічную якасьць высокі процант навуковых працаўнікоў чуждых нам катэгорый, частка якіх знаходзіцца і на сёньня ў радох беларускай сэкцыі. Гэтыя варожыя элемэнты склалі тое становішча, што на шэрагах лепшай часткі навуковых працаўнікоў, адданых справе дыктатуры пралетарыяту, частка навуковых працаўнікоў прынесла шкоду справе рабочае клясы, здрадзіла пролетарыяту, стала агэнтурай польского генэральнага штаба.

Калі бегла прабегчы зьмест сходаў беларускай сэкцыі навук. працаўнікоў, а таксама праглядзець творы некаторых яе сяброў, то мы там угледзім ня мала прыкладаў орыентацыі на капіталістычны захад, орыентацыі на буржуазнае разьвіцьцё сельскай гаспадаркі БССР. (Беларускія кондрацьяўцы, прышчэпаўцы,—Крукаў, Кісьлякоў); навуковае абгрунтаваньне бязклясавасьці навукі (Пічэта), тэорыі самабытнасьці беларускай інтэлігенцыі (Трамповіч) і самую заядлую контр-революцыю. Вяліка-дзяржаўны шовінізм, праяўленьне ўсебаковага пранебражэньня да пабудовы нац. культуры (Макарэўскі, Шчэпоцьцеў, Афанасьеў, Дурнаво), пранебражэньне і іранічныя адносіны да дзяржаўнага будаўніцтва ў БССР выявіліся па цэламу шэрагу галін навукі: Права (Крыльцоў), Лінгвістыка (Воўк-Левановіч). Навуковую легальнасьць асабліва скарысталі нацдэмы, якія пры Керанскім

стаялі за аўтономіі Беларусі, пры польскіх панох—за фэдэрацыю з фашыстоўскай Польшчай, а пры Савецкай Уладзе—за незалежнасьць ад Масквы. З БССР нацдэмы хацелі зрабіць „Крывію“, яны падпраўлялі гісторыю у належным для сябе напрамку (Кастусь-Каліноўскі). Нацдэмы ў сваіх мэтах скарыстоўвалі этнографію (Ластоўскі), мастацтвазнаўства (Шчэкаціхін), гісторыю (Цьвікевіч). Беларускі шовінізм (Гарэцкі) пераплятаўся з вялікадзяржаўным шовінізмам (Хаўке, Дурнаво, Байкоў). Сярод навуковых працаўнікоў спатыкаюцца такія, якія ігнаруюць дыялектычным матэрыялізмам. Спатыкаюцца таксама і такія, якія зьяўляюцца пропагагандыстамі ідэалізму і эклектызму (Арнфэльд і інш.), вульгарнага мэханістычнага матэрыялізму, махізму (Мрочак). У прыкладных дысцыплінах некаторыя навук. працаўнікі скарыстоўвалі нашы вышэйшыя навучальныя ўстановы для буржуазнай навуковай пропаведзі. Так, проф. Шыраеў імкнуўся працягнуць неабходнасьць вастанаўленьня буржуазнага законадаўства аб лясах. Праф. Пармёнаў выступаў з апалёгэцікай капіталістычнай сыстэмы рацыяналізацыі, прывіваючы студэнцтву дзялячэскія прынцыпы, раючы ім у сваіх опэрацыйных процэсах браць прыклад з купцоў „добрага, старога часу“. Проф. Жарынаў апраўдываў мерапрыемствы Сталыпіна па разгону 3-й думы. Проф. Экзэмплярскі ідэалізаваў абрад абрэзаньня яўрэяў, як вельмі неабходны і гігіенічны акт, вучыў студэнтаў, таму, што замазываў клясавую сутнасьць прыему ў Чырвоную армію і казаў, што непрацоўнае насельніцтва не прымаецца ў Чырвоную армію таму, што яно фізычна слаба. Былі прыклады скарыстоўваньня навукі для антысэміцкай пропаганды (Каравайчык). З зругога боку былі прыклады на яўрэйскай сэкцыі Пэд. Фак. скарыстаць навук. працу для пропаганды замкнутасьці яўрэйскай экономікі, скажэньня яўрэйскай навуковай тэрмінолёгііі, стварэньня „единого“ языка (Гольдберг), альбо скарыстоўваньня навукі пад туманнай фразеолёгіяй у мэтах клерыкалізму, самага вульгарнага яўрэйскага клерыкалізму (Рэў-Рэбе). Сярод некаторых навук. працаўнікаў Мэдыцынскага Інстыту яшчэ і да гэтага часу не ізжыты старыя акадэмічныя традыцыі, акадэмічны фэодолізм, буржуазнае прадстаўленьне аб доктарскай этыцы, хрысьцьянскіх адносін да хворага і г. д. Такія прарывы на ідэолгёічным фронце прыцягвалі ўвагу шырокай грамадзкасьці навук. працаўнікоў, яны рашуча рэагавалі супроць варожых нам ідэй, яны змагаліся аа панаваньне марксыцка-ленінскай мэтодолёгіі. Наогул, вялікая большасьць навук. працаўнікоў БССР дапамагае Савецкай уладзе будаваць соцыялізм і выконвае тыя задачы і дырэктывы, якія ставіць перад імі Комуністычная партыя Беларусі.

У барацьбе за сьветлую будучнасьць, гэтыя лепшыя навук. працаўнікі вядуць сваю працу на карысьць дыктатуры пролетарыяту. За апошнія гады ўдзел навук. працаўнікоў у грамадзкіх кампаніях павялічыўся. Паварот тварам да вытворчасьці не застаў навуковых працаўнікоў у расплох. Для правядзеньня у жыцьцё лёзунгу т. Сталіна „Тэхніка масам“, працуюць шмат навуковых сіл, як у Менску, так і па другіх навук. цэнтрах. Створаныя групы „Тэхніка масам“ ужо пачалі працу амаль не ва ўсіх вышэйшых навучальных установах і навукова-дасьледчых інстытутах. Навуковыя працаўнікі шырока прымаюць удзел у перабудове вышэйшай школы БССР, праглядваюць програмы, навучальныя пляны, падручнікі, падрыхтоўваюцца да будучага навучальнага году, працуюць за паляпшэньне актыўных мэтодаў выкладаньня і паляпшэньня вытворчай практыкі студэнцтва, таксама прымаюць удзел у шырокіх грамадзкіх кампаніях, пасеўнай і іншых.

Заем 3-га рашаючага году пяцігодкі сустрэў з боку навуковых працаўнікоў жывы водгук.

Падводзячы вынікі гэтага агляду складу навук. кадраў БССР, мы павінны сказаць, што галоўнай задачай сёньняшняга дня зьяўляецца: павялічэньне кадраў навуковых працаўнікоў, паляпшэньне якаснага складу іх, павышэньнё якасьці навуковай продукцыі, адпавядаючай і падпарадкаванай цалкам социялістычнаму будаўніцтву, паляпшэньня нацыянальнага складу навуковых працаўнікоў па некаторых інстытутах і ўдзяленьне большай увагі да падрыхтоўваньня маладых кадраў—асьпірантуры.

**Г. Л. ЛАЎРАЎ**
Галоўны Архітэктар Будаўніцтва БДУ

## Будаўніцтва Унівэрсытэцкага Гарадку.

Будаўніцтва будынкаў БДУ організаванае рашэньнем Саюзнага Ураду на IV Зьездзе Саветаў, зьявілася адным з першых будаўніцтв на Беларусі, характар і разьмер якіх мажлівы тольkі ў краіне перамогшага пролетарыяту, аб'яднанага брацкай згуртаванасьцю складаючых яе асобных і рознастайных нацыянальнасьцяй, быўшых рознымі па культуры, але зьлітаваных адзіным пролетарскім духам. Сярод насяляючых Савецкі Саюз нацыянальнасьцяй, беларусы лічылася раней аднэй з самых адсталых і забытых культур. З моманту Кастрычнікавай Рэволюцыі воляю Комуністычнай Партыі і Савецкай улады Беларусі былі адчынены шырачэйшыя шляхі для разьвіцьця і ўзмацненьня свае нацыянальнай па форме, пролетарскай па зьместу, культуры, вынік якіх паказваюць нам зараз нанова пабудаваныя грамады корпусаў Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту.

Першапачатковы плян будаўніцтва Савнаркомам БССР на яго паседжаньні за 13/II-28 г. быў зацьверджаны ў наступным выглядзе:

1. Галоўны аўдыторны корпус, дзе сконцэнтраваны розныя аўдыторыі і габінэты гуманітарных дысцыплін пэдагогічнага факультэту, аўдыторыі і габінэты ўсіх дысцыплін права і гаспадаркі, праўленьне унівэрсытэту, дэканаты, канцыляры, студэнцкія організацыі, актавая саля інтэрнат, студэнтаў і г. д.

2. Анатомічны корпус пад дысцыпліны: нормальная анатоміі; патолёг. анатоміі, агульнай патолёгіі, топограф. анатоміі, судовай мэдыцыны, гігіены з вялікай сэкцыйнай, саляй і інш.

3. Хэмічны корпус пад дысцыпліны: неорганічнай, органічнай, біолёгічнай, анатомічнай, фізычнай і колёдіальнай хэміі.

4. Біолёгічны корпус пад дысцыпліны: фізыолёгіі і гістолёгіі, біолёгіі з эмбрыолёгіяй і параўнальнай анатоміяй.

5. Корпус прыродазнаўчых навук з дысцыплінамі: ботаніка, зоолёгія, мінэралёгія, гэолёгія, пэтрографія і палеонтолёгія.





Будаўніцтва БДУ.

Строительство БГУ.





Будаўніцтва БДУ.
Строительство БГУ.





Будаўніцтва БДУ.

Строительство БГУ.

6. Бібліотэчны корпус.

7. Чатыры корпусы клінік: 2 тэрапэўтычна-хірургічных, акушорска-гінеколёгічная і скурна-вэнэрычная.

8. Рад абслугоўваючых пабудоў і абсталяваньняў.

Па цэламу раду прычын установачнага характару, плян гэты ў сваёй апошняй частцы атрымаў некаторыя корэктывы ў сэнсе пабудовы сцэцыяльнага клінічнага гарадку, спэцыяльнага будынку Беларускай Дзяржаўнай Біблотэкі ў значна пашыраным супроць першапачатковага пляну аб'ёме; першы з іх цяпер пабудовай скончаны, а будынак бібліотэкі закончваецца.

Аб'ём пабудаваных будынкаў па вышэйадзначанаму і ў натуры рэалізаванаму пляну складае каля 300.000 м.,$^3$ агульнай каштоўнасьцю, лічачы з надворным упарадкаваньнем каля 8.000.000 руб.; з якіх на долю унівэрсытэцкага гарадку падае звыш 5.000.000 р.

Фактычна да будаўніцтва прыступлена ў маі мес. 1928 г. і дзякуючы праяўленай настойлівасьці і энэргіі тысячнага колектыву рабочых будаўнікоў і тэх. пэрсаналу, у лістападзе і сьнежні 1929 г. і студзені 1930 г. пасьлядоўна паступалі ў экслёатацыю першая 4 корпусы гарадку: мэдыцынскі, анатомічны, прыродазнаўчы і хэмічны, складаючыя 75% агульнага пляну. Галоўны аўдыторны корпус, хаця і мае асабліва грандыёзныя разьмеры і асабліва складаныя конструкцыі, у выніку соц. спаборніцтва, абвешчанага паміж рабочымі ўдарнымі брыгадамі, быў скончаны раней тэрміну і паступіў у эксплёатацыю 1-га лістапада 1930 г.

Унівэрсытэцкі гарадок незалежна ад тэй вялікай ролі, якую ён прызван адыграць у гісторыі разьвіцьця беларускай культуры, пабудован па апошняму слову будаўнічай тэхнікі, з улікам усіх момантаў, дапамагаючых найбольш лепшаму і вольнаму ўспрыйманьню выкладаемых дысцыплін пролетарскімі студэнтамі — будучымі камандзірамі соцыялістычнага будаўніцтва. Вялікая тэрыторыя гарадку, акружаная па свайму пэрымэтру вучэбнымі корпусамі, робіць прыемнае ўражаньне стройнай выразнасьцю і пропорцыяй проставугольных ліній і мас, уласьцівых сучаснай пролетарскай архітэктуры, утвараючы ў генэральнай пляніроўцы выразны проставугольнік, на якім рысуюцца будучыя контуры зялёных насаджэньняў.

Выразнае функцыянальнае пабудаваньне плянаў асобных корпусаў, пачынаючы з асобна выяўленых галоўных уваходаў, з разьвітымі вэстыбюлямі і сходамі, беспамылкова вядуць наведвальнікаў у патрэбныя для іх аўдыторыі, лябораторыі, габінэты і г. д. Широкія корыдоры з вялікаю масаю паветра і сьвятла, з прыгожай пэрспэктывай з канца ў канец прымуша-

юць забываць аб цёмных, затхлых і панурых корыдорах старых навучальных установ і ня могуць не ўзбуджаць у пролетарскага студэнцтва глыбокай эмоцыянальнай зарадкі для перамажэньня раней недаступных яму дысцыплін, к усваеньню якіх цяпер ён атрымаў поўнае права гаспадара.

Жалеза-бэтонныя кесонныя перакрыцьці (перакрыжаваныя бэлькі) у аўдыторных і вялікіх салях, над пралётамі ад 12—20 мэтраў з колькасьцю слухачоў ад 200 до 1200 чал., зьяўляюцца апошнім дасягненьнем у галіне будаўнічай тэхнікі і незалежна ад іх асаблівай надзейнасьці і трываласьці выклікаюць выключна прыемнае зрокавае ўражаньне, асабліва ў тых салях і аўдыторыях, дзе ёсьць дастатковая вышыня.

Сыстэмы ацяпленьня і прыточна-выцяжной вэнтыляцыі сконцэнтраваны ў адным агульным кацельным памяшканьні з агульным кіраваньнем ацяпляльна-вэнтыляцыйнаю гаспадаркаю, з падземнымі разводзячымі паміж корпусамі жал. бэт. тонэлямі, дазваляюць рэгуляваць з аднаго цэнтру ацяпленьнем ня толькі па ступені залежнасьці ад знадворнай тэмпэратуры, але і дазваляюць улічваць натуральную слонечную асьветленасьць і нагрэў ад яе па старанах сьвету. Сыстэма-ж прыточна-выцяжной вэнтыляцыі забясьпячае ўсе рабочыя памяшканьні сьвежым знадворным падагрэтым паветрам, з адпаведным абменам у адносінах да выцягваньня непатрэбнага папсаванага паветру.

Электрычнае асьвятленьне, незалежна ад дзяжурнага асьвятленьня і спэцыяльных запатрабаваньняў лябораторнага асьвятленьня, мае яшчэ магутна разьвітую сець чыста тэхнічнага характару да ўсялякага роду электраўстановак і прылад спэцыяльнага прызначэньня, а таксама і магутна разьвітую сець газаправоду.

Для магчыма здаровага і культурнага адпачынку студэнтаў на некаторых корпусах унівэрсытэцкага гарадку, асабліва на галоўным аудыторным корпусе маюцца плоскія крышы, разьмерам ад 100 да 800 м. з асфальтавым пакрыцьцём, дзе студэнты ня толькі могуць мець адпачынак, але могуць і організоўываць культурныя забавы.

У выніку ўсё разам узятае прадстаўляе сабою закончаны комплекс пабудоў, вялікі як па сваіх разьмерах, так і асабліва па сваім культурна-мэтавым значэньні для краіны; гэта — цэлы комбінат навукі і тэхнікі, прызваны адыграць вялікую ролю ў справе падрыхтоўкі высокакваліфікаваных камандных кадраў, так патрэбных у момант генэральнай рэконструкцыі соцыялістычнай гаспадаркі СССР.



Кацельная.
Котельная.

# Пастанова

## Прэзыдыуму ЦВК Саветаў Беларусі аб адчыненьні ў Менску Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту.

**18/IV 1921 г.**

Прызнаючы, што адчыненьне Унівэрсытэту ў гор. Менску зьяўляецца справаю першачарговае дзяржаўнае важнасьці і настойліва патрабуецца культурнымі, экономічнымі і політычнымі інтарэсамі рабоча-сялянскага насельніцтва Беларусі, Прэзыдыум ЦВК у выкананьне даручэньня 3-й сэсіі ЦВК Саветаў Беларусі за 17-е красавіка, пастанаўляе:

1) Падцьвердзіць раней выданыя пастановы аб адчыненьні ў гор. Менску Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту.

2) Адчыніць Унівэрсытэт у складзе факультэтаў: рабочага, грамадзкіх навук, мэдыцынскага, сельска-гаспадарчага і фызыка-матэматычнага.

Увага: З прычыны раду спэцыфічных асаблівасьцяй Беларус, ў санітарна-гігіенічных адносінах, а таксама і ў сельска-гаспадарчыхі і ў мэтах падрыхтоўкі мясцовых высока-кваліфікаваных дактароў і агрономаў, у якіх адчуваецца вострая недастача, зьвярнуць асаблівую ўвагу на організацыю мэдыцынскага і сельска-гаспадарчага факультэтаў.

3) Пры Беларускім Дзяржаўным Унівэрсытэце заснаваць навукова-дасьледчы інстытут беларускай і яўрэйскай культуры.

4) Адвесьці для патрэб Унівэрсытэту будынкі з пабудовамі і ўгодзьдзямі пры іх былых духоўнай сэмінарыі, жаночага епархіальнага вучылішча, гімназіі Фальковіча, рэальнага вучылішча Хайкіна, фабрыкі „Вікторыя“, земскай больніцы, яўрэйскай больніцы, рускага сабраньня, пабудовы былога вайсковага шпіпю з прылягаючаю да іх тэрыторыяй дзеля пабудовы тутака Унівэрсытэцкага Гарадку, а таксама былыя маёнткі „Лошыца“, з фольваркамі „Зацішша“, „Дуброва“ „Прылукі“ і лясную дачу Ваньковіча.

5) Абавязаць ведамствы і ўстановы, у часовым карыстаньні якіх знаходзяцца пералічаныя вышэй будынкі і маёнткі, пера

даць іх безадкладна ў распараджэньне Наркомасьветы для Беларускага Унівэрсытэту.

**Увага:** Будынкі б. духоўнай сэмінарыі і рускага сабраньня падлягаюць апражненьню не пазьней 1-га ліпеня 1921 г.

6) Прапанаваць Комгосору і Савнаргасу безадкладна прыступіць да рамантаваньня будынкаў і да іншых работ, неабходных для хутчэйшага іх прыстасаваоьня для патрэб Унівэрсытэту.

7) Даручыць Унівэрсытэцкай комісіі, утворанай пры ЦВК, і часоваму праўленьню Беларуслага Дзяржаўнага Унівэрсытэту падаць у месячны тэрмін на зацьверджаньне Савнаркому: а) проэкт мерапрыемстваў, неабходных для магчыма хуткага і поўнага забясьпечаньня Унівэрсытэту патрэбнымі навуковымі дапаможнікамі, як кнігамі, абсталяваньнем для лябораторый, габінэтаў і інш.; б) проэкт правіл аб забясьпечаньні выкладчыкаў і слухачоў Унівэрсытэту жыльлём, харчаваньнем і інш. прадметамі першае патрэбы і в) проэкт пляну організацыі навуковай экспэдыцыі па Беларусі для зьбіраньня і складаньня патрэбных Унівэрсытэту колекцый.

8) Увайсьці ў перагаворы з урадам РСФСР аб асыгнаваньні залатога фонду альбо чужаземнай валюты для набыцьця заграніцаю прэпаратаў, прылад і інш. навуковага інвэнтару для Унівэрсытэту і паклапаціцца адшуканьнем сродкаў на набыцьцё гэтых прадметаў на тэрыторыі Савецкай Фэдэрацыі.

9) Прыняць захады аб прадастаўленьні Беларускаму Дзяржаўнаму Унівэрсытэту кляснага вагону для сталых зносін паміж Менскам і Масквою.

10) Прызнаць адчыненьне Унівэрсытэту ў гор. Менску тэрміноваю і ўдарнаю задачаю і прапанаваць усім наркоматам, Савнаргасу і іншым установам Рэспублікі задавольваць патрабаваньні Унівэрсытэцкай комісіі ў першую чаргу і рабіць Наркомасьвеце ўсялякую дапамогу, патрэбную для выканаваньня гэтай задачы.

Старшыня Ц. В. К. *А. Чарвякоў*

Члены: *Кюссэ,* *Вайнштэйн* *Адамовіч* *Ходош* *Кнорын*

За Сэкратара ЦВК *Клішэўскі*

# ЗЬМЕСТ



Менск. Друкарня БАН. Зак. № 3516. Галоўлітбел № 1673. 1500 экз. 83 стар.



Галоўны будынак.
Главное здание.

# Важнейшыя памылкі друку

| Старонка і радок: | | Напісана: | Трэба чытаць: |
|---|---|---|---|
| 4 | 4 згары | гаворыць | гавораць |
| — | 11 „ | контыгэнтаў | контынгэнтаў |
| 7 | 4 „ | Сельскае Лясное | Сельскае і Лясное |
| 9 | 17 „ | ніводнае навучальнае | ніводнае вышэйшае навучальнае |
| 11 | 5 „ | 13-е красавіка | 18-е красавіка |
| 15 | У табліцы „На рабфаку“ ў графе: „вяч.“ „усяго“ | 336 | 236 |
| — | 7 зьнізу | падрыхтоўцы социяльна | падрыхтоўцы з социяльна |
| — | 2 „ | заявы | заява |
| 22 | 14 згары | квалікаваны | кваліфікаваны |
| — | 21 „ | прымушыла | прымушала |
| 24 | 3 „ | змену | замену |
| — | 14 „ | гэтаа | гэтая |
| 25 | 13 „ | саправа | справа |
| — | 4 зьнізу | абсласнымі | абласнымі |
| 26 | 21 згары | ў тэрмін | ў тэрміне |
| 28 | 5 „ | яе ў рэконструкцыйным | яе рэконструкцыйным |
| 30 | 18 „ | з т. Баліцкім | з Баліцкім |
| 73 | 14 „ | Берарусаў | Беларусаў |
| 78 | 1 „ | Г. Л. Лаўраў | Г. Л. Лаўроў |